запабегчы. Для абмеркавання склаўшайся сітуацыі разам з панамі-радай і ўсёй шляхтай ВКЛ, на з'езд у Вільню ад Лідскага павета было накіравана адразу 19 паслоў. Паслам ставілася задача ў Вільні *«доброго речи посполитое радети»* [2; 42; 8, nr. 192; 1; 14; 391]. Акрамя таго, лідская шляхта даручыла сваім прадстаўнікам на Галоўным з'ездзе разгледзець пытанне аднаўлення дзейнасці ў павеце каптуровага суда пасля элекцыі [8, nr. 192; 1].

Прадстаўляць лідскую шляхту на Галоўным з'ездзе павінна была павятовая палітычная эліта: выхадцы са знатных родаў, мясцовыя земскія і гродскія ўраднікі, палітычныя актывісты. Пасламі сталі лідскі староста і віленскі войскі Ян Абрамовіч, Андрэй і Ян Завішы, Ян Трызна, падкаморы Мікалай Аляхновіч, харужы Павел Круневіч, земскі суддзя Мікалай Скіндэр, земскі падсудак Марцін Юхновіч Сангін, войскі Еранім Абрамовіч-Істоцкі, Ян і Вацлаў Нелюбовічы, Ян і Андрэй Скіндэры, Ян Багуматка, Войцех Александровіч, Іван Бака, Мацей Міцковіч, Пётр Навіцкі, Аляксандр Сіруць [8, nr. 192; 1]. Звернем увагу, што частка з абраных шляхціцаў была моцна звязана з К. Радзівілам. Кліентамі біржанскіх Радзівілаў з'яўляліся Я. Абрамовіч, П. Круневіч, М. Юхновіч Сангін [3, спр. 66; 158–159; спр. 212; 117адв.; 13; 277; 15; 335, 373].

З-за малой прысутнасці шляхты Галоўны з'езд у кастрычніку скончыўся фактычна безвынікова. У пастанове з'езда і лістах да абодвух прэтэндэнтаў на ўладу ў Рэчы Паспалітай яшчэ раз падкрэслівалася, што ВКЛ не прызнае вынікаў мінулага элекцыйнага сойма [1; 144–148; 3, спр. 65; 236адв.–238адв.; 6; 272–277; 14; 395–397]. Новы Галоўны з'езд быў скліканы на 8 лістапада 1587 г. у Вільні.

Лідскі павет і на гэты раз актыўна ўзяў удзел у працы з'езда, які адбываўся з 8 па 17 лістапада 1587 г. У Вільні вядома прысутнасць 15 лідскіх шляхціцаў. Частка з іх ужо ўдзельнічала ў папярэднім Галоўным з'ездзе Вялікага Княства: Я. Абрамовіч, Я. Трызна, П. Круневіч, М. Юхновіч Сангін, Е. Абрамовіч-Істоцкі, Ян або Вацлаў Нелюбовіч, П. Навіцкі. Частка ў кастрычніку ў Вільні не прысутнічала: лідскі падстароста Матыс Саковіч Камароўскі, гродскі суддзя Ян Даўлюд, гродскі пісар Рафаэль Рожчыц, Пётр Абрамовіч, Лаўрын Сангін (сын М. Юхновіча Сангіна, лідскі пасол на элекцыйным сойме 1587 г.), Багдан Перапеча, Якуб Гаўрыловіч і Цімафей Бокей [6; 277–278; 8, nr. 211; 1–2]. На гэты раз сярод паслоў былі моцныя пазіцыі не толькі К. Радзівіла, але і Я. Абрамовіча (будучы менскі і смаленскі ваявода), які, у сваю чаргу, як ужо адзначалася, сам быў радзівілаўскім кліентам. Так, блізка з лідскім старостам былі звязаны Е. Абрамовіч-Істоцкі, М. Саковіч Камароўскі і Р. Рожчыц [3, спр. 285; 393адв.; 9; 67].

У Вільні адбылося галасаванне шляхты ВКЛ па абедзвюм кандыдатурам. Максімільян атрымаў 70 галасоў, а будучы кароль і вялікі князь Жыгімонт Ваза – толькі 13 [6; 277–280; 8, nr. 211; 1–4]. Паказальна, што ўсе 15 лідскіх шляхціцаў аддалі свае галасы эрцгерцагу, а за шведскага каралевіча не прагаласаваў ніводзін [6; 277–278; 8, nr. 211; 1–2]. Тым не менш, на з'ездзе вырашылі накіраваць да Максімільяна і Жыгімонта Вазы адмысловую дэлегацыю з сенатараў і земскіх паслоў, якая б і прыняла рашэнне аб падтрымцы з боку Вялікага Княства Літоўскага таго ці іншага прэтэндэнта. У шляхецкую частку гэтага пасольства былі вылучаны і прадстаўнікі лідскай павятовай эліты – Я. Абрамовіч і Я. Трызна (сын былога смаленскага кашталяна Рыгора Трызны) [3, спр.65; 242адв.–246; 6; 287, 292; 8, nr. 200; 1–2; nr. 201; 1; 14; 400–405].

Тым часам, барацьба за ўладу паміж Максімільянам і Жыгімонтам Вазам складвалася на карысць апошняга. Новы з'езд ВКЛ, які праходзіў 19–24 снежня 1587 г. у Берасці, канчаткова падтрымаў кандыдатуру шведскага каралевіча [14; 407–409]. Было абрана і новае пасольства Вялікага Княства Літоўскага на каранацыйны сойм у Кракаў. Цікава, што на гэты раз такія прыхільнікі кандыдатуры эрцгерцага Максімільяна як Я. Абрамовіч і Я. Трызна ў склад дэлегацыі не ўвайшлі [3, спр. 65; 257; 6; 309].

Першы вальны сойм Рэчы Паспалітай у час панавання новага караля і вялікага князя, склікані ў Варшаве на 6 сакавіка 1589 г., павінен быў прымірыць расколатую палітычную эліту краіны. Адным з паслоў Лідскага павета, хутчэй за ўсё, быў будучы менскі ваявода і земскі падскарбі ВКЛ, уладальнік на Лідчыне часткі маёнтка Бакшты А. Завіша [10; 238, 242]. Нагадаем, ён не быў прыхільнікам эрцгерцага Максімільяна. Больш за тое, ёсць падставы меркаваць, што менавіта А. Завіша быў адным з тых, хто падтрымаў Жыгімонта Вазу яшчэ на элекцыі ўлетку 1587 г.

Аднак большая частка палітычна актыўнай шляхты Лідскага павета ў 1587 г. выступіла на баку кандыдатуры з дынастыі Габсбургаў. Верагодна, гэта было адной з прычын даволі апазіцыйных адносін лідскай шляхты да палітыкі Жыгімонта Вазы ў канцы XVI ст. Так, Лідскі павет адмаўляўся ўхваляць падатак у 1592 г. і выплочваць пабор 1593 г., актыўна супрацьстаяў спробам караля і вялікага князя ў 1591–1600 гг. прызначыць паляка на ўрад віленскага біскупа – вышэйшы духоўны ўрад Вялікага Княства Літоўскага, у цэлым негатыўна ацэньваў функцыянаванне інстытутаў дзяржаўнай улады Рэчы Паспалітай [3, спр. 285; 275адв.–276, 409; 7; 212; 8, nr. 361; 1–2; nr. 383; 1–2; 9; 46; 11; 412–414].

Такім чынам, лідская шляхта актыўна брала ўдзел у палітычнай барацьбе, якая разгарнулася ў Рэчы Паспалітай у цэлым і ВКЛ у прыватнасці пасля двайной элекцыі 1587 г. Найбольш актыўна ўдзельнічалі ў падзеях трэцяга бескаралеўя Я. Абрамовіч, А. Завіша, Л. Сангін, Я. Трызна. Можна меркаваць, што ў гэты час з дапамогай кліентальных сувязей значны ўплыў на мясцовую шляхту аказвалі біржанскія Радзівілы. Пераважная большасць палітычнай эліты Лідскага павета ў гэты час падтрымала кандыдатуру эрцгерцага Максімільяна Габсбурга, што напэўна паўплывала на складаныя стасункі лідскай шляхты з каралём і вялікім князем Жыгімонтам Вазам, прынамсі, у 1590-я гг.

Літаратура:


1. Лаппо И. И. Великое княжество Литовское во второй половине XVI столетия. Литовско-русский повет и его сеймик. Юрьев, 1911.
2. Лойка П.А. Шляхта беларускіх зямель у грамадска-палітычным жыцці Рэчы Паспалітай другой паловы XVI–першай трэці XVII ст. Мінск, 2002.
3. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Мінску. Фонд КМФ-18. Воп. 1. Спр. 65, 66, 212, 285.
4. Российская национальная библиотека в Санкт-Петербурге. Фонд 957. Pol. F. IV. № 130.
5. Российская национальная библиотека в Санкт-Петербурге. Фонд 971. Собрание автографов П.П. Дубровского. Авт. 127.
6. Akta zjazdów stanów Wielkiego Księstwa Litewskiego. T. 1: Okresy bezkrólewi / Oprac. H. Lulewicz. Warszawa, 2006.
7. Archiwum Domu Radziwiłłów. Listy ks. M.K. Radziwiłła Sierotki – Jana Zamoyskiego – Lwa Sapiehy. Kraków, 1885.

8. Archiwum Główne Aktów Dawnych w Warszawie. Archiwum Radziwiłłów. Dz. II. NrNr. 191, 192, 196, 200, 201, 211, 361, 383.
9. Archiwum Główne Aktów Dawnych w Warszawie. Archiwum Radziwiłłów. Dz. V. Nr. 16.
10. Codex diplomaticus Regni Poloniae et Magni Ducatus Lituaniae. Vilnae, 1758. T. 1.
11. Dyaryusze sejmowe roku 1597. W dodatkach: akta sejmikowe i inne odnoszące się do tego sejmu / Wyd. E. Barwiński. Kraków, 1907.
12. Dyjaryjusze sejmowe r. 1587: sejmy konwokacyjny i elekcyjny / Wyd. A. Sokołowski. Kraków, 1887.
13. Lietuvos Metrika = Lithuanian Metrica = Литовская Метрика / Liet. istorijos inst. Kn. 51: 1566–1574. Vilnius, 2000.
14. Lulewicz H. Gniewów o unię ciąg dalszy (Stosunki polsko-litewskie w latach 1569–1588). Warszawa, 2002.
15. Ragauskienė R. Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės kancleris Mikalojus Radvila Rudasis (Apie 1515–1584 m.). Vilnius, 2002.

***А.Ф. Самусік***
***г. Мінск***

# ЛІДСКІ ПІЯРСКІ КАЛЕГІУМ

Бескапрамісны характар супрацьстаяння каталіцкай і пратэстанцкай цэркваў у Еўропе XVI ст. прывёў да таго, што перамога Контррэфармацыі ў асобнай краіне акрамя іншага мела вынікам манапалізацыю тутэйшай адукацыйнай справы езуітамі. Разам з тым, сістэма навучання ў школах гэтага ордэна абмяжоўвалася граматыка-рытарычнымі прадметамі, што не магло ўжо цалкам задаволіць тагачасныя патрэбы еўрапейскіх дзяржаў. Як след гэтага з сярэдзіны XVII ст. пры актыўнай падтрымцы грамадства пачалі набіраць моц навучальныя ўстановы іншых манаскіх ордэнаў ды асветніцкіх арганізацый, вучэбны працэс у якіх уключаў выкладанне дакладных і прыродазнаўчых дысцыплін, а таксама быў арыентаваны на патрыятычнае выхаванне.

У Рэчы Паспалітай заслуга ў пашырэнні новых ідэй у педагогіцы належыць каталіцкаму ордэну піяраў, якія былі запрошаны сюды каралём Уладзіславым IV Вазай у 1641 г. У адрозненні ад езуітаў яны не цікавіліся палітыкай і не займаліся місіянерскай дзейнасцю. Галоўнай мэтай членаў гэтага ордэну было набожнае выхаванне моладзі. Ад іншых жа сваіх калег яны адрозніваліся пакорлівасцю, сціпласцю і працавітасцю [1; 250-251].

У ВКЛ піяры заснавалі першую ўласную навучальную ўстанову толькі ў 1693 г. у Любяшове (Пінскі павет). А росквіт іх дзейнасці тут прыйшоўся на 1720-1730-я гг., калі не толькі была ўтворана асобная Літоўская правіцыя ордэна (1736) і адкрыта звыш дзесятка калегіумаў, але і распачата справа па арганізацыі ў Вільні ўласнай акадэміі з правамі універсітэта [2; 292]. Аднак падобная актыўнасць выклікала адказную рэакцыю з боку езуітаў, якія карысталіся вялікім уплывам у асяроддзі мясцовай правячай эліты і здолелі ўцягнуць піяраў у шэраг судовых разбіральніцтв. Іх вынікам стала выданне 28 сакавіка 1738 г. асэсарскім судом у Брэсце дэкрэту, дзе адзначалася незаконнасць дзеянняў піяраў на тэрыторыі ВКЛ. Тут гаварылася, што школы піяраў ў Вільні, Балотні ў Лідскім павеце (суч. Воранава) і Геранёнах у Ашмянскім павеце былі адчынены без уліку прывілеяў Віленскай езуіцкай акадэміі, дадзеных той сеймамі Рэчы Паспалітай, а таму павінны быць ліквідаваны. Піярскі ордэн спрабаваў апеляваць да Ватыкана, але папа рымскі Клімент XII загадаў піярам згадзіцца з пастановай суда – інакш на ўсе іх тутэйшыя кляштары будзе накладзены інтэрдыкт, а свецкія улады атрымаюць права арыштаваць школьнае кіраўніцтва і настаўнікаў [3; 124-135].

Піяры былі вымушаны прызнаць перамогу езуітаў і ў 1740 г. тры азначаных вышэй калегіума спынілі сваю дзейнасць. Разам з тым, унук ініцыятара адкрыцця піярскай школы ў Воранава староста лідскі і падстолій літоўскі Ігнацый Сцыпіён дэль Кампа здолеў дабіцца ад віленскага біскупа Міхала Зеньковіча ў 1756 г. дазволу адкрыць замест яе новы піярскі калегіум у Лідзе. Пры гэтым, дадзеная навучальная ўстанова захавала фундушы Воранаўскай школы (50 тыс. зл. з прыбыткаў ф. Лапацызна і в. Вільканцы), а таксама атрымала новыя (юрыдыка ў Лідзе з вадзяным млыном, ф. Пастаўшчызна). Меліся пры калегіуме і фундушы на бясплатнае ўтрыманне ды вучобу моладзі. Стацэвічы выдзялілі ажно 20 тыс. зл. на навучанне ў Лідзе юнакоў з іх роду

(канкрэтныя асобы кожны раз вызначаліся самімі фундатарамі), а Тамаш Мідгала перадаў піярам з гэтакай жа мэтай яшчэ 12 тыс. зл. [4; 261-262]

У першыя гады свайго існавання піярская школа ў Лідзе месцілася ў арэндаванай манахамі карчме на вул. Віленскай (заняткі вялі два настаўніка – Язэп Кантрыньскі і Язэп Віславух). Аднак, дзякуючы добраму фінансаванню ўжо ў 1759 г. Лідзе быў утвораны поўны 6-класны піярскі калегіум, для якога ўзвялі асобны будынак. Пры гэтым, яго вучэбная праграма ўлічвала дасягненні польскіх піяраў на чале з С. Канарскім у мадэрнізацыі вучэбна-выхаваўчага працэсу: у першым класе юнакі праходзілі асновы лацінскай граматыкі, арыфметыкі, сусветнай гісторыі і геаграфіі; у другім і трэццім – латынь, творы антычных аўтараў, арыфметыку, геаметрыю, гісторыю Францыі і яе славутых ураджэнцаў; у чацвёртым – польскую мову і літаратуру, айчынную гісторыю і алгебру; у пятым гэтыя курсы дапаўняліся фізікай і астраноміяй; а ў шостым – красамоўствам, прыродным і айчынным правам. Ва ўсіх класах таксама чытаўся Закон Божы і паралельна з засваеннем асноўнага курсу юнакі авалодвалі французскай і нямецкай мовамі. У платным пансіёне пры школе заможныя вучні па жаданню таксама маглі навучыцца танцам, маляванню, фехтаванню і верхавой яздзе. Замацоўвалі ж атрыманыя на занятках веды яны праз удзел у працы школьнага тэатра (ініцыятар стварэння ў 1771 г. Антоні Мікуцкі), дзе ставіліся п’есы як антычных, так і еўрапейскіх аўтараў [5; 96].

У часы дзейнасці Адукацыйнай камісіі Лідскі піярскі калегіум застаўся пад кантролем піяраў, але быў рэарганізаваны ў 3-класнае падакруговае вучылішча з 6-гадовым тэрмінам навучання. Ён быў падпарадкаваны Гродзенскай акруговай школе і быў абавязаны з 1780 г. узгадняць з Віленскай Галоўнай школаў усе пытанні вучэбнага характару, а таксама прымаць свецкіх візітатараў [6; 130]. Нажаль, якраз у гэты час у Лідскіх піяраў з’явіліся праблемы з фінансаваннем. Значныя даўгі прывялі да звальнення ў 1782 г. часткі настаўнікаў і рэзкага скарачэння колькасці выхаванцаў (са 100 да 50). Толькі ўмяшанне кіраўніцтва ордэна і фінансавая дапамога з боку Адукацыйнай камісіі не далі Лідскай школе ўвогуле спыніць сваё існаванне (колькасць вучняў вагалася ад 60 да 80 у год) [7; 53, 122, 267].

Вызначальным для далейшага лёсу Лідскага калегіума стаў 1797 г., калі ў горадзе спыніўся Павел І. Імператар звярнуў увагу на дрэнны стан піярскага кляштара і ахвяраваў з казны ажно 5 тыс. руб. срэбрам на пабудову новага мураванага касцёла і развіццё школы [8; 150]. Нягледзячы, аднак, на гэта паляпшэнне спраў у апошняй ішло вельмі марудна, што знайшло сваё адлюстраванне ў колькасці тутэйшых выхаванцаў: у 1801 г. і было 49 (39 з шляхты, 3 з мяшчан, 2 з разначынцаў, 5 з “приказных”), у 1802 – 25, у 1803 – 59 [9; 447]. У дадзены перыяд пасаду прэфекта тут займаў 41-гадовы Рыгор Янкевіч (з шляхты Упіцкага павета, скончыў школу ў Расіёнах, а таксама Віленскую акадэмію), якому дапамагалі тры настаўніка: курсы права і красамоўства вёў 32-гадовы Леапард Рамашкевіч (з шляхты Упіцкага павета, скончыў школу у Паневежы); курсы матэматыкі і фізікі – 29-гадовы Андрэй Канюшэўскі (з шляхты Лідскага павета, мясцовы выхаванец); адказны за першы клас – 20-гадовы Францішак Стукевіч (з шляхты Жмудскага княства, скончыў школу ў Дубровіцы). Мясцовая бібліятэка налічвала 627 кніг. Таксама пры школе мелася 8 “матэматычных інструментаў” [10; 229-230, 249-250].

Пасля ўтварэння Віленскай навучальнай акругі Лідскі піярскі калегіум атрымаў статус 4-класнага павятовага вучылішча з прэфектам і 5 настаўнікамі. Яго вучэбная

праграма была істотна пашырана і ўключала шырокі спектр гуманітарных і прыродазнаўчых прадметаў: Закон Божы, польская, лацінская, грэчаская, французская, нямецкая і руская мовы, міфалогія, гісторыя ВКЛ, мараль, логіка, фізіка, прыродазнаўства, хімія, астраномія, матэматыка, геаметрыя, стэрыяметрыя, трыганаметрыя, архітэктура, тэхналогія, мінералогія, прыроднае, палітычнае, народнае права, палітэканомія, каморніцтва, садаводства, батаніка, тэорыя вакцынацыі (прышчэпліванне воспы), рацыянальная сельская гаспадарка, чыстапісанне, маляванне, танцы і музыка. Аналізуючы змест вучэбных праграм тагачасных айчынных манаскіх школ вядомы рускі даследчык А. Пагодзін пісаў: "Образование тут давалось широкое, не слишком основательное, но не забивающее ума и самостоятельной мысли, а школьны режим не убивал души" [11; LXIX].

Што датычыцца непасрэдна Лідскага піярскага павятовага вучылішча, то, нажаль, трэба адзначыць, што ўвайсці ў лік лепшых тагачасных манаскіх вучылішчаў Беларусі яно так і не здолела. У першую чаргу тлумачыцца гэта вострым недахопам сродкаў (часам іх не было нават на харчаванне настаўнікаў), а таксама прэтэнзіямі на кляштар з боку розных афіцыйных "квартарантаў". З 1803 г. у школьным будынку месцілася вайсковая паліцыя, а ў 1805-1807 гг. манахі ўвогуле былі вымушаны часова спыніць заняткі, бо на пастой у кляштары стаў буйны рускі атрад [12; 495]. Пасля ж аднаўлення працы лічба выхаванцаў тут працягвала вагацца ў межах 40-45 юнакоў. У 1811 г. піярскі правінцыял нават разглядаў магчымасць ліквідацыі Лідскай школы, бо поспехі тутэйшых вучняў былі слабымі – вучні першага класа не здолелі адказаць на пытанні візітатара, а з выхаванцаў другога класа ніхто не здаў на станоўчую адзнаку пераводны экзамен у трэці клас [13; 174].

Рэалізаваць гэты праект не дазволіў толькі пачатак руска-французскай вайны 1812 г. У час апошняй Лідская школа не працавала, хаця манахі мясцовага піярскага кляштара падтрымалі французаў і дапамагалі ім у харчаванні арміі і лячэнні хворых ды параненых. Настаўнік Каласанты Гаўлоўскі, пры гэтым, нават выступіў з одай у гонар Напалеона на ўрачыстым сходзе ў касцёле св. Іосіфа 15 жніўня з нагоды дня нараджэння імператара [14; 296]. Пасля ж нармалізацыі становішча ў рэгіёне якасць выкладання школе істотна палепшылася (гэта адзначыў сам папячыцель акругі кн. Адам Чартарыйскі ў час рэвізіі 1817 г.), але лічба выхаванцаў тут па-ранейшаму заставалася вельмі нізкай – у 1820 г. тут вучылася ўсяго 18 юнакоў (выклікана моцнай канкурэнцыяй з боку суседніх манаскіх вучылішчаў). Дадзены факт кіраўніцтва ўжо не магло больш ігнараваць і ў 1821-1824 гг. у Лідзе працавала толькі парафіяльнае вучылішча [15; 134].

Апошні перыяд існавання Лідскага піярскага калегіума прыйшоўся на вельмі складаныя ў айчыннай гісторыі часы. Пасля падаўлення паўстання 1830-1831 гг. руская адміністрацыя ў краі ўзяла курс на суцэльную ліквідацыю манаскай сістэмы асветы. Ужо 30 студзеня 1833 г. па загаду папячыцеля акругі Г. Карташэўскага ў Ліду былі накіраваны рускія настаўнікі, якія павінны былі ўвайсці ў курс спраў і забяспечыць нармальную працу школы у "пераходны перыяд". Ну а 9 верасня 1834 г. тутэйшая навучальная ўстанова была ўвогуле канфіскавана ў піярскага ордэна і рэарганізавана ў 3-класнае павятовае вучылішча для мяшчан. Аднак, дадзены тып школ ў Беларусі не набыў папулярнасці і ў 1835 г. улады былі вымушаны частку з іх зачыніць, а на месцы ацалелых адкрыць 5-класныя даваранскія павятовыя вучылішчы [16; 488-489].

Падобная навучальная ўстанова была створана і ў Лідзе, але праіснавала яна толькі да 1865 г. калі была пераўтворана ў 2-класнае гарадское вучылішча.

Такім чынам, можна сцвярджаць, што менавіта дзякуючы піярам Ліда звыш 75 год заставалася значным рэгіянальным цэнтрам культуры і адукацыі. Нажаль праблемы з фінансаваннем і моцная канкурэнцыя не далі тутэйшаму калегіуму як след развіцца, але нават нягледзячы на гэта ён здолеў унесці істотны уклад у развіццё асветніцкай справы на Гродзеншчыне – сярод яго найбольш вядомых выхаванцаў былі: прафесар батанікі Віленскага універсітэта Станіслаў Юндзіл, пісьменнік Войцах Нарбут, аўтар 10-томнага "Польскага гербоўніка" Ян Баброўскі, прэзідэнт Таварыства навук і мастацтва пры Віленскім універсітэце (1804-1808), капелан Віленскай гімназіі Францыск Гадлеўскі і інш. [17; 167].

Літаратура:


1. Самусік А. Ф. Піяры // Рэлігія і царква на Беларусі. Мінск: БелЭн, 2001. С. 250-251.
2. Topolska M. B. Społeczeństwo i kultura w Wielkim Księstwie Litewskim od XV do XVIII wieku. Poznań – Zielona Gora, 2002. 448 s.
3. Szulc W. Spory Akademji Wileńskiej z pijarami o wyłączne prawo na szkoły // Ateneum Wileńskie. 1939. R. XIV. Z. 1. S.70-144.
4. Kościałkowski S. Z dziejow ofiarności na rzecz nauki i nauczania na Litwie // Nauka Polska: W 8 t. Warszawa: Wyd-wo M. Arcta, 1925. T. 5. S. 241-296.
5. Самусік А. Ф. Станаўленне гуманітарна-прыродазнаўчай сістэмы адукацыі ў піярскіх калегіумах Беларусі ў першай палове XVIII стагоддзя // Весці Нацыянальнай Акадэміі навук. Серыя гуманітарных навук. 2006. № 5. Ч. 1. С. 94-96.
6. Protokoły posiedzeń Komisji Edukacji Narodowej. 1773-1785 / Oprac. M. Mitera-Dobrowolska. Wrocław: Ossolineum, 1973. 492 s.
7. Raporty generalnych wizytatorów szkół Komisji Edukacji Narodowej w Wielkim Księstwie Litewskim. (1782-1792) / Oprac. K. Bartnicka, I. Szybiak. Wrocław: Wyd-wo PAN, 1974. 599 s.
8. Толстой Д. А. Римский католицизм в России: В 2 т. СПб.: Тип. Ф. Сущинского, 1876. Т. 2. 254 с.
9. Bielinski J. Uniwersytet Wileński: w 3 t. Kraków: Druk. W. Anczyca i Spólki, 1899-1900. T. 1. 485 s.
10. Сборник материалов для истории просвещения в России: в 4 т. / под ред. И. П. Корнилова. СПб.: Тип. П. П. Сойкина, 1893-1898. Т. 1. 1165 ст.
11. Погодин А. Виленский учебный округ. СПб.: Тип. П. П. Сойкина, 1901. 134 с.
12. Крачковский Ю. Ф. Исторический обзор деятельности Виленского учебного округа. Вильна: Тип. А. Г. Сыркина, 1905. 565 с.
13. Beauvois D. Szkolnictwo polskie na ziemiach Litewsko-Ruskich. 1803-1832: w 2 t. Lublin: Redakcja Wydawnictw KUL, 1991. T. 2. 1991. 459 s.
14. Военский К. Акты, документы и материалы для политической и бытовой истории 1812 года: в 3 т. СПб.: Тип. П. П. Сойкина, 1909-1912. Т. 1. 582 с.
15. Beauvois D. Szkolnictwo polskie na ziemiach Litewsko-Ruskich. T. 2.
16. Дополнения к сборнику постановлений по Министерству Народного Просвещения. 1803-1864. СПб.: Тип. П. П. Сойкина, 1867. 1096 ст.
17. J. M. G. Pijarzy w Polsce // Podręczna Encyklopedya Kościelna: w 44 t. / pod. red. Z. Chełmckiego. – Warszawa: Gebethner i Wolff, 1904-1916. T. 31-32. S.137-171.

*Л.Л. Лаўрэш*
*г. Ліда*

# МЕСЦА ЗАКЛЮЧЭННЯ ВОСТРАЎСКАГА ПАГАДНЕННЯ 1392 Г.

4 жніўня 1392 года было заключана Востраўскае пагадненне. Падпісалі яго з аднаго боку кароль польскі Уладзіслаў II, ён жа Вялікі князь літоўскі, рускі і жамойцкі Ягайла, і яго жонка польская каралева Ядвіга, з другога боку князь гарадзенскі Вітаўт і яго жонка Ганна. Яны дамовіліся спыніць міжусобную вайну. Вітаўт стаў фактычным уладаром Вялікага княства Літоўскага. Пагадненне паклала канец братазабойчай вайне, прывяло да разгрому крыжакаў на палях Грунвальда і дазволіла Вялікаму княству Літоўскаму неўзабаве дасягнуць найбольшага росквіту і магутнасці.

Пагадненне было заключана ў маёнтку Востраў. Але да гэтага часу лакалізацыя маёнтка Востраў (Ostrów, Ostrowo) выклікае спрэчкі сярод краязнаўцаў і гісторыкаў. Ёсць нават меркаванне аб тым, што яно адбылося пад Люблінам у населеным пункце Востраў-Любельскі. Аўтар, працуючы з "Дзеямі народа Літоўскага" Т. Нарбута, знайшоў інфармацыю аб месцы, дзе знаходзіўся Востраў. У 5-тым томе “Дзеяў...”, (выданне 1839 г., Вільня, на старонцы № 491, у дадатку № 1) [1]. Нарбут піша: “Востраў, у павеце Лідскім, на захад ад Ліды недалека Мыто, за левым берагам ракі Дзітва, раней уласнасць скарбу літоўскага, дзе быў вялікі палац і да гэтага часу фундамент і склепы захаваліся, гарод меў памер 9 моргаў, у апошнія часы належала да Тадэўша Нарбута, Падкаморага Лідскага. Зараз, пасля здрабнення праз exdywizye, ёсць невялікім фальфаркам, які належыць да паноў Міхалоўскіх” (Ostrow w powiecie Lidzkim, na zachód Lidy niedaleko Myta, za lewym brzegiem rzeki Dzitwy, niegdyś ogromna majętność skarbu litewskiego, gdzie były pałace obszerne, jak dotąd fundamenta i sklepy przekonywają, ogrod owocowy miał zawierać w sobie 9 morgów przestrzeni, pod ostatnie czasy należała do Tadeusza Narbutta, Podkomorzego Lidzkiego. Dziś w zdrobnieniu przez exdywizye jest niewielkim folwarkiem, należącym do PP. Michałówskich).

“**За левым берагам**” – гэта адносна Мыто. Такім чынам маем, што Востраў знаходзіўся на левым – лідскім беразе Дзітвы.

У кнізе Чэслава Малеўскага “Роды шляхецкія на Літве ў XIX стагоддзі, Лідскі павет” [2] чытаем, што панам Міхалоўскім, сярод іншага належаў **Востраў** (1832 - 1845 гг.) **з вёскай Янцавічы** – 350 дзесяцін, 40 душ мужчынскіх, 35 жаночых, у 1845 г., Лідская парафія. Знаходзім у Малеўскага і дадатковую інфармацыю аб уладальніку маентка Востраў: Севярын Міхалоўскі (Michałowski Seweryn - **Ostrów** – 39 dusz [3].

Неабходна дадаць, што ў польскім “Слоўніку геаграфічным” [4] таксама прысутнічае фальварак Востраў Міхалоўскіх у вясковай акрузе Сукурчы. Так як Сукурчы знаходзіліся прыкладна ў адным кіламетры ад Янцавіч і Вострава, то гэта яшчэ адно ўказанне на местазнаходжанне легедарнага маёнтака.

І ў расійскім спісе населеных пунктаў 1904 г., маёнтак Востраў на рацэ Крупка, належыць Міхалоўскім. На рацэ Крупка фігуруе яшчэ і засценак Востраў, які належыць Гейштоўту (Гейштоўты – вядомы разгалінаваны шляхецкі род Лідчыны герба Гейш. Трохі на поўдзень, па рацэ Дзітва была вялікая ваколіца Гейштоўты). Ужо тое, што назва засценка адрозніваецца ад прозвішча гаспадара, сведчыць аб тым, што засценак быў набыты. Ч. Малеўскі [5] таксама не піша аб тым, што Гейштоўты валодалі гэтым

засценкам у XIX ст. Яўна, што засценак - гэта частка здрабнелага маёнтка Востраў. Астатнія населеныя пункты Лідскага павета з назвай Востраў: на раце Жыжма, пад Васілішкамі, каля Дубіч і інш. ў нашым кантэксце цікавасці не маюць.

І ў спісе польскага бізнесу 1929 г. фальварак Востраў Лідскай гміны належыць Міхалоўскім.

Далейшы пошук працягваўся па мапам.

Ва ўнікальнай працы Т. Новака "Вобраз Лідчыны на мапах XVI – XVIII ст." [6] прааналізаваны 25 старажытных мап і складзена зводная табліца ўсіх населеных пунктаў Лідчыны, якія прысутнічаюць на старых мапах. Надрукаваны копіі ўсіх гэтых мапаў. Але ж Востраў адсутнічае.

Няма такога населенага пункта нават на дастаткова падрабязных мапах Радзівіла – Макоўскага 1613 і 1633 гг.

На нямецкай мапе 1913 г. (перадрук старой мапы 1893 г.) каля Янцавіч абазначаны фальварак Востраў. Далейшы пошук па мапах вывеў на польскую тапаграфічную мапу 1929 г. На ёй Востраў абазначаны, і назва падаецца на польскі манер: „Fw. Ostrowo" (фальварак Острово). Параўнанне розных мап дазволіла прыйсці да высновы, што на тапаграфічнай мапе 1983 г. на месцы Вострава абазначана зялёная купка дрэў.

Пасля знаходжання маентка на мапе, устала задача знайсці яго на мясцовасці.

Перад паездкай, аб маёнтку Востраў паразмаўляў с **Юзэфам Юзэфавічам Хрулём** (1929 г. нараджэння, герба Праўдзіц) - сынам апошняга уладальніка фальварка Волкавічы што на 7 км на поўдзень ад Вострава. І Юзэф Юзэфавіч адразу сказаў, што добра ведае такі фальварак! Гэта была адзіная кропка с такой назвай вакол Ліды ў бок Мыта. Апошні уладальнік гістарычнага месца – Барташэвіч. Гаспадар пакінуў сваю маёмасць у 1939 г. Фальварк быў добра бачны з гасцінца з боку Крупава як зялены сад с домам і пабудовамі. Барташэвіч апошні раз з'явіўся на лідчыне ў сярэдзіне 50-х гадоў, паглядзець што сталася с ягонай маёмасцю. З кнігі Ч. Малеўскага ("Роды шляхецкія на Літве ў XIX ст., Лідскі павет" Вільня 2005 г. стар. 78-80 ) бачна, што Барташэвічы - вялікі і разгалінаваны шляхецкі род Лідскага павета гербаў Бонча і Самсон. Самае цікавае, у 1835 г. Барташэвічам належалі Кербедзі, якія мяжуюць з Вострававам. Верагодна таму Барташэвічы купілі здрабнелы маёнтак. Улічваючы, што яшчэ ў 1929 г. фальварак належаў Міхалоўскім, то Барташэвічам ён перайшоў у 30-я гады XX стагоддзя. Міхалоўскія валодалі ім больш за 100 гадоў.

Разам з Юзэфам Юзэфавічам выехалі ў Янцавічы. І першы ж жыхар вескі Янцавічы адразу згадзіўся правесці нас да Вострава. Тапонім з такой назвай жыве да нашага часу! Жыхары Янцавічаў і зараз памятаюць, што ўладальнікамі Вострава былі Міхалоўскія. А Барташэвіча ўжо не помняць. Мясцовы жыхар – **Ткацэвіч Франц Чэслававіч** (1953 г. нараджэння) расказаў, што аб існаванні фальварка ён чуў ад старэйшых. Сам жа памятае толькі каменныя падмуркі з рэшткамі пабудоў. Большы падмурак меў памеры прыкладна 25х10 м. Фальварак быў засаджаны дрэвамі, добра запомнілася вялікая груша. У пачатку 80-х гадоў XX ст. бульдозерамі падмуркі і рэшты пабудоў былі зруйнаваныя і адсунутыя на 150 м да ваколіцы Янцавічаў у вялікую яму прыкладана 8х20 м. Груда зямлі і вялікіх апрацаваных камянёў і валуноў ляжыць на тым жа месцы і зараз. Гэта ўсе, што засталося ад найстаражытнейшага на лідчыне маёнтка Востраў. Ад гэтых каменёў, каля 150 метраў на ўсход (арыентыр – труба лідскай ТЭЦ), у полі Франц Чэслававіч упэўнена паказаў месца, дзе стаяў фальварак.

Па рэльефу поля і зараз бачна пляцоўка двара. У 150 м на поўнач знаходзяцца вясковыя могілкі. Так скончыў сваё гістарычнае існаванне Востраў – адзін с першых населеных пунктаў Лідчыны. Маёнтак, ад назвы якога пайшоў другасны тапонім - вёска Астроўля.

Франц Чэслававіч расказаў, што ў мінулым годзе на месцы фальварка цэлы тыдзень шукаў скарб металашукальнікам "чорны археолаг". Але нічога для сябе каштоўнага не знайшоў. Для "чорнага археолага" гэта безназоўны фальварк, знойдзены, верагодна, па польскай мапе 1929 г. Але з яго працы скарысталіся і мы. На месцы маёнтка ён выкапаў вялізную колькасць ямаў і шурфоў. На паверхні ляжаць металічныя часткі гаспадарчых прылад, цвікі, фрагмэнты цэглы, керамікі і нават два патрона. Яўна ў зямлі застаўся вялізны культурны пласт. І хто ведае, можа на глыбіні захаваліся падмуркі. Павінны былі застацца і рэшты склепа ці лядоўні.

Былая жыхарка вёскі Заполле (2 км ад Вострава) **Паўлюкевіч Ядвіга Іосіфаўна** (1940 г. нараджэння) таксама выдатна ведае гэты тапонім і добра памятае пабудовы. З яе слоў, гэта быў вялікі драўляны аднапавярховы панскі дом з высокімі, у рост чалавека каменнымі падмуркамі. Дом меў належны ганак з чатырма высокімі каменнымі прыступкамі. У доме было 5 пакояў (4 вялікіх і адзін малы) і кухня. Каля дома былі: гумно, свіран, хлеў, лядоўня і флігель для наёмных працаўнікоў. Пасля 2-й сусветнай вайны ў доме знаходзіўся ФАП, і жыла сям'я мэдыкаў Смалякоў. У 1963 - 1964 гадах дом быў пакінуты людзьмі.

Вось так, ідучы па шляху Нарбута, быў знойдзены найстарэйшы маёнтак Лідчыны Востраў. Уся прамая і ўскосная інфармацыя аказалася дакладнай. Факты шчыльна леглі адзін да аднаго "без зазору" і падцвердзіліся на месцы. З вопыту краязнаўца ведаю, што так бывае нячаста.

Верагодна Востраў быў абраны, як месца сустрэчы па некалькіх чынніках.

Па-першае, маёнтак знаходзіўся на мяжы Гарадзенскага княства, якое належала Вітаўту, і лідскімі ўладаннямі Ягайлы. Мяжа праходзіла па рацэ Дзітва.

Па-другое, каля Вострава праходзіў старажытны шлях з Вільні ў Кракаў. І найстаражытнейшы мост праз раку Дзітва на шляху з Вільні на Варшаву ў 1392 г. знаходзіўся як раз насупраць Вострава, у Рулевічах. Мост праз Дзітву ў Мыто быў пабудаваны толькі ў канцы XV ст. [7].

На адлегласці ў некалькі кіламетраў ад маёнтка Востраў знаходзіўся Лідскі замак, дзе два ўладары маглі атрымаць годны прыём. Але ў студзені таго ж 1392 г. атрады крыжакоў на чале з камандорамі Янам Румпенгаймам, Конрадам Ліхтэншцейскім разам з войскам Вітаўта (які ў той час яшчэ змагаўся з Ягайлам за кантроль над Літвой) разрабавалі і спалілі горад і замак. Таму Ліда не магла належным чынам прыняць стрыечных братоў.

Т. Нарбут на той жа старонцы № 491 "Дзеяў ...", у дадатку № 2 (выданне 1839 г., Вільня) дае спасылку на крыніцу інфармацыі аб пагадненні: "Tranzakcyi w Ostrowiu zawartej nieznamy z innych źródeł, prócz Łubieńskiego. Opera Poslhuma etc. Antwerp. 1643. Rozprawa de Jure Reg. Pol. ad Rusch. Mosch. ditiones. gdzie p. 184 przytacza, tytuł tej tranzakcyi pod datą Ostrovo die S. Dominici A. 1391, rok mylny. Mówi o poręce przez Annę, Xiężnę Witoldową, za męża Królowej Jadwidze wydanej, tamże tę mamy u Krumera spomnianą."

Кнігу Любеньскага ўдалося адшукаць. Вось яе дадзеныя: Stanislai Lvbienski [...] Opera posthvma, historica, historo-politica, variiqve discvrsvs, epistolae, et aliqvot orationes [...] edita ab execvtoribvs testamenti, 1643.

На старонцы 184 ён піша аб тым, што Вітаўт, князь Літоўскі, віной якога было паўстанне (culpa rebellionis) супраць Кароны, вярнуўся пад уладу караля Уладзіслава. Пагадненне падцвердзіла Ядвіга, каралева Польшчы. Заключана у Востраве (datum in Ostrowo) ў 1393 г. у Дзень Св. Дамініка.

Нарбут з памылкай цытуе Любеньскага "datą Ostrovo die S. Dominici A. 1391", на старонцы № 184 паданы 1393 г., (nonagesimo tertio). Год, як і піша Нарбут, памылковы.

Цікава аб пагадненні пісаў Ян Длугаш [8]: "Уладзіслаў, кароль Польскі ... прагнучы забяспечыць спакой Літвы, да якой як да роднай зямлі меў найвялікшае шанаванне ... пастанавіў нарэшце паяднацца з князем Вітаўтам і даць яму ўладу над Літвой і Руссю, бо іншыя браты ягоныя былі аматарамі палявання і п'янства і не былі здатныя да кіравання дзяржавай. Дзеля гэтай мэты патаемна выслаў Генрыка, князя Мазавецкага, які быў абраны біскупам Плоцкім..., але потым парушыўшы стан духоўны, родную сястру Вітаўта ... узяў за жонку). ... кароль Польскі Ўладзіслаў на прыканцы месяца ліпеня выехаў у Літву, а 7 жніўня стаў ў Востраве, туды ж для сустрэчы прыбыў князь Вітаўт з найбольш адданымі прыхільнікамі, і з доўгай пачцівай просьбай, слязмі заліты, умольваў караля аб прабачэнні для сябе і дараванні сваёй віны. Кароль Ўладзіслаў адпусціў яму ўсе правіны. Потым выправіўся з ім ў Вільню... і не толькі вярнуў Вітаўту спадчынную тэрыторыю і замкі, але і ўсю Літву і Русь з замкамі аддаў пад ягоную ўладу...". Длугаш пісаў, што дзеля заключэння пагаднення, Ягайла выехаў ў Літву! Аналіз і параўнанне сучасных мапаў Польшчы з мапай заходніх межаў ВКЛ з кнігі Казлова Л. і Цітова А. "Беларусь на сямі рубяжах" [9] дазваляе сцвярджаць што Востраў-Любельскі не ўваходзіў у склад ВКЛ (Падляшша).

Падрабязная гісторыя Вострава – гэта справа будучага даследавання. У агульных рысах гэта можна зрабіць ужо зараз.

На момант падпісання пагаднення 1392 г. маёнтак быў уласнасцю скарбу ВКЛ.

Цікавую інфармацыю аб Востраве дае выбітны лідскі гісторык першай паловы XX ст. Міхал Шымулевіч [10]. Ён піша, што на мапе "Rizzi Zannoni", выданай ў 1772 г. у Парыжы, між Лідай і Мыто, намаляваны вялікі лес з назвай "Лес Лідскі". Гэты лес уваходзіў ў Лідскае староства і быў падзелены між маёнткамі Дайнова, Цыбары і інш. Напрыканцы XVI ст. Ян Янавіч Завіша, падкаморы Лідскі, а потым кашталян і ваявода Віцебскі выкупіў маёмасць, якая належала яшчэ ягонаму дзеду, Андрэю Завішу – Белагруду. Па смерці выяводы Віцебскага Белагруда разам з Жырмунамі і Востравам перайшла ягонаму пляменніку Мікалаю Завішу, таксама кашталяну Віцебскаму. Пасля смерці бяздзетнага Мікалая Завішы, ўся гэтая маёмасць перайшла да ягонай удавы а потым, напрыканцы XVII ст. да Ганны Завішы, дачкі Яна Юрыя Завішы, старасты Браслаўскага. У сярэдзіне XVIII ст. Жырмуны і Востраў з Белагрудай – маёмасць кн. Барбары Радзівілл (з Завішаў). Ад яе пераходзіць да сына – Станіслава Радзівілла (1722 - 1784), падкаморага літоўскага, і далей – Мікалаю Радзівіллу, уладальніку Жырмун. Т. Нарбут піша, што перадапошнім гаспадаром Вострава быў Тадэўш Нарбут, падкаморы Лідскі, таму недзе напрыканцы XVIII - пачатку XIX ст. Востраў набываюць Нарбуты. У час напісання "Дзеяў ..." нашым вялікім гісторыкам Востраў "пасля здрабнення праз exdywizye, ёсць невялікім фальфаркам, які належыць да паноў Міхалоўскіх". Згодна з

Малеўскім у Міхалоўскія становяцца гасападарамі ў 1831 г. Верагодна, што маёмасць Нарбутаў была сканфіскавана за ўдзел у паўстанні 1831 г. І ў 30-я гады XX ст. Востраў усе яшчэ маёмасць Міхалоўскіх.

Міхал Шымулевіч піша, што ў XVIII ст. у Белагрудскую парафію ўваходзіла маёмасць князёў Радзівілаў: Востраў, Дайнова, Вялікае Вольжава, Тарноўшчына. Акрамя касцёлу ў Белагрудзе, парафія мела некалькі капліцаў: ў Востраве, Дайнове, Дзітве, Вялікім Вольжаве і інш. Белагрудскую парафію стварыў біскуп Война ў 1719 г. з частак лідскай і ваверскай парафій. Межы парафіі часта мяняліся. Апошняе размежаванне зрабіў арцыбіскуп Галавінскі в 1844 г. Таму не дзіўна, што ў Малеўскага, інфармацыя якога грунтуецца на віленскіх архівах, ў 1831 г. Востраў належыць да Лідскай парафіі.

Сумуючы, можна зрабіць выснову, што маёнтак Востраў Міхалоўскіх, аб якім пісаў Т. Нарбут, знойдзены. Археолагі маглі б знайсці рэшты падмуркаў XIV ст. там, дзе пазней стаяў фальварак Востраў. Але, ці захавалася нешта ў зямлі пасля ўсіх бедаў, якія прайшлі па нашай зямлі?

Літаратура:


1. Teodor Narbutt. DZIEJE STAROŻYTNE NARODU LITEWSKIEGO. Wilno, 1839. T. 5, S. 491.
2. Czesslaw Malewski. Rody szlacheckie na Litwie w XIX wieku. Powiet Lidzki. Wilno, 2005. S. 175
3. Czesslaw Malewski. Wykaz alfabetyczny z 1844 r. majątków pow. Lidzkiego ze wskazaniem właścicieli i ilości dusz męskich przez nich posiadanych według spisu 1834 r. // "Ziemia lidzka" kwiecień, 2004 r., nr 2 (60).
4. Słownik Geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich, Warszawa, 1888, T. 7, S. 727.
5. Czesslaw Malewski. Rody szlacheckie na Litwie w XIX wieku. Powiet Lidzki. Wilno, 2005. S.114
6. Tadeusz Nowak. Obraz Ziemi Lidzkiej na mapach XVI - XVIII wieku // Z dziejow ziemi Lidzkiej. Warszawa, 1997.
7. Michał Szymielewicz. Rzeka Dzitwa // "Ziemia lidzka",1936 r., nr1.
8. Jana Długosza, kanonika krakowskiego Dziejów polskich ksiąg dwanaście. Przekład Karola Mecherzyńskiego, Krakow, 1868; T. 3, ks. 9, 10; S. 470.
9. Казлоў Л., Цітоў А. Беларусь на сямі рубяжах, 1993, с.19.
10. Michał Szymielewicz. Białohruda.// "Ziemia lidzka", 2001 r., nr 2(45).

*А.В. Демидович*
*г. Лида, ЛК УО «ГрГУ им. Я.Купалы»*

# ХОЗЯЙСТВЕННЫЕ РЕФОРМЫ XVI В. НА ЛИДЧИНЕ В ОСВЕЩЕНИИ РОССИЙСКОЙ ДОРЕВОЛЮЦИОННОЙ ИСТОРИОГРАФИИ

Хозяйственные мероприятия, происходившие в ВКЛ на протяжении XVI в., непосредственным образом затронули территорию современного Лидского региона. В российской историографии второй половины XIX – начала XX вв. социально-экономическое развитие Лидчины не являлось предметом специального исследования, однако изучалась в контексте хозяйственной политики и реформ, проводимых великокняжеской администрацией.

В монографии, посвященной рецепции немецкого права М.Ф. Владимирский-Буданов утверждал о негативном влиянии магдебургского права на города ВКЛ, приведшего к их упадку, в том числе и г. Лиду [1; 173]. В исследовании В.Б. Антоновича крестьянского землевладения княжества можно определить повинностное и податное положение сельского населения Лидчины до середины XVI в., а также его социально-правовой статус [2; 49]. Более подробную характеристику социально-экономического и правового положения населения Лидчины можно извлечь из характеристики Ф.И. Леонтовича сословной структуры населения западной части ВКЛ [3; 9-10].

Исследователи киевской историко-правовой школы считали, что аграрная реформа и магдебургское право привели к закрепощению крестьянства, упадку городов, национально-религиозному и социальному противостоянию в обществе. Подобной позиции придерживались представители исторической школы «западноруссизма»: М.О. Коялович, И.Д. Беляев, П.Д. Брянцев, А.О. Турцевич и др. Однако следует отметить неординарный взгляд П.О. Бобровского, утверждавшего на основании исследований городов Гродненской губернии, что введение магдебургского права имело положительное экономическое значение для хозяйственного развития ВКЛ [5; 23].

Новым шагом в изучении социально-экономической жизни Лидчины явились исследования М.К. Любавского, рассмотревшего по материалам Литовской метрики хозяйственную деятельность органов центральной власти во главе с великим князем и провинциальной администрацией. Исследователь отметил, что в период княжения Казимира и Александра, а также в первые годы правления Сигизмунда I административно-судебную власть в Лидском повете осуществляли великокняжеские наместники, но затем в актах упоминаются уже державцы. М.К. Любавский на основании архивных документов относил Лиду в дореформенный период к числу Виленских дворов, хотя и отмечал, что «прямых указаний на правительственную деятельность Виленского воеводы в ее повете не удалось разыскать в памятниках изучаемого времени» [6; 100]. Лидский повет, по описанию историка, охватывал господарские дворы, непосредственно относящиеся к Лидскому замку, владения местных служилых бояр (в военном пописе 1528 г. называются около 80 мелких землевладельцев, из которых 37 выставляли в войско себя, а остальные совместно вооружали 49 конников) и частновладельческие отчины.

М.К. Любавский, характеризуя хозяйственную политику правительства в начале XVI в. отметил, что она отправлялась «от старины», т.е. практически вся хозяйственная деятельность великокняжеских наместников-державцев сводилась к систематическому сбору податей и контролю за выполнением повинностей населением. Однако военные нужды, по убеждению историка, при благоприятно сложившейся внешнеэкономической торговой конъюнктуре, заставляли правительство реформировать государственное хозяйство, что привело к появлению устав 1514 и 1529 гг. и «Наказа старостам и державцем». Сущность этих экономических мероприятий, по мнению исследователя, заключалась в рационализации ведения хозяйства с целью увеличения доходности господарских дворов путем перехода от сбора натуральных податей к денежному оброку, усилением контроля над взысканием податей и выполнением повинностей и увеличением запашки дворовой земли [7; 215].

Однако М.К. Любавский подчеркнул недостаточную эффективность этих хозяйственных нововведений, что вынуждало великого князя отдавать в заставу господарские дворы. Так, например, исследователь отметил, что при Сигизмунде I Лида и Белица отдавалась в держание Юрию Ильиничу [6; 160]. Такая вынужденная хозяйственная политика правительства привела к тому, что государства передало в руки шляхты основной государственный земельный фонд, что привело все хозяйственные реформы к ничтожному результату. В доказательство историк отметил, что господарский двор Лидского повета Желудок в 1616 г. был заставлен за 600 коп грошей князю Василию Полубенскому безвозвратно [6; 158]. Продолжением хозяйственных мероприятий, подчеркнул М.К. Любавский, явилось проведение аграрной реформы, направленной не только на создание фольварочного хозяйства, но и на структурное изменение всей экономики страны с целью перехода от натуральной формы хозяйства к денежной [7; 245-247].

М.С. Грушевский отметил большое экономическое значение неманского водного торгового пути, связывающего развитый западный земледельческий регион ВКЛ (в том числе и Лидчину) с ремесленными городскими центрами Западной Европы [8; 123].

М.В. Довнар-Запольский проанализировав размеры налоговых платежей г. Лиды отнес его в разряд городов с незначительным экономическим потенциалом. По данным исследователя Лидский повет в 1560-е гг. приносил дохода не более 100 коп грошей, сбор серебщины с г. Лиды составлял в 1551 г. только 20 коп грошей. Но основе пописа войска 1567 г. с частновладельческих фольварков Лидского повета выставлялось около 980 конников (не учитывая владений М.Ю. Радзивила). Тем не менее, отметил историк, Лида относилась к пятидесяти крупнейшим городам ВКЛ, а получив в 1590 г. королевский привилей на магдебургское право городские жители стали пользоваться правом еженедельных торгов и проводить 2 ярмарки в год [9; 196].

В.И. Пичета, рассматривая ход аграрной реформы, подчеркнул, что Виленское воеводство являлось главным ядром великокняжеских имений, в состав которого входил и Лидский повет, но ко времени земельной реформы большая часть господарских земель перешла уже в руки частных владельцев. По мнению историка, «устава на волоки» производилась на Лидчине в течение 1555 и 1556 гг. По крайней мере, до этого времени, отметил ученый, нет никаких указаний о систематических земельных мероприятиях правительства. Ревизией господарских дворов занимались Станислав Райский и Семен Война. Затем, констатирует исследователь, на место С. Райского был послан Г. Дельницкий, официально называвшийся ревизором дворов

Понеманских. После административно-судебной реформы 1565 – 1566 гг. к Лидскому повету были присоединены соседние волости Троцкого воеводства: Острыно, Василишки, Радунь, Эйшишки, а также крупные панские отчины: Белица, Докудова, Желудок, Жирмуны, Ишчолна, Селец, Щучин, аграрная реформа в которых была проведена шляхтичем Павлом Котовичем [10; 228, 235].

Определив цели и задачи агарной реформы, В.И. Пичета выделил ее основополагающие принципы: 1) целью реформы являлось повышение доходности и производительности господарского хозяйства, что предусматривало создание новых господарских фольварков; 2) повинностное и податное положение определялось в зависимости от количества и качества земли с учетом деления сельского населения на определенные разряды; 3) аграрная реформа направлялась на индивидуализацию владения землей, уничтожение общинного хозяйства, уничтожение чересполосицы и переходу к трехполью; 4) замена натуральных повинностей денежными ставила сельское население в тесную зависимость от внутреннего рынка; 5) аграрную реформу в ВКЛ следует рассматривать в контексте общеевропейской торговой конъюнктуры и развития внутреннего рынка [10; 244-245].

Таким образом, из исследований российской дореволюционной историографии, можно заключить, что Лидчина занимала важное место в экономической жизни ВКЛ и находилась в центре проводимых правительством хозяйственных реформ, итоги которых не были окончательно изучены в российской дореволюционной историографии.

Литература:

1. Владимирский-Буданов, М.Ф. Немецкое право в Польше и Литве / М.Ф. Владимирский-Буданов. – СПб, 1868. – 302 с.
2. Антонович, В.Б. Монографии по истории Западной и Юго-Западной России: в 3 т. / В.Б. Антонович. – Киев, 1885. – Т. 1: Исследование о городах юго-западного края. – 351 с.
3. Леонтович, Ф.И. К истории административного строя литовского государства. I. Сословный тип территориально-административного состава Литовского государства и его прошлое. II. Панский двор в Литовском государстве / Ф.И. Леонтович. – Варшава, 1899. – 104 с.
4. Бобровский, П.О. Исторические сведения о городах Гродненской губернии / П.О. Бобровский. – Гродно, 1861. – 82 с.
5. Любавский, М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута / М.К. Любавский. – М., 1892. – 998 с.
6. Любавский, М.К. Очерки истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно / М.К. Любавский. – М., 1915. – 317 с.
7. Грушевский, М.С. Історія України-Руси: в 10 т. / М.С. Грушевский. – Киев; Львов, 1903 – 1936. – Т.6. – 670 с.
8. Довнар-Запольский, М.В. Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах: в 2 т. / М.В. Довнар-Запольский. – Киев, 1901. – Т.1. – 807 с.
9. Пичета, В.И. Аграрная реформа Сигизмунда-Августа в Литовско-Русском государстве / В.И. Пичета. – М., 1917.– 547 с.

***В.У. Галубовіч***
***г. Гродна, ГДАУ***

# ПАСОЛЬСКАЯ ДАКУМЕНТАЦЫЯ ЛІДСКАГА СОЙМІКА Ў ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ XVII ст.

Канец XVI ст. і большую палову XVII ст. у гісторыі Рэчы Паспалітай прынята называць эпохай праўлення каралёў дынастыі Ваза. Гэта быў час вялікіх перамог і паражэнняў, стратаў і набыткаў, той "срэбны век", які скончыўся найвялікшай трагедыяй у беларускай гісторыі. Для нашага даследавання не выпадкова абрана першая палова XVII ст., якая ахоплівае большую частку праўлення Жыгімонта і Уладзіслава Вазаў. Справа ў тым, што першыя вядомыя дакументы па гісторыі лідскага сойміка адносяцца да канца XVI ст. Напрыклад, захавалася інструкцыя на сойм 1597 г., але гэта выключэнне. Лідская соймікавая дакументацыя часоў Вазаў у адносна вялікай колькасці прадстаўлена толькі першай паловай XVII ст. Мэтай працы з'яўляецца сігналізацыя вынесенай у назву артыкула тэмы, а не яе канчатковае вырашэнне.

Не спыняючыся на асобных дэталях, нагадаем, што лідскі павятовы соймік як інстытут лакальнага шляхецкага самакіравання ўзнікае пасля знакамітых рэформаў Жыгімонта Аўгуста 1565-1566 гг. [5, s.121-126]. З гэтага часу соймікі становяцца важнейшым асяродкам палітычнага жыцця ўсіх павятовых цэнтраў Вялікага Княства Літоўскага і асобным элементам парламенцкай сістэмы Рэчы Паспалітай у цэлым. Кожная ўстанова, тым больш такая, што ва ўмовах Новага часу абслугоўвала патрэбы элітарнай часткі грамадства, не магла абыходзіцца без уласнай сістэмы справаводства. Такім чынам, вынікам увядзення і функцыянавання соймікавага праўлення стала з'яўленне шэрагу дакументаў, якія раней не былі вядомыя ў ВКЛ.

Соймікавай дакументацыяй прынята называць зацверджаныя і зафіксаваныя на паперы падчас соймікавых нарадаў рашэнні. Да іх ліку адносяцца лісты-звароты шляхты да розных асобаў; ляўдыюмы ці ўхвалы (у тым ліку падаткавыя і вайсковыя), якія датычыліся як лакальных, так і агульнадзяржаўных пытанняў; лісты да караля, звязаныя з абраннем павятовыхураднікаў; пратэстацыі; інструкцыі прадстаўнікам павета на соймы [1, s. 455-479; 8, s. 106-127]. У гэтым артыкуле гаворка будзе весціся толькі пра адзін від соймікавых дакументаў, але, бадай жа, самы важны – пасольскія інструкцыі, якія па сваім змесце маюць непасрэдныя адносіны да палітычнага працэсу ў краіне і, што каштоўна, дазваляюць аднавіць яго асаблівасці на лакальным узроўні. Пасольскія інструкцыі складаліся на перадсоймавых сойміках і перадаваліся прадстаўнікам павета, а копіі дакумента актыкаваліся ў кнігі павятовых судовых установаў – як правіла, гэта былі кнігі гродскага суда [1, с. 479; 8, s. 120]. Асобныя копіі з інструкцый здымаліся інфарматарамі і слугамі ўплывовых асобаў для арыентавання ў настроях шляхты.

Пасольская дакументацыя лідскага сойміка першай паловы XVII ст. захавалася фрагментарна. Неацэнную каштоўнасць для яе вывучэння мае Архіў Радзівілаў, які зберагаецца ў Варшаве, і рукапісныя зборнікі бібліятэкі Польскай акадэміі на вук у Кракаве. Толькі ў радзівілаўскіх зборах захаваліся інструкцыі лідскіх соймікаў 1616 г., 1618 г., 1630 г., 1632 г., 1640 г. [3]. Пасольскія наказы лідскай шляхты 1646 г., 1647 г. і 1648 г. трапілі ў акадэмічную бібліятэку Кракава [4]. Далёка не кожны павет ВКЛ можа паганарыцца такой колькасцю дакументацыі, захаванай да нашых дзён. Сам факт,

што лідская пасольская дакументацыя збераглася да нашага часу, сведчыць пра месца павета ў іерархіі рэгіёнаў княства паводле палітычнага ўплыву. Не ставячы за мэту пераказаць змест усіх вядомых інструкцый, ды гэта і ня мае сэнсу, паспрабуем знайсці агульныя праблемы, якія хвалявалі лідскіх абываценляў напрацягу вылучанага перыяду, і паказаць накірунак трансфармацыі іх адзнакаў і настрояў. Дзеля гэтага вылучым асноўныя блокі праблем, якія прысутнічаюць у большасці пасольскіх наказаў. Да іх ліку, у першую чаргу, трэба аднесці пытанні знешняй палітыкі і арганізацыі абароназдольнасці краіны, функцыянавання палітычнай, судовай і фінансавай сістэм, абароны дзяржаўных інтарэсаў ВКЛ, міжканфесійных і міжэтнічных адносінаў.

***Знешняя палітыка і абарона***. Даследчыкі гісторыі Рэчы Паспалітай ужо даўно адзначылі пацыфістычныя настроі шляхецкага стану, яго нежаданне да захопніцкіх авантураў [2, 6]. Лідскую шляхту таксама нельга назваць агрэсіўна настроенай да сваіх суседзяў. Настойлівыя заклікі манархаў рэдка знаходзілі падтрымку ў мясцовых абываценляў. Шляхта з недаверам успрымала інфармацыю аб пагрозе. Так, у 1630 г. лідскія павятовыя актывісты заявілі, што "*пра вярбоўку імператарскага войска нам не вядома*", а ў 1646 г. паслы атрымалі дакладнае даручэнне: "*…дамовы з суседзямі адносна якіх ёсць сумненне ў сяброўстве пацвердзіць*".

Ва ўсведамленні шляхты абавязак арганізацыі абароны ад знешніх ворагаў ляжаў на ўладары краіны. Яму належалі асноўныя "лаўры" за перамогі, падтрыманне міру. Амаль кожны пасольскі наказ утрымлівае падзяку манарху, як у 1640 г., за захаванне "*здароўя Айчыны*". У 1616 г. лідскія абываценлі дзякавалі Жыгімонту Вазе за яго "*бацькоўскі*" клопат аб Рэчы Паспалітай і асабліва за тое, што заклікаў іх на сойм абмеркаваць пытанні знешняй пагрозы.

У полі зроку лідскай шляхты заўсёды знаходзіўся стан абаронных умацаванняў на памежжы дзяржавы. Просьбы аб забеспячэнні усім неабходным замкаў у Рызе гучалі на сойміку ў 1616 г., замка ў Смаленску – у 1640 г., 1646 г., 1648 г., замка ў Дынабургу – у 1648 г. У 1646 г. лідчане нават звярнулі ўвагу на незадавальняючы стан муроў і вайсковай амуніцыі ў сталіцы княства.

Сярод іншых у інструкцыях сустракаецца патрабаванне ўпарадкаваць артылерыю ВКЛ. У 1640 г. лідскія абываценлі сфармулявалі наступны пастулат: "*…каб усе гарматы ВКЛ былі інвентарызаваныя, а адміністратар* [асоба, якая апекавалася артылерыяй] *заставаўся пры сваім пэўным штогадовым жалаванні* ".

Недахопы функцыянавання ***палітычнай сістэмы*** краіны заўсёды заставаліся важнейшай праблемай і добра ўсведамляліся элітай тагачаснага грамадства. Лідскія абываценлі не вылучаліся ў гэтым сэнсе недасведчанасцю і рэгулярна патрабавалі скасавання парушэння права, абмежавання нелегальных формаў ціску на палітычных апанентаў. Сярод пунктаў інструкцыі 1640 г. сустракаем патрабаванне не дапускаць пралангацыю соймавых нарадаў, як і ўвогуле скліканне соймаў, "*extra praefixu tempus*". У 1648 г. у інструкцыю трапіў наступны пункт: "*Мы зразумелі з універсалу Яго міласці арцыбіскупа Гнезненскага ад 9 ліпеня да нас на соймік з Варшавы прысланага, што некаторыя Іх міласці прапаноўваюць спалучыць канвакацыю і элекцыю, каб апошняя праз два тыдні па канвакацыі была праведзена*". Лідская шляхта выступіла супраць парушэння парадку правядзення канвакацыйных і элекцыйных соймаў. Такая пазіцыя ва ўмовах, калі патрабавалася хутка рэагаваць на крызіс у дзяржаве, можа сведчыць як пра дагматычнае стаўленне да права, так і неўсведамленне пагрозы, у якой апынулася Рэч Паспалітая з пачаткам паўстання ва Украіне. Напярэдадні сойма 1616 г. лідская

шляхта з незадаволенасцю адзначыла пашырэнне практыкі прыезду да месца соймавання вялікіх "*грамадаў непатрэбных*", якія суправаджалі сенатараў і ўраднікаў Кароны і ВКЛ, прычым як свецкіх, так і духоўных. Асабліва ж абурала тое, што менавіта духоўныя асобы, якім "*звычайна не належыць мець гвардыю",* прыязджалі з узброеным атачэннем.

Функцыянаванне ***судовых установаў***, якія побач з прадстаўнічымі складалі падмурак дзяржаўна-палітычнай сістэмы і з'яўляліся важным інструментам палітычнай барацьбы, знаходзілася ў цэнтры ўвагі кожнага павятовага абываценя, не магло не стаць прадметам дыскусій на сойміках і соймах. Да некаторых соймаў лідскія абывацелі рыхтавалі цэлыя спісы прэтэнзіяў і рэкамендацый. Да найбольш папулярных пунктаў трэба аднесці абарону аўтарытэту Трыбуналу ВКЛ, як у 1640 г. ці ў 1646 г., калі гучала патрабаванне, "*каб Трыбунальскія дэкрэты заставаліся in suo robore*". Адначасова, як гэта мела месца ў 1646 г., не забывалі выказаць прэтэнзіі, і нават пакрытыкаваць дзейнасць установы, паколькі мелі звесткі, што "*Галоўны Трыбунальскі суд пачаў няслушна абцяжарваць вінамі розныя установы і ўдзельнікаў судовых працэсаў*". Перад канвакацыяй 1648 г. лідскі соймік пагадзіўся, што "*Дэкрэты Галоўнага Трыбунальскага суда прынятыя ўжо пасля смерці Святой памяці Яго каралеўскай міласці і прадстаўленыя Яго міласці арцыбіскупу Гнезненскаму належыць пацвердзіць канстытуцыяй на будучай канвакацыі*", але такое парушэнне права лічыў недапушчальным, таму паслам даручалася прыкласці намаганні, каб у будучым "*адразу пасля смерці каралёў Паноў нашых усе суды спынялі працу*".

У інструкцыі 1640 г. зафіксавана прапанова аб аптымізацыі дзейнасці каралеўскага суда: "*…забяспечыць правам, каб пасяджэнні задворнага суда адбываліся ў пэўным месцы і часе*", а праз шэсць гадоў лідскія шляхціцы абавязвалі паслоў пастарацца, нарэшце, каб "*recessa juris былі раздзелены на тыя, што належаць да кампетэнцыі соймавага, трыбунальскага і задворнага суда*".

***Скарб і фінансы.*** Больш за свабоду шляхта, хіба, любіла толькі грошы. Рэч Паспалітая была краінай, дзе не толькі палітычна, але і гаспадарча дамінаваў шляхціц, з дазволу, згоды і кішэні якога дзяржава атрымлівала сродкі на функцыянаванне. Шляхціцы вырашалі збіраць – ці не падаткі і як імі распараджацца. Лідскі соймік не вельмі ахвотна пагаджаўся на выдачу падаткаў і сваіх паслоў абавязваў не прымаць на сойме падаткі без згоды грамады, як гэта было ў 1640 г., 1646 г., і пакідаць канчатковае рашэнне да рэляцыйнага сойміка. У 1648 г. інструкцыя канстатавала: "*Падаткі, якія зараз ухваляем на выплаты навербаванаму войску і ў будучым будзем прымаць, каб пры павятовых паборцах заставаліся*". Скарб як дзяржаўная ўстанова і яго супрацоўнікі падлягалі кантролю з боку шляхты. Напрыклад, у 1640 г. лідскія абывацелі запатрабавалі ад падскарбія прадстаўлення справаздачы аб зборы падаткаў з каралеўскіх земляў "*на вайсковы апарат*", прычым падскарбі абавязваўся праінфармаваць не толькі паслоў, але і разаслаць на соймікі копіі разрахункаў. Аналагічнае патрабаванне аб справаздачы падскарбія за выдаткаванне грошай з гэтага падатку прагучала і ў 1648 г. Неаднаразова дэкларавалася ў Лідзе патрэба ў выпраўленні дзейнасці манетнага двара. У 1630 г. гэта было сфармулявана такім чынам: "*…манета каб была выпраўлена…*", а ў 1646 г. "*манета…паводле дэкларацыі…Жыгімонта Трэцяга…каб пры Рэчы Паспалітай заставалася*". Сярод пастулатаў знаходзіліся і такія, дзе нават прасочвалася тэндэнцыя да адстойвання

даволі спецыфічнай роўнасці шансаў на ўзбагачэнне. У 1640 г. лідскія абывацелі настойвалі на тым, каб больш адной эканоміі ў трыманні адной асобы не было.

***Абарона інтарэсаў Вялікага Княства Літоўскага.*** У межах поліэтнаканфесійнай Рэчы Паспалітай, якая складалася з частак, якія мелі раней і працягвалі падтрымліваць традыцыі ўласнай дзяржаўнасці, рэальнасцю заставалася не толькі лабіраванне, але і адкрытае змаганне шляхты ВКЛ за свае інтарэсы. У гэты працэс была ўцягнута і лідская шляхта, якая выразна акрэслівала сябе як частку палітычнага народа ВКЛ. Лідская пасольская дакументацыя дазваляе сцвярджаць, што канфлікт у адносінах з кароннай шляхтай не затухаў напрацягу ўсяго перыяду, набываючы розныя формы і розную ступень вастрыні. У 1616 г. глебай для разыходжанняў стала справа па размежаванні земляў Кароны і ВКЛ. Лідскія абывацелі даручалі сваім паслам ініцыяванне стварэння камісіі ў гэтай справе, паколькі "*ужо вялікая частка добраў ад ВКЛ да Кароны адыходзіць*". На перадсоймавым сойміку ў 1640 г. лідскія абывацелі выказвалі прэтэнзіі каронным калегам адносна практыкі ажыццяўлення так званай "*альтэрнаты*", згодна з якой на кожным трэцім сойме маршалкам абіраўся прадстаўнік княства. Лідскі соймік настойліва патрабаваў, каб "*альтэрната соймавай дырэкцыі лічылася не ад разарванага сойма, а ад соймаў, якія скончваліся шчаслівай канклюзіяй*". Адным з яскравых прыкладаў супрацьстаяння каронай і літоўскай шляхты ў XVII ст. стала атрымаўшая шырокі розгалас справа з перадачай Трубецка маскоўскай дзяржаве наўзамен за далучэнне да Кароны земляў ва Украіне. Лідскія абывацелі ў інструкцыі на сойм 1646 г. востра адрэагавалі на факт парушэння тэрытарыяльнай цэласнасці княства назваўшы страту Трубецка, Сярпейска і Вязаўскага стану "*новым парушэннем права*". Лідскія шляхціцы патрабавалі ад сваіх паслоў не толькі высвятлення "*аўтарства*" трансакцыі, але і іх жорсткага пакарання. Кампенсаваць страты страціўшым маёмасць належала наступным чынам "*пакрыўджаным паводле Бога і святой справедлівасці з уласнай маёмасці тых кансультантаў і выканаўцаў абмеркаваць належыць*". Такім чынам, жыхары лідскага павета, не мяжуючы з Каронай ці Масквой, паслядоўна выступалі абаронцамі сваёй айчыны.

На тым жа сойміку ў 1646 г. лідскія абывацелі са спасылкай на акт уніі і соймавыя канстытуцыі нагадвалі аб несупадзенні каронай і літоўскіх судовых юрысдыкцый і прыводзлі як прыклад пастанову кароннага Трыбуналу па справе пана Сеняўскага адносна маёмасцей, якія знаходзіліся на тэрыторыі ВКЛ.

***Рэлігійнае пытанне*** на лідскім сойміку ўздымалася неаднаразова, але яго актуалізацыя мела месца пры адметных акалічнасцях. У 1616 г. лідская шляхта патрабавала, каб "*людзі грэцкай рэлігіі соймавай павагай былі заспакоены*", а ў 1630 г. нагадвала, што "*libertas religiones*" гарантавана як правам паспалітым, так і соймавымі канстытуцыямі. Можна не сумнявацца, што з'яўленне гэтых пунктаў невыпадковае, паколькі і ў 1616 г., і ў 1630 г. паслом ад лідскага павета абіраўся Крыштап Радзівіл, знакаміты лідэр дэсідэнтаў, польны гетман ВКЛ. Міжканфесійныя адносіны ў час праўлення Уладзіслава Вазы нельга назваць асабліва напружанымі, магчыма таму, у 1640-х гадах лідская шляхта абыходзіла гэтае пытанне на соймікавых нарадах. Толькі ва ўмовах міжкаралеўя, калі шляхта імкнулася гарантаваць сабе захаваннне ранейшых праў, праблема ўзнікала сама сабой. Больш таго, выстаўлялася лідскай шляхтай наперад усіх іншых. Перадканвакацыйная інструкцыя, складзеная ў Лідзе 25.VI.1648 г., пачыналася наступным чынам "*У першую чаргу маюць паслы настойваць, каб desidentes in religione непарушна заставаліся пры сваіх канфедэрацыях і*

*старажытных вольнасцях*". Менавіта па гэтай праблеме мясцовыя абывацелі прытрымліваліся адной палітычнай лініі напрацягу дзесяцігоддзяў, бо яшчэ напярэдадні сойма 1597 г. лідскі соймік патрабаваў ад паслоў не абмяркоўваць іншыя справы, пакуль не будуць вырашаны праўным шляхам міжрэлігійныя супярэчнасці [7, s. 115]. Усё гэта сведчыць пра моцныя пазіцыі дэсідэнтаў у павеце.

Непасрэдна з рэлігійнай мяжуе яшчэ адна паўтараючаяся праблема, а менавіта: дачыненні з жыдоўскім насельніцтвам. Для шляхты ўсёй Рэчы Паспалітай увогуле характэрна амбівалентнае стаўленне да жыдоў: з аднаго боку, за іх кошт фармавалася публічная каса, з іншага боку, на жыдоў глядзелі як на звычайных канкурэнтаў у эканоміцы. Лідская шляхта не вылучалася нейкім асаблівым стаўленнем у адносінах да жыдоў. У інструкцыі 1640 г. даваліся рэкамендацыі, як сабраць пагалоўшчыну з жыдоў, якія ўхіляюцца ад падаткаў. Больш пашыраны быў пералік прэтэнзіяў на сойміку 1646 г. У пункце 17 інструкцыі жыды абвінавачваюцца ў звачайным круцельстве, бо пазбягаючы канчатковага разгляду справаў у Трыбунале пераводзяць іх у задворны суд, праз што падважваюць прэстыж галоўнай апеляцыйнай установы краіны. У 23 і 24 пунктах той жа інструкцыі паслам даручалася дабівацца ажыццяўлення раней прынятых дыскрымінацыйных канстытуцый, якія забаранялі здаваць жыдам у арэнду збор мытаў і трымаць у якасці прыслугі хрысціян. У абодвух выпадках прапаноўваліся канкрэтныя меры па ўвасабленні канстытуцый у жыццё: напрыклад, пры заключэнні кантракту з жыдом на скарб прапаноўвалася накласці грашовы штраф і завесці судовую справу, якая перадавалася ў Трыбунал.

Аналіз інструкцый з лідскага сойміка дазваляе зрабіць наступныя высновы. Кожны пасольскі наказ мае свае адметныя рысы, і канкрэтнае яго напаўненне залежала ад зменлівай грамадска-палітычнай ці гаспадарчай сітуацыі. Заўсёды шляхта абмяркоўвала наступныя пытанні: знешняя палітыка, абарона краіны, функцыянаванне дзяржаўных установаў. Па фармальных прыкметах, пэўныя адрозненні былі ў інструкцыях, складзеных у першай трэці XVII стагоддзя і ў пазнейшы час. Першыя вядомыя інструкцыі больш кароткія і менш структурызаваныя. Інструкцыі 40-х гадоў XVII ст. маюць выразны падзел на асобныя пункты. Аналіз лідскіх пасольскіх інструкцый паказвае, што кожны раз шляхта падыходзіла да іх складання з адказнасцю, а паўтор некаторых пунктаў з'яўляўся вынікам сістэмнага невыканання соймавага заканадаўства і недасканаласці дзяржаўнага ладу.

Літаратура:

1. Лаппо, И.И. Великое княжество Литовское во второй половине XVI столетия. Литовско-русский повет и его сеймик. Юрьев, 1911.
2. Сагановіч, Г.М. Ідэя міру і вайны ў пастулатах шляхты ВКЛ1630-х гадоў (паводле інструкцый шляхецкіх соймікаў) // Леў Сапега (1557-1633 гг.) і яго час: зб. навук. арт. Гродна. С. 157-162.
3. Archiwum Główne Akt Dawnych w Warszawie, Archiwum Radziwiłłów, dział II, syg. №№ 646 a, 670, 1030, 1064, 1189.
4. Biblioteka PAU i PAN w Krakowie. Rks. 365, ss. 155-159 v.; 169-174 v.; 200-201 v.
5. Błaszczyk, G. Litwa na przełomie średniowiecza i nowożytności 1492-1569. Poznań, 2002. S.121-126.
6. Dzięgielewski, J. Pokój i wojna w opinii szlachty Rzeczypospolitej czasów Władysława IV // Kultura, polityka, dyplomacja. Studia ofiarowane profesorowi Jaremie Maciszewskiemu w 60 rocznice jego urodzin. Warszawa, 1990. S. 131-140.
7. Kempa, T. Wobec kontrreformacji. Protestanci i prawosławni w obronie swobód wyznaniowych w Rzeczypospolitej w końcu XVI i w pierwszej połowie XVII wieku. Toruń, 2007.
8. Zakrzewski, A.B. Sejmiki Wielkiego Księstwa Litewskiego XVI-XVIII w. Ustrój i funkcjonowanie: sejmik trocki. Warszawa, 2000.

*С.В. Занеўскі*
*г. Гродна, ГрДУ ім. Я.Купалы*

**КРЫНІЦЫ З ГІСТОРЫІ ЛІДСКАЙ ШЛЯХТЫ**
**(канец XVIII - XIX ст.)**

Са знікненнем з палітычнай карты Еўропы Рэчы Паспалітай 14 снежня 1795 г. Ліда ўвайшла ў склад Расійскай імперыі. Праз год 8 жніўня 1796 г. яна стала павятовым горадам Слонімскай, затым Літоўскай (з 1797 г.), Гродзенскай (з 1801 г.), і наканец з 1843 г. - Літоўскай геберніі. Па звестках А. Цітова "Ліда лічылася адным з лепшых гарадоў губерніі" [21, с. 185].

Звычайна ў гістарычнай навуцы выдзяляюць два тыпа крыніц: пісьмовыя і рэчавыя [2, с. 22-23]. Больш падрабязна мы спынімся на першых.

Па-першае, трэба адзначыць, што даследванне крыніц па гісторыі Лідчыны - справа не новая. Аб Лідчыне ў архівах ужо пісалі М. Сачок, Н. Таванюк, І. Трусаў [16; 18; 19], але сярод гэтых даследванняў мы не сустрэнем тых, якія спецыяльна прысвечаны шляхетнаму саслоў'ю. У гэтым плане выдзяляецца замежная гістарычная навука - як гэта не дзіва, менавіта там даследванне крыніц па гісторыі лідскай шляхты ідзе большымі тэмпамі, чым у нашай краіне, і перш за ўсё трэба адзначыць імя Чэслава Малеўскага.

Архіўныя матэрыялы разам з ужо ўведзенымі ў навуковы зварот замежнымі аўтарамі крыніцамі дазваляюць распрацаваць яшчэ не даследваную тэму па гісторыі лідскай шляхты. Так напрыклад праца А. Лютага 20-гадовай даўніны, адна з апошніх па гісторыі сацыяльнага становішча беларускага насельніцтва XIX ст., амаль не дае звестак па гісторыі лідскай шляхты (не гледзячы на даволі шырокае выкарыстанне ў дадзеным даследванні архіўных крыніц). Няма нават дакладных звестак аб самой колькасці прадстаўнікоў шляхецкага саслоў'я па лідскаму павету [4, с.31, 36, 50-51, 54-55, 58-59, 72-73]. Разгледзем гэта пытанне больш падрабязна.

Па звестках Ч. Малеўскага "у першай палове XIX ст. каля 10 % насельніцтва лідскага павета складала шляхта", прычым 70 % з гэтага ліку была аколічная шляхта "якая выйшла з мясцовых баяр" [23, s. 5]. Пры гэтым трэба адзначыць тэндэнцыйнасць погляду польскага гісторыка, які сцвярджае, што "значная частка дробнай шляхты паходзіць з Мазовіі і Падляшша, якія аселі на абшарах лідскага павета пасля Люблінскай уніі і набылі тут зямельныя надзелы" [там жа]. Аднак мы ведаем, што артыкул 12 III раздела Статута 1588 г. забараняў палякам набываць землі на абшарах Вялікага княства Літоўскага [17, с. 46]. Разам з тым пераацаніць уклад Ч. Малеўскага ў разпрацоўку праблемы даволі складана. Ён выявіў у архіўных сховішчах і сістэматызаваў спісы дваранскіх родаў лідскага павету, выкарыстоўваючы пры гэтым касцёльныя парафіяльныя метрыкі і дакументы віленскай Герольдыі. Дадзены матэрыял тым карысны для нас, што таксама прадстаўляе інфармацыю аб родавых гербах, дакладнай даце зацвярджэння роду расійскай герольдыяй, а таксама зямельных валоданнях кожнага з іх. Выкарастоўваючы дадзеную інфармацыю мы можам скласці адпаведную схему па колькасці маёнткаў, якія меліся ў той ці іншай дваранскай сям'і (глядзі табліцу 1).

Табліца 1.

Колькасныя суадносіны маёнткаў і дваранскіх родаў Лідскага павету

| Колькасць маёнткаў | 0 | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Колькасць дваранскіх родаў | 93 | 431 | 142 | 91 | 101 | 58 | 27 | 24 | 24 | 21 | 20 | 14 | 17 | 7 | 13 | 4 | 4 |
| Колькасць маёнткаў | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 28 | 31 | 32 | 33 | 36 | 47 | |
| Колькасць дваранскіх родаў | 8 | 1 | 1 | 3 | 2 | 2 | 1 | 1 | 1 | 3 | 3 | 1 | 1 | 1 | 2 | 1 | |

[Крыніца: 23, s.13-97]

Заслугай аўтара таксама з’яўляецца складанне дакладнага спісу павятовых маршалкаў (глядзі табліцу 2).

Табліца 2.

Спіс маршалкаў Лідскага павета

| Павятовы маршалак | Дата прыбывання на пасадзе |
|---|---|
| Аляксандр Остык-Нарбут | 1798-1816 |
| Ігнацый Скіндэр | 1816-1819 |
| Антоній Скіндэр | 1819-1824 |
| Ігнацый Скіндэр | 1824-1827 |
| Рамуальд Кастравіцкі | 1827-1830, 1839-1844 |
| Антоній Скарбэк Ваёцскі | 1831-1834 |
| Вавжынец граф Путткамер | 1847-1849 |
| Юзэф Марачэўскі | 1850-1855 |
| Стэфан Буткевіч | 1855-1874 |
| Ю.Чэпелеўскі | 1877-1891 |
| Людвік граф Грабоўскі | 1914-1917 |

[Крыніца: 23, s. 6]

Шмат інфармацыі мае фактычны матэрыял па паўстанню 1863 г. у Лідскім павеце, які дае ўсё той жа Ч. Малеўскі. Ён публікуе поўны спіс шляхты гэтага павета, якая падверглася праследванню і была саслана ў ссылку (указана дакладнае месца). Спіс утрымлівае прозвішчы 299 асоб самагарознага ўзросту (дадзеныя прадстаўлены толькі на 191 паўстанца) [23, s. 102-110]. Асаблівую цікавасць выклікае аналіз узросту паўстанцаў. Ён хістаецца ад 15 (2 чалавекі) да 65 гадоў. Аднак гэты ўзрост размеркаваны вельмі неаднародна (табліца 3). Моладзь ва ўзросце ад 15 да 25 гадоў складае 56,5 %

Табліца 3

Аналіз узросту паўстанцаў 1863 г. у Лідскім павеце

| Узрост (гадоў) | 15 - 20 | 21 - 25 | 26 - 30 | 31 - 35 | 36 - 40 | 41 - 45 | 46 - 65 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Колькасць чалавек | 60 | 48 | 23 | 21 | 13 | 13 | 13 |

Акрамя дадзенай працы Ч. Малеўскі таксама апублікаваў алфавітны спіс шляхты Лідскага павету 1844 г. [24] і вопіс шляхты Лідскай 1765 г. [22].

У 1785 г. імператрыца Кацярына II выдала "Жалаваную грамату дваранству", якая вызначыла правы пануючага саслоў'я. Дваране губерніі складалі асобыя таварыствы і збіраліся губернатарам кожныя тры гады на дваранскі сход, дзе выбіралі губернскага і павятовага прадвадзіцеля дваранства. Гэтыя пасады з моманту ўтварэння дваранскага сходу набылі значэнне пастаянных органаў, якія мелі пэўны ўплыў у губернскіх і павятовых справах. Дваранскі сход разглядаў саслоўныя справы, прыём і выключэнне з дваранскага стану, справы аб апеке і інш. У дваранскім сходзе складаліся радаслоўныя кнігі, у якія заносіліся дваране-памешчыкі, пры ўмове іх доказу да прыналежнасці да гэтага саслоў'я. Кожны дваранін, які быў унесены ў радаслоўную кнігу, па дасягненню 25 год меў права на ўдзел у дваранскім дэпутацкім сходзе.

На тэрыторыю былой Рэчы Паспалітай дадзены указ быў пашыраны толькі Паўлам I ў 1797 г. [20]. Ужо ў XIX ст. была ўтворана пасада Лідскага павятовага прадвадзіцеля дваранства (маршалка), архіўны фонд якога (№ 1144) дае каштоўныя матэрыялы па гісторыі шляхты лідчыны. Так імянны спіс дваран 1832 г. [6, л. 1-15 адв.] дазваляе вызначыць колькасць асоб, якія належылі на гэты час да дадзенага састоў'я. Адпаведныя запісы маюць Кніга запісу дваран Лідскага павета за 1822 і 1897 гг. (5724 асобы) [5; 9]. Спіс шляхты за 1851 г. дазваляе вызнычыць прозвішча, імя і імя па бацьку, узрост, склад сям'і, колькасць сялян і зямлі, род заняткаў, час і месца падцвярджэння ў дваранстве [8]. Такія ж звесткі дае Кніга рэгістрацыі жыхароў Лідскага павета за 1832 г., але акрамя шляхты інфармацыя пададзена па ўсім жыхарам дадзенай мясцовасці (4370 асоб) [7]. Сведчаннем мінулага паўстання стала увядзенне графы "Куды і калі менавіта па якой справе, і на які час ад'язджаў". Маецца таксама інфармацыя пра памеры і ўладароў памешчыцкіх маёнткаў на прыканцы XIX стагоддзя (1899 г.) [10].

У 1823 г. была ўтворана Лідская дваранская апека, на якую ўскладалася папячэнне над маёмасцю дваранскіх сірот, а таксама над маёнткамі дваран, якія паступілі ў апякунскае ўпраўленне за далгі Заёмнаму банку. Старшыня дадзенай арганізацыі адначасова займаў пасаду павятовага прадвадзіцеля дваранства, акрамя яго ў дзейнасці апекі прымалі ўдзел ад 2 - да 4 засядацелей (па выбару мясцовага дваранства). Фонд Лідскай дваранскай апекі (№ 1550) утрымлівае дваранскія спісы 1 - 3 стану за 1863 г. [11], якія даюць наступныя звесткі: прозвішча двараніна, колькі маёнткаў і зямлі мае, дзе пражывае і чым займаецца, калі падцвердзіў сваё дваранскае паходженне. Акрамя таго маюцца справы аб усталяванні апекі над маёмасцю

непаўналетніх дзяцей, выдачы спадчынных грошаў паўналетніх памешчыкаў [12], аб адміністрацыі памешчыцкіх маёнткаў, канфіскацыі маёнткаў за даўгі, аб продажы маёмасці і заняцці ў адміністрацыйнае кіраванне памешчыцкіх уладанняў [14, Л. 1-40], указы Сената, цыркуляры МУС, віленскага губернатара аб парадку продажы і залоге маёнткаў, якія належаць непаўналетнім [13] і пратаколы паседжанняў лідскай дваранскай апекі за 1823 - 1825, 1866 гг. [15]. На жаль большасць матэрыялаў дваранскай апекі Лідчыны не дайшла да нас, бо пагарэла ў час вялікага пажару 1891 г., ад якога значныя страты панёс і сам павятовы горад.

Значную інфармацыю па гісторыі лідскай шляхты маглі даць матэрыялы аб дзейнасці ўтворанай у 1834 г. з школы піяраў 5 - класнага дваранскага павятовага вучылішча, якіх на жаль у Гродзенскім архіве абнаружана не было.

Падсумоўваючы атрыманыя колькасныя дадзеныя можна скласці наступную табліцу колькасці прадстаўнікоў дваранства ў Лідскім павеце:

Табліца 4

Колькасць прадстаўнікоў дваранства Лідскага павета

| Год | 1832 | 1863 | 1870-ыя | 1897 |
|---|---|---|---|---|
| Колькасць дваран | 758 | 638 | 1123 | 5734 |

[Крыніца: 6, Л. 1-14; 9; 11; 23, s.13-97]

Сярод важных рэчавых крыніц аб лідскай шляхце трэба назваць прыватныя родавыя гербы. Іх з'яўленне было выклікана жаданнем выдзяліць сябе з масы такіх жа дваранскіх родаў, якіх з цягам часу станавілася ўсё больш. Першыя гербы з'явіліся яшчэ ў XI ст. [1, с.146]. Складаннем і зацвярджэннем дваранскіх гербаў у Расійскай імперыі займалася створаная ў 1722 г. Пятром I Герольдыя, але канчатковае рашэнне заставалася за Сенатам. Аналіз дваранскіх родаў, у тым ліку і Лідскага павета, выяўляе некалькіх уладароў аднатыпнага герба, што гаворыць аб іх роднасных паходжаннях. Як указвае даследчык геральдыкі А. Лакіер: "пячатка тады толькі можа стаць гербам, калі набудзе характар спадчыннасці, г.зн. будзе пераходзіць з роду ў род без змяненняў, і, акрамя таго, набудзе тыя геральдычныя атрыбуты, без якіх няма разумення аб гербе" [3, с. 127]. Пэўную інфармацыю нясе і знаходжанне ў прадстаўнікоў аднаго роду адразу некалькіх гербаў. Так гербам "Праўдзіч" карысталіся Бжэзоўскія, Кунішэвічы, Хрупы, Чэчоты, Цыдзіны і інш. Герб "Леліва" мелі Адынцы, Аляхновічы, Кіршы, Краевічы, Рэкежы, Станевічы, Сцэцэвічы, Яхневічы. А радавы герб "Любіч" маюць у сваім валоданні ўвогуле тры дзесяткі дваранскіх родаў (2,65 % ад агульнай колькасці радоў Лідчыны ў сярэдзіне XIX ст.). Некалькі гербаў у раду мелі, напрыклад, Анжэйковічы, Юрэвічы (па 2) і Вінчы (3 герба). Адным са старэйшых шляхецкіх родаў з'яўляліся Анжэеўскія, якія набылі родавы герб у 1601 г. [23, s. 14]

Такім чынам у даследаванні лідскай шляхты яшчэ застаецца шмат "белых плям", вырашэнню якіх дапаможа актыўны зварот да архіўных і апублікаваных крыніц.

Літаратура:


1. Из истории благородного сословья в Беларуси и соседних государствах /сост. И.В.Чикалов. - Мн.: Энциклопедикс, 2007. - 240 с.
2. Источниковедение: Теория. История. Метод. - М.: РГГУ, 2004. - 701 с.
3. Лакиер, А.Б. Русская геральдика /А.Б.Лакиер. - М.: Книга, 1990. - 432 с.
4. Лютый, А.М. Социально-экономическое развитие городов Белоруссии в конце XVIII - первой полов. XIX в. /А.М.Лютый. - Мн.: Наука и техника, 1987. - 181 с.
5. НГАБ у Гродна Ф.1144 Воп. 1 Спр. 3
6. НГАБ у Гродна Ф.1144 Воп. 1 Спр. 4
7. НГАБ у Гродна Ф.1144 Воп. 1 Спр. 5
8. НГАБ у Гродна Ф.1144 Воп. 2 Спр. 3
9. НГАБ у Гродна Ф.1144 Воп. 3 Спр. 5
10. НГАБ у Гродна Ф.1144 Воп. 3 Спр. 7
11. НГАБ у Гродна Ф.1550 Воп. 1 Спр. 1
12. НГАБ у Гродна Ф.1550 Воп. 1 Спр. 24
13. НГАБ у Гродна Ф.1550 Воп. 3 Спр. 82
14. НГАБ у Гродна Ф.1550 Воп. 3 Спр. 134
15. НГАБ у Гродна Ф.1550 Воп.4 Спр.1
16. Сачок, М.М. Гісторыя Ліды ў дакументах Беларускага дзяржаўнага гістарычнага архіва / М.М.Сачок // Наш радавод. - Кніга 6. - Ліда, 1994. - с.55-59
17. Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г.- Мн.: Беларусь, 2002.- 207 с.
18. Таванюк, Н. Матэрыялы па Лідзе і Лідскаму павету ў нацыянальным гістарычным архіве г.Гродна /Н.Таванюк // Лідскі летапісец. - 2000. - №2. - с.15-17
19. Трусаў, І.Г. Матэрыялы па гісторыі архітэктуры Лідчыны ў беларускіх і замежных сховаішчах /Л.Г.Трусаў // Наш радавод. - Кніга 6. - Ліда, 1994. -с.52-54.
20. Указы государя Императора Павла Первого самодержца Всероссійского: 1796, 1797 г.
21. Цітоў, А.К. Геральдыка беларускіх местаў /А.К.Цітоў. - Мн., 1998
22. Malewski, Cz. Popis szlachty lidzkiej z 1765 roku / Cz.Malewski // Rocznik Stowarzyszenia Naukowców Polaków Litwy. - Wilno, 2005. - s. 168 - 183
23. Malewski, Cz. Rody szlacheckie w powiecie lidzkim na Litwie w XIX wieku /Cz.Malewski. - Wilno: Czas, 2002. - 112 s.
24. Malewski, Cz. Wykaz alfabetyczny z 1844 r. majotkyw pow. Lidzkiego / Cz.Malewski // Ziemia lidzka. - kwieciec. - 2004 r.. - № 2(60)

*И.Л. Грибко*
*г. Минск, БГУ*

# ИЗ ИСТОРИИ ГОРОДСКОГО САМОУПРАВЛЕНИЯ Г. ЛИДЫ (КОНЕЦ XIX ВЕКА)

История городского самоуправления Лиды восходит ещё к концу XVI в. и связана с пожалованием городу Магдебургского права. После разделов Речи Посполитой в городском управлении постепенно вводились нормы российского законодательства, но единой системы до эпохи реформ Александра II создано не было. Решение всех местных вопросов городского населения оставалось в руках губернского начальства и чиновников. Бесправность местных органов управления, их сословный характер, полная зависимость от бюрократического аппарата существенно сдерживали развитие и преобразование городского хозяйства. Подготовка новой городской реформы началась в 1862 г. и проходила в русле либеральных преобразований императора Александра II. К обсуждению проекта реформы были привлечены местные комиссии из представителей различных сословий городского населения. Проект реформы заинтересовано обсуждался в подобной комиссии Лиды. Так, одним из условий предоставления пассивного избирательного права комиссия Лиды рассматривала более высокий имущественный ценз. К выборам на должность городского головы лидская комиссия предлагала допустить «как христиан, так и евреев». [6, 121] Также Лида была среди 49 городов империи, комиссии которых высказались за введение образовательного ценза для выборных лиц муниципального управления. [5, 29] Предложения местных комиссий существенно повлияли на дальнейшую подготовку проекта. Но утверждение реформы затянулось, и принятое 16 июня 1870 г. Городовое Положение оказалось более консервативным по сравнению с первоначальным проектом. И хотя новое положение не оправдало всех надежд, но явилось, безусловно, более прогрессивным и действенным по сравнению с прежним законодательством. Реформа была направлена на создание системы местного самоуправления на основе выборности, всесословности и буржуазного имущественного ценза. Правом участия в городских выборах наделялись мужчины в возрасте от 25 лет, владеющие в городе недвижимым имуществом или торговыми и промышленными предприятиями, и уплачивающие налог в казну города. Они составляли избирательные собрания, где из своей среды выбирали гласных в думу – распорядительный орган городского самоуправления. Количество гласных в думе колебалось от 72 до 30 человек и зависело от числа избирателей.

Законодательство определяло сферу деятельности городского самоуправления кругом местных хозяйственных вопросов. В ведение городских дум переходили вопросы благоустройства городов, проведение санитарных и здравоохранительных мероприятий, определение налогов, содействие развитию торговли, промышленности, образованию и пр. В своих действиях городские думы получили значительную самостоятельность. На губернские по городским делам присутствия возлагался лишь надзор за законностью решений органов самоуправления.

На территории Беларуси реформа начала проводиться после принятия 29 апреля 1875 г. закона «О применении Городового положения 16 июня 1870 года к городам западных губерний». Закон предусматривал в западных губерниях усиление контроля

за деятельностью органов местного самоуправления и допускал вмешательство администрации в результаты выборов руководящих лиц. Изменение законодательства для западных губерний было продиктовано недоверием правительства к местному дворянству и городской буржуазии после событий 1863 г.

Решение о проведении реформы в отношении западных губерний принималось по каждому городу отдельно. Такой порядок предусматривал закон 1875 г. Уже в феврале 1878 г. виленский губернатор через виленского генерал-губернатора направил в Министерство внутренних дел ходатайство о введении в ряде городов губернии (Вилейке, Троках, Лиде, Свенцянах, Ошмянах, Диснее и заштатных Радошковичах и Друе) Городового положения 1870 г. [1; 43]. Окончательное решение принималось после рассмотрения в МВД «местных соображений». Предварительно в МВД доставлялись необходимые сведения о торговом и промышленном значении города, количестве жителей, вероисповедании домовладельцев. Эти данные позволяли Хозяйственному Департаменту МВД прогнозировать состав избирателей и будущих органов городского самоуправления.

Жители г. Лиды первоначально негативно отнеслись к предстоящим преобразованиям. В феврале, а затем вторично в апреле 1879 г. они обратились через губернское начальство в МВД с ходатайством, не вводить в городе Положение 1870 г. Причину своей просьбы жители объяснили тем, что имели «крайне ограниченные источники дохода г. Лиды» [1; 58]. В МВД снова рассмотрели доставленные сведения по городу Лиде и сочли доводы жителей неубедительными. Оба ходатайства были отклонены. В Лиде начались подготовительные работы. Были составлены и выверены списки избирателей, проведены выборы по разрядам избирателей, определён состав думы. Все эти мероприятия потребовали значительного времени. Поэтому новое Городовое положение в Лиде было введено несколько позже по сравнению с другими уездными городами губернии (Ошмянами, Радошковичами и некоторыми другими).

Официально новое Городовое положение было введено в Лиде 21 октября 1880 г. После торжественного богослужения и приветственных речей городская дума открыла первое заседание. Социальный состав первой городской думы Лиды был преимущественно мещанским, что соответствовало составу населения и статусу города. Из 36 гласных мещанами являлось 30 человек, а 6 гласных принадлежали к дворянскому сословию.[2; 217-218].

Первым городским головой Лиды был избран губернский секретарь Рудольф Бонецкий. Городской голова возглавлял всё городское управление и избирался думой. Он являлся председателем думы – распорядительного органа самоуправления, а также руководил управой – исполнительным органом. Состав городской управы, т.е. количество членов управы, определялось думой самостоятельно. Дума определяла также (до производства выборов) размер жалованья членам управы и городскому голове. В состав городской управы Лиды входило четыре человека. Кроме городского головы Р.Бонецкого в состав управы вошли мещанин Фердинанд Эйсмонт (он также был избран заступающим место городского головы, т. е. замещал главу города в оговорённых законом случаях), мещане Веникевич и Ицко Пупко (возможно – Пупфо) [2; 219]. В соответствии с нормами Городового положения состав управы менялся не одновременно, а наполовину каждые четыре года. В составе городских управ первого избрания перевыборы половины членов управы происходили по жребию через два года. Среди вновь избранных вместо выбывших членов управы оказался гласный Иосиф

Шагун. Его активная деятельность в последующем получила весьма негативную оценку со стороны губернского начальства.

Городская дума избиралась на четыре года. Выборы и утверждение руководящих лиц Лидского самоуправления на второе четырёхлетие в июле 1885 г. сопровождались значительными проблемами. Городским головой Лиды большинством голосов дума избрала И.Шагуна, зарекомендовавшего себя активными действиями в управе. Однако эта кандидатура не была утверждена губернским начальством «в виду того, что Шагун, по своим нравственным качествам, не заслуживает доверия». Также губернатор указывал, что в 1885 г. губернское по городским делам присутствие проводило дознание по поводу незаконных действий Шагуна как заступающего место городского головы. [3; 75]. Для западных губерний закон предусматривал утверждение не только городских голов губернских городов, но и уездных, а также отклонение избранных кандидатур по местным соображениям. Если губернатор затруднялся в принятии решения, то он направлял материалы на рассмотрение в МВД. Несмотря на отсутствие жалоб и нарушений при проведении выборов в Лиде, Хозяйственный департамент МВД счёл «местные соображения» губернатора существенными и распорядился о проведении новых выборов.[3; 77].

Подобная ситуация повторилась и на выборах 1889 г. В ноябре 1889 г. городским головой Лиды на третье четырёхлетие дума избрала дворянина католического вероисповедания Антона Малевского. Часть гласных думы обратилась с жалобой на ход выборов. В жалобе сообщалось о фактах подкупа части гласных накануне выборов, ставились под сомнение способности Малевского к руководящей работе. Губернатор и губернское по городским делам присутствие провели собственное расследование, и хотя убедительных доказательств нарушений получено не было, губернатор просил министра внутренних дел отклонить кандидатуру А.Малевского, а вместо него утвердить на должность головы Рафаловича, набравшего в ходе выборов меньшее количество голосов. [3; 81, 83]. Мотивируя свою просьбу, губернатор подчеркивал, «что города западных губерний не могут считаться вполне благонадёжными». Интересно отметить, что эта фраза в письме губернатора была особо отмечена директором Хозяйственного Департамента синим карандашом и рядом оставлена пометка «совершенно справедливо». Таким образом, в марте 1890 г. министр внутренних дел утвердил в должности городского головы Лиды набравшего меньше голосов дворянина Рафаловича. [4; 14]. Хотя по принятому порядку следовало бы назначить новые выборы. [3; 86].

Тем не менее, несмотря на значительное противостояние и опеку со стороны губернской администрации, за время деятельности учреждений самоуправления Лиды городские дела были значительно улучшены. Средства для муниципального бюджета были получены, прежде всего, за счёт взыскания недоимок, упорядочивания различных сборов и увеличения доходности городского имущества. В результате бюджет города существенно вырос, что позволило эффективнее решать насущные вопросы лидчан. Сведения о городских расходах и доходах отражены в таблице, данные которой составлены на основе отчётов о денежных оборотах городских касс за соответствующие годы.

**Расходы и доходы города Лиды**

| год | расходы | доходы |
|---|---|---|
| 1876 | 3 228 | 3 426 |
| 1882 | 6 184 | 6 185 |
| 1886 | 8 386 | 8 342 |
| 1890 | 10 652 | 12 407 |
| 1892 | 15 776 | 15 835 |

Усиление охранительного направления в правительственной политике привело к ограничению институтов самоуправления. В 1892 г. было принято новое Городовое положение, которое значительно повысило имущественный избирательный ценз. Поэтому из-за малочисленности избирателей во многих городах думы и управы прекращали своё существование, а взамен вводилось упрощённое управление. Оно состояло из старосты и нескольких помощников (по сути, они выполняли функции городской управы). В декабре 1893 г. виленский генерал-губернатор сообщил в МВД о введении упрощённого управления в г. Лиде и ряде других городов губернии (Свенцянах, Вилейке, Троках, Радошковичах, Дисне, Друе, Ошмянах). Таким образом, период действия реального представительного самоуправления в г. Лиде был непродолжительным.

Литература:

1. Российский Государственный исторический архив (далее – РГИА). Ф. 1287. Оп. 38. Д. 1784.
2. РГИА. Ф. 1287. Оп. 38. Д. 1755.
3. РГИА. Ф. 1287. Оп. 38. Д. 1756.
4. РГИА. Ф. 1287. Оп. 38. Д. 2658.
5. Грибко, И.Л. Общественное мнение 1860-х годов о путях преобразования городского управления: по материалам комиссий городов Беларуси / И.Л.Грибко // Веснік Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Сер. 3. - 2003. - № 1.
6. Материалы, относящиеся до нового общественного устройства в городах империи (Городовое положение 16 июня 1870 г.). – Т. 1. - СПб., 1877.

*І.В. Соркіна*
*г. Гродна, УО «ГрГУ им. Я. Купалы»*

# МЯСТЭЧКІ ЛІДСКАГА ЎЕЗДА Ў XIX – ПАЧАТКУ XX СТ.[1]

Артыкул прысвечаны сацыяльна-эканамічнаму і этнакультурнаму развіццю мястэчак Лідскага ўезда ў XIX – пачатку XX ст. На аснове дакументальных матэрыялаў, пераважна архіўных, перыядычнага друку, навуковай літаратуры высвятляецца комплекс пытанняў, звязаных з ўзроўнем заселенасці разглядаемых мястэчак, этнаканфесійнай, сацыяльнай, прафесійнай структурай насельніцтва; аналізуецца гаспадарчае жыццё мястэчак; вызначаецца іх адукацыйна-асветніцкі патэнцыял, характарызуецца архітэктурнае аблічча. На прыкладзе Лідскага рэгіёна паказваецца, што мястэчкі – унікальная, вельмі цікавая, шматгранная з′ява, феномен нашай гісторыі. У адзіным працэсе функцыянавання гэтых паселішчаў узаемадзейнічалі розныя этнасы: беларусы, габрэі, палякі і інш. Гэта і вызначала своеасаблівасць гаспадарчага і сацыяльна-культурнага жыцця мястэчак, непаўторную атмасферу мястэчковага сусвету.

Сярод унікальных адметнасцяў беларускага краю асаблівае месца належала мястэчкам. Гэтыя паселішчы адыгрывалі надзвычай важную ролю ў развіцці беларускіх земляў, выконваючы адмысловыя эканамічныя, адміністрацыйныя і культурныя функцыі. Яны выступалі пасрэднікамі паміж гарадамі і сельскай мясцовасцю. Праз шчыльную сетку мястэчак гарады распаўсюджвалі свой уплыў на значныя тэрыторыі. Многія мястэчкі нароўні з гарадамі, з`яўляючыся эканамічнымі, культурнымі і адміністрацыйнымі цэнтрамі бліжэйшага наваколля, мелі функцыю арганізаванага ўздзеяння на яго.

Мястэчкі Беларусі – гэта асаблівы сусвет са сваёй непаўторнай атмасферай, непаўторным каларытам. Гэта – саслоўная і этнаканфесійная стракатасць насельніцтва, незвычайная разнастайнасць яго гаспадарчых заняткаў. Гэта – характэрная архітэктура і планіроўка, унікальны, вякамі складзены побыт, "шчырыя адносіны сумлення і даверу, яскравы каларыт мудрых і прыгожых традыцый" [1].

Своеасаблівасць мястэчак тлумачыцца іх станам "на памежжы". Як паселішчы пераходнага тыпу паміж вёскай і горадам, паміж гарадской і вясковай "цывілізацыямі", яны арганічна паяднalі ў сабе ўклад вясковага і гарадскога жыцця, побыт селяніна і гараджаніна. Акрамя таго феномен мястэчак ва многім тлумачыцца поліэтнічнасцю, поліканфесійнасцю іх насельніцтва, што абумоўлівала шматнацыянальны характар мястэчковай культуры. На нацыянальную разнастайнасць культурнага ландшафту мястэчак ужо звярталі ўвагу даследчыкі. Захар Шыбека падкрэсліваў суіснаванне тут, як мінімум, двух культурных асяродкаў – габрэйскага і беларускага. У многіх мястэчках меліся польскія, татарскія і нямецкія асяродкі [2].

Вячаслаў Рагойша адзначаў: "Нацыянальная, сацыяльная, рэлігійная, моўная, палітычная талерантнасць, пачуццё сужыцця "у адной лодцы", так характэрныя для колішніх і сучасных беларусаў, – усё гэта ў вялікай ступені "напрацоўка" і заслуга мястэчак.‹…› У беларускіх мястэчках на роўных ці з некаторай перавагай аднаго або другога сыходзіліся веры (праваслаўная, каталіцкая, іудзейская, часам – ісламская),

[1] Матэрыялы для напісання дадзенага артыкула былі сабраныя дзякуючы падтрымцы Fundacji Popierania Nauki Kasy im. Józefa Mianowskiego.

этнасы (беларусы, палякі, габрэі, часам – беларускія татары, рускія стараверы), мовы (беларуская, польская, ідыш, руская). ‹…› Для культуролагаў мястэчка цікавае як унікальная форма спакойнага, талерантнага прадуцыравання і сужыцця некалькіх нацыянальных культур, спецыфічная лабараторыя іх інтэнсіўных узаемасувязей і ўзаемаўзбагачэння, выпрацоўкі на гэтай аснове своеасаблівага феномена – поліэтнічнай, поліканфесійнай, полілінгвістычнай местачковай культуры” [3].

Найбольш рэльефнымі і вызначальнымі на шматэтнічным культурным ландшафце мястэчак выступалі іудзейская і хрысціянская традыцыі. Найбольш выразнай была і мяжа паміж імі. Калі ж з’явіліся габрэі ў беларускіх мястэчках? У пісьмовых крыніцах звесткі пра местачковых габрэяў сустракаюцца з канца XVI ст. Спачатку іх колькасць была нязначнай і абмяжоўвалася адной ці некалькімі асобамі, звычайна арандатарамі корчмаў. Шматлікія разбуральныя войны, што пачаліся ў сярэдзіне XVII ст., прывялі наш край да дэмаграфічнай і гаспадарчай катастрофы. Беларускае мяшчанства было вынішчана, і ўзнікшы вакуум пачало запаўняць габрэйскае насельніцтва. У XVIII ст. колькасць габрэяў у мястэчках прыкметна ўзрастае, і яны складаюць значную частку местачковага насельніцтва. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай адбывалася канчатковая крышталізацыя соцыя-культурнай мадэлі мястэчка. Гэтыя паселішчы сталі пераважна габрэйскімі па складу насельніцтва ў выніку гвалтоўнага высялення габрэяў з сельскай мясцовасці, якое актыўна пачалося пасля выдання “Палажэння аб габрэях 1804 г.” Забарона габрэям жыхарства і прадпрымальніцтва ў сёлах і вёсках практыкавалася на працягу амаль усяго перыяду знаходжання Беларусі ў складзе Расійскай імперыі.

Такім чынам, на працягу XVIII – XIX ст. Беларусь стала краем габрэйскіх мястэчак, у кожным з якіх была арганізаваная абшчына са сваімі традыцыйнымі інстытуцыямі, рэгуляваўшымі штодзённае абшчыннае жыццё. Расійскія меры прывялі да канцэнтрацыі габрэяў у гарадах і мястэчках і, як вынік гэтага, да кансервацыі традыцыйнай габрэйскай культуры і ўкладу жыцця. Мястэчка для габрэяў адыграла такую ж ролю ў захаванні традыцыйнай культуры, як вёска для беларусаў. Яно стала для габрэяў уласным “асяроддзем пражывання”. Паступова фармавалася ўяўленне аб мястэчку (на ідыш – “штэтл”) як малой габрэйскай радзіме, “Ізраілі у выгнанні”. Мястэчка, такім чынам, пераўтварылася ў асяродак габрэйскай гісторыі рэгіёна, культурнай творчасці беларускага габрэйства. Адначасова мястэчкі працягвалі заставацца асяродкамі шляхецкай польскай (ці ліцвінскай) і сялянскай беларускай культур.

Знаходзячыся ў пастаянным кантакце з хрысціянскім насельніцтвам, габрэі не маглі не зведаць ўплыву з яго боку. Паміж іудзейскай і хрысціянскай традыцыямі адбываўся пэўны сінтэз, пэўнае ўзаемапранікненне і ўзаемаўзбагачэнне. Так, Валерый Дымшыц, знаўца габрэйскіх народных казак і тэатральнага мастацтва, сцвярджае, што ў гэтых галінах поле ўзаемаўплыву паміж названымі традыцыямі было шырокім. Барыс Хаймовіч, даследчык помнікаў габрэйскага пластычнага мастацтва, прыйшоў да высновы, што частка мадэляў хрысціянскага свету пераходзіла ў габрэйскую традыцыю. Ала Сакалова, спецыяліст па архітэктуры штэтла, адзначае, што, нягледзячы на яе спецыфічнасць і адметнасць, існавалі некаторыя запазычанні, у прыватнасці ў галіне будаўнічай тэхнікі. Зіновій Столяр, вывучаючы музыку габрэйскага мястэчка, прыйшоў да высновы, што сведчаннем жыцця габрэяў у іншанацыянальным асяроддзі выступаюць двухмоўныя і поліматыўныя песні і

інструментальныя мелодыі, у якіх "ужываюцца" прыкметы фальклору розных народаў. Аўтаномнасць, ізаляванасць габрэйскай культуры, такім чынам, нельга абсалютызаваць. Як бачым, узаемапранікненне і ўзаемаўзбагачэнне паміж ёй і хрысціянскай культурай былі даволі прыкметныя. І менавіта мястэчка было месцам сустрэчы і перакрыжавання гэтых двух разнародных традыцый.

Усе вышэй адзначаныя асаблівасці мястэчак выразна праяўляліся ў мястэчках Лідскага ўезда. Аднак амаль кожнае мястэчка мела свой уласны рытм жыцця, свае традыцыі, свае адметнасці. Паспрабуем на аснове разнастайных архіўных матэрыялаў, звестак з гістарычнай літаратуры скласці «мазаіку» местачковага жыцця ў Лідскім уездзе ў XIX – пачатку XX ст.

Папярэднік сучаснага Лідскага раёна, Лідскі ўезд (адносна перыяду Вялікага княства Літоўскага – павет) існаваў у XVI – першай палове XX ст., а дакладней з 1565–1566 па 1940 г.




Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай Лідскі павет (уезд) адышоў да Расійскай імперыі, апынуўся ў складзе Гродзенскай (з 1801 г.), а пазней Віленскай губерні (з 1842 г.). Плошча Лідскага ўезда складала больш за 4,9 тыс. кв. вёрст, у 1864 г. колькасць жыхароў каля 110 тыс., 1 горад (Ліда), 15 мястэчак, 15 сёлаў, 866 вёсак і 876 іншых паселішчаў (калоній, фальваркаў, хутароў і інш.) [4].

Пачнём стварэнне «калейдаскопу» местачковага жыцця ў Лідскім ўездзе з каротких **гістарычных даведак** пра час ўзнікнення ці першых згадак у пісьмовых крыніцах і ўладальнікаў.

На першай дакладнай карце ВКЛ, якую выгравіраваў Тамаш Макоўскі каля 1603 г. (захавалася другое выданне, што выйшла ў Амстэрдаме ў 1613 г.), сярод 272 мястэчак Беларусі былі пазначаныя 23 мястэчкі Лідскага ўезда: Астрына, Беліца, Блотна (Воранава), Васілішкі, Вялікая Вавёрка, Германішкі, Голдава, Дакудава, Дубічы, Жалудок, Жырмуны, Забалаць, Ішчолна, Канява, Крупава, Лебяда, Нача, Орля, Радунь, Ражанка, Турэйск, Шчучын, Эйшышкі [5]. Гэта сведчыць пра статус мястэчка, замацаваны за гэтымі паселішчамі на перыяд складання дадзенай карты. Не ўсе мястэчкі здолелі захаваць свой статус. Змянялася іх эканамічнае становішча, некаторыя занепадалі і пераходзілі ў разрад сел ці вёсак. Колькасць мястэчак не была пастаяннай яшчэ і таму, што нават у сярэдзіне XIX ст. не існавала дакладнага вызначэння паняцця «мястэчка». Адна і тая ж мясцовасць у дакументах называлася то мястэчкам, то сялом, то нават вёскаю.

*Астрына* ўпершыню згадваецца ў кнізе запісаў Літоўскай метрыкі ў 1450 г. і ў кнізе наданняў Казіміра IV Ягелончыка за 1441 – 1482 г.; у 1487 – мястэчка; у XV – пачатку XVI ст. – каралеўскае ўладанне, у 1520 г. перайшла ва ўладанне А.І.Хадкевіча. У 1641 г. Астрына атрымала Магдэбургскае права (Мал. 1). У 1666 г. Пацы пабудавалі тут касцёл (не збярогся). З 1771 г. мястэчка знаходзілася ва ўладанні А.Зянковіча [6]. У дакументах першай паловы XIX ст. Астрына фігуруе як "старасцінскае казённае" мястэчка [7].



Мал. 1. Герб Астрына: у блакітным полі срэбная вежа з чырвоным дахам, на даху збройная рука. Пацверджаны 16 чэрвеня 1792 г.

*Беліца* вядомая з XV ст. як вялікакняжацкае ўладанне, у дакуменце 1486 г. называецца мястэчкам. Жыгімонт ІІ Аўгуст падараваў Беліцу Мікалаю Радзівілу Рудому, які каля 1553 г. перадаў парафіяльны касцёл (пабудаваны ў перыяд з 1431 па 1500 г.) кальвіністам. Тут у XVII ст праходзілі кальвінскія сіноды. У XIX ст. Беліца належала Радзівілам, пазней Вітгенштэйнам, Трубяцкім [8].

*Бенякoні* ў першай палове XVII ст. належалі Яну Чаплінскаму, які ў 1634 г. заснаваў тут драўляны касцёл Іаана Хрысціцеля [9]. У XIX ст. быў узведзены новы будынак касцёлу ў стылі народнага драўлянага дойлідства (Мал. 2.). У пачатку XX ст. Бенякoні былі ва ўласнасці Рымшаў.



Мал. 2. Касцёл св. Іаана Хрысціцеля ў Бенякoнях на фотаздымку Яна Балзункевіча, пачатак XX ст. (не захаваўся).

*Васілішкі* ў пісьмовых крыніцах вядомыя з першай паловы XV ст.; у XV – XVI ст. староства ў складзе каралеўскіх сталовых уладанняў. У 1486 г. Васілішкі названыя мястэчкам. У 1489 г. па загадзе Казіміра IV Ягелончыка пабудаваны драўляны касцёл. У 1658 г. суддзя земскі лідскі Марцін Лімонт заснаваў касцёл і кляштар дамініканцаў (паводле іншых звестак – базыльянаў), закрыты ў 1832 г. У 1769 г. пры кляштары пабудаваны касцёл Іаана Хрысціцеля, які з'яўляецца помнікам архітэктуры позняга барока (Мал. 3.). У 1659 г. у Васілішках праходзіў соймік Лідскага павета. У 1706 г. тут некаторы час знаходзілася рэзідэнцыя манарха Рэчы Паспалітай Станіслава

Ляшчынскага. У 1766 г. васілішскім старостам быў віленскі ваявода Міхал Агінскі [10]. У дакументах першай паловы XIX ст. Васілішкі – "старасцінскае казённае" мястэчка [7].



Мал. 3. Касцёл св. Іаана Хрысціцеля ў Васілішках
на фотаздымку Яна Балзункевіча, пачатак XX ст.

*Воранава* (старажытная назва Блотна) вядома па пісьмовых крыніцах з XVI ст. Належала Гаштольдам, А.Масевічу, які ў 1705 г. заснаваў новы касцёл св.Тадэвуша, пазней перайшло ва ўласнасць Сцыпіёнам, затым Зарэцкім, у пачатку XIX ст. належала памешчыку Александровічу [11].

*Дакудава* вядомае з другой паловы XIV ст. як велікакняжацкі двор, пазней належала Кучуку, Кішкам, Радзівілам (з 1513 г.), Вітгенштэйнам (у XIX ст.) Каля 1533 г. пабудаваны касцёл. У XVII – XVIII ст. тут дзейнічаў кальвінскі збор. З 1669 г. Дакудава з'яўлялася мястэчкам. Гэты статус паселішча захоўвала і ў пачатку XIX ст.: названае ў ведамасці гарадоў і мястэчак Гродзенскай губерні ў 1807 г. Аднак ужо ў дакуменце 1829 г. сярод мястэчак Лідскага ўезда Дакудава не згадваецца. [7]. У матэрыялах перапісу 1897 г. знаходзім і вёску Дакудава (781 чал., у тым ліку 771 стала пражывалі, з іх 375 муж. і 396 жан.), і сяло Дакудава (571 чал., у т.л. стала пражывалі 543, з іх 261 муж. і 282 жан.) [12].

*Жалудок* у пісьмовых крыніцах вядомы з другой паловы XV ст. як велікакняжацкае ўладанне, у 1486 г. названы мястэчкам. У 1480–1490 г. Казімір IV Ягелончык заклаў касцёл. З 1530-х Жалудок прыватнае ўладанне: належаў Лацкім, Сапегам, Францкевічам, Тызенгаўзам (у XVIII – першай чвэрці XIX ст.), Урускім (з 1830-х г.), Святаполк-Чацвярцінскім (у пачатку XX ст.). З 1682 па 1832 у Жалудку існаваў касцёл і кляштар кармелітаў, заснаваны Казімірам і Аляксандрай Францкевічамі. Мястэчка знакамітае тым, што ў мясцовым касцёле быў пахаваны Антоній Тызенгаўз, тут нарадзіліся вучоны-арнітолаг Канстанцін Тызенгаўз, удзельнік паўстання 1863–1864 г. Валерый Урублеўскі [13]. Касцёл, які існуе і сёння быў пабудаваны ў 1854 г. архітэктарам Каралям Падчашынскім у стылі позняга класіцызму (Мал. 4.).



Мал. 4. Касцёл Ушэсця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў Жалудку
на фотаздымку Яна Балзункевіча, пачатак XX ст.

*Жырмуны* вядомыя з XV ст., у розныя часы належалі Бутрымам, Мантоўтавічам, Завішам, Радзівілам, Тышкевічам, Шванбахам. Каля 1437 г. Войцех Кучук заснаваў тут касцёл. У 1624 г. Ян Завіша пабудаваў новы касцёл, які быў спалены ў час войнаў сярэдзіны XVII ст. і адноўлены ў 1673 г. У 1788 г. Караліна Радзівіл заснавала касцёл св.Крыжа (захаваўся). У 1724 г. Жырмуны атрымалі Магдэбургскае права [14].

*Забалаць* у пісьмовых крыніцах вядомая з канца XIV ст., у канцы XV ст. з'яўлялася ўладаннем Дашковічаў, а ў пачатку XVI ст. яе ўладальнікам стаў Васіль Глінскі. Новы ўладальнік Забалаці Войцех Нарбутовіч у 1536 г. заснаваў тут мястэчка, атрымаўшы прывілей на таргі і карчму ў маёнтку [5]. Пазней Забалаць належала Сапегам, Палубенскім, Габаям, Тышкевічам, Нарбутам, Волянам, Патоцкім і інш. У 1622 (1623) г. Мікалай Нарбут заклаў драўляны касцёл св.Тройцы. У 1812 г. паводле фундушу Людвіка Тышкевіча быў пабудаваны мураваны касцёл [15].

*Ішчална* ў пісьмовых крыніцах канца XV – пачатку XVI ст. упамінаецца як маёнтак Давойнавічаў. Каля 1515 г. Андрэй Давойнавіч заснаваў тут драўляны касцёл св.Тройцы (мураваны існуе з 1758 г.). У 1547 г. Станіслаў Давойна паводле прывілея Жыгімонта I заснаваў у Ішчалне мястэчка [5]. Пазней яго ўладальнікамі былі Лімонты, Вішнявецкія, Палупяты, Радзімінскія-Францкевічы, Скарбек-Важынскія [16].

*Новы Двор* упершыню ўпамінаецца ў пісьмовых крыніцах пад 1440 г. З'яўляўся ўладаннем віленскіх біскупаў, пазней Гансецкіх, Ромераў. У 1720 г. мястэчка праз прывілей Аўгуста II атрымала Магдэбургскае права. Драўляны касцёл быў узведзены ў 1480 г., перабудаваны ў 1749 г. [17]. У дакументах першай паловы XIX ст. Новы Двор фігуруе як "старасцінскае казённае" мястэчка [7].

*Орля* вядомая з XVI ст., уладальнікамі яе былі Орлі (ці Хорлі), пазней Давойны, Радзівілы, Святаполк-Чацвярцінскія. У 1665 г. быў тут збор евангелікаў-рэфарматаў. У 1783 г. была ўзведзеная драўляная уніяцкая царква, якую ў 1865–1866 г. замянілі на мураваную ў рэтраспектыўна-рускім стылі (Мал. 5.). У XVIII ст. Орля карысталася Магдэбургскім правам (Мал. 6.) [18].



Мал. 5. Свята-Пакроўская царква ў Орлі на фотаздымку Яна Балзункевіча, пачатак XX ст.



Мал. 6. Герб Орлі: у чырвоным полі чорны арол у правай лапе трымае сякеру. Атрыманы 15 мая 1643 г.



Мал. 7. Герб Радуні. Пацверджаны 23 чэрвеня 1792 г.

*Радунь* упершыню ўпамінаецца ў 1387 г. у грамаце Ягайлы як горад Радыня, цэнтр воласці. З'яўлялася уласнасцю скарбу. У 1649 г. Радунь атрымала Магдэбургскае правa і ўласны герб: у сярэбраным полі выява чырвонага рака (Мал. 7). У другой палове XVIII ст. Радунь – прыватнае ўладанне, у 1766 г. належала Юзэфу Тышкевічу. У дакументах першай паловы XIX ст. фігуруе як "старасцінскае казённае" мястэчка. У 1832 г. яно было аддадзена на дванаццацігадовае арэндаўтрыманне памешчыку Юліяну Хайевінскаму. У 1838 г. у Радунь быў перанесены драўляны парафіяльны касцёл. Папярэдні касцёл існаваў з 1752 г. Пазней ён згарэў і быў адбудаваны ў 1801 г. [19].

*Ражанка* вядомая з XVI ст., з'яўлялася маёмасцю Пацаў, пазней Тышкевічаў, Сапегаў, зноў Пацаў. У 1832 г. маёнтак быў канфіскаваны за ўдзел у антырасійскім паўстанні яго ўладальніка Людвіка Паца. Драўляны парафіяльны касцёл быў закладзены ў мястэчку ў 1516 г. Мікалаем Пацам, аднаўляўся на сродкі Тышкевіча ў 1596 г., а на сродкі Сапегі ў 1674 г. быў узведзены мураваны касцёл (Мал. 8.). [20].



Мал. 8. Петра-Паўлаўскі касцёл у м.Ражанка (малюнак Напалеона Орды).

Узгадаем таксама пра *Сабакінцы.* Гэтае паселішча некалі належала да скарбу, з 1540 г. знаходзілася ва ўтрыманні Шымка Мацкевіча, а ў 1550 г. было перададзенае ўцекачу з Масквы Міхалу Сабакіну, ад прозвішча якога і атрымала сваю новую назву (раней называлася Заблоцце). З даўніх часоў існавала царква, якая была нанова выбудаваная ў 1865 г., мела звон са славянскім надпісам 1506 г. і не меней старажытны цудатворны абраз Маці Божай. У 1676 г. Ян III Сабескі надаў Сабакінцам Магдэбургскае права, што было падцверджана ў 1755 г. Аўгустам III [21]. У XIX ст. Сабакінцы рэдка называліся мястэчкам.

Славутае мястэчка *Шчучын* упершыню згадваецца ў пісьмовых крыніцах першай паловы XV ст. у сувязі з заснаваннем у 1436 г. трокскім ваяводам Пятром Лелюшам касцёла. У другой палове XV – XVII ст. Шчучын належаў Кучукам, Кішкам, Радзівілам, Давойнам, Лімонтам; у першай палове XVIII ст. – Юзафовічам-Глябіцкім (Хлябіцкім); пазней – Сцыпіёнам, якія заснавалі тут адзін з найлепшых у ВКЛ калегіум піяраў; з 1807 г. Шчучын стаў уласнасцю Друцкіх-Любецкіх, на сродкі якіх ў 1826 – 1829 гг. быў узведзены мураваны касцёл св.Тэрэзы. У 1865 г. на месцы разбуранай каталіцкай капліцы была пабудаваная Міхайлаўская царква. Шчучын паводле прывілея Аўгуста III ад 18 мая 1761 г. меў Магдэбургскае права, герб (Мал. 9.), таргі і кірмашы [22].



Мал. 9. Герб Шчучына: у блакітным полі срэбная манаграма IS (Ігнат Сцыпіён) пад залатой каронай. Атрыманы 23 мая 1761 г.

У Лідскім уездзе знаходзіліся таксама *Эйшышкі* (сёння ў складзе Літвы), адно з найбольш старажытных паселішчаў, заснаванае ў 1070 г. Эйшысам, палкаводцам літоўскага князя Эрдзівіла [23]. Паводле сведчання гісторыка і этнографа першай паловы XIX ст. Іосіфа Ярашэвіча, на габрэйскіх могілках м. Эйшышкі знаходзіўся надмагільны камень з надпісам 1170 г. [24]. Гэты факт цікавы тым, што ён дазваляе датаваць з'яўленне пасяленняў габрэяў на тэрыторыі Беларусі XII ст., а не XIV ст., калі з'явіліся першыя пісьмовыя крыніцы аб габрэях на нашых землях. Парафіяльны драўляны касцёл быў закладзены ў Эйшышках у 1413 г. Вітаўтам Вялікім. Мураваны быў узведзены ў 1852 г. стараннямі Паўла Каліноўскага-Паўловіча. За часамі Яна III Сабескага (1674 – 1696) Эйшышкі набылі Магдэбургскае права, адноўленае Станіславам Аўгустам у 1792 г. З 1791 па 1795 г. Эйшышкі былі павятовым горадам [25], у дакументах першай паловы XIX ст. фігуруюць як "старасцінскае казённае" мястэчка [7].

Такім чынам, мястэчкі дадзенага рэгіёна, як правіла, вялі сваю гісторыю з XIV – XV ст. і з'яўляліся прыватнаўласніцкімі. Клопатам уладальнікаў будаваліся храмы, развівалася асвета, многія мястэчкі атрымоўвалі Магдэбургскае права (Астрына, Жырмуны, Новы Двор, Орля, Радунь, Сабакінцы, Шчучын, Эйшышкі).

Статыстычныя звесткі аб **узроўні заселенасці і этнаканфесійным складзе насельніцтва мястэчак** разглядаемага рэгіёна ў XIX – пачатку XX ст. прыведзены ў табліцах.

Табліца 1

*Заселенасць мястэчак Лідскага ўезда ў 1829 г.**

| Мястэчка | дамоў | | | жыхароў | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | усяго | хрысціянскіх | іудзейскіх, абс. (%) | усяго | хрысціянаў | іудзеяў, абс.( %) |
| Астрына | 159 | 66 | 93 (58,5) | 591 | 257 | 334 (56,5) |
| Беліца | 117 | 80 | 37 (31,6) | 701 | 436 | 265 (37,8) |
| Васілішкі | 144 | 75 | 69 (48) | 1096 | 575 | 521 (47,5) |
| Жалудок | 57 | 29 | 28 (49,1) | 311 | 146 | 165 (53) |
| Новы Двор | 40 | 18 | 22 (55) | 404 | 105 | 299 (74) |
| Орля | 45 | 31 | 14 (31,1) | 174 | 125 | 49 (28,2) |
| Радунь | 88 | 47 | 41 (46,6) | 379 | 174 | 205 (54) |
| Ражанка | 19 | 9 | 10 (52,6) | 89 | 54 | 35 (39,3) |
| Шчучын | 47 | 17 | 30 (63,8) | 190 | 70 | 120 (63,2) |
| Эйшышкі | 101 | 18 | 83 (82,2) | 797 | 75 | 722 (90,6) |
| Усяго | 817 | 390 | 427 (52,2) | 4732 | 2017 | 2715 (57,4) |

* *Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна. Ф. 1. Воп. 3. Спр. 536. Арк.* 54 адв. – 61.

Паводле іншай крыніцы колькасць дамоў і насельніцтва мястэчак Лідскага ўезда ў 1829 г. была большай і выглядала наступным чынам:

Табліца 2*

| Мястэчка | дамоў | муж. | жан. | усяго | Габрэяў сярод мужчын, абс.(%) |
|---|---|---|---|---|---|
| Астрына | 170 | 682 | 696 | 1378 | 339 (49,7) |
| Беліца | 151 | 460 | 424 | 884 | 277 (60,2) |
| Васілішкі | 141 | 694 | 634 | 1328 | 589 (84,9) |
| Воранава | 38 | 186 | 184 | 370 | 105 (56,5) |
| Жалудок | 84 | 369 | 318 | 687 | 139 (37,7) |
| Новы Двор | 39 | 164 | 156 | 320 | 100 (61) |
| Орля | 45 | 216 | 196 | 412 | 117 (54,1) |
| Радунь | 95 | 386 | 389 | 775 | 185 (48) |
| Ражанка | 20 | 196 | 84 | 280 | 152 (77,6) |
| Шчучын | 68 | 289 | 268 | 557 | 162 (56,1) |
| Эйшышкі | 81 | 498 | 372 | 870 | 364 (73,1) |
| Усяго | 932 | 4140 | 3721 | 7861 | 2529 (61,1) |

* *Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна. Ф. 1. Воп. 3. Спр. 422. Арк.* 122 адв. – 123.

У 1870 – 1871 гг. сіламі губернскіх устаноў былі старанна сабраныя звесткі пра мястэчкі нашага краю ў сувязі з гарадской рэформай, якая прадугледжвала ўвядзенне новага гарадавога палажэння. Інфармацыя пра мястэчкі Лідскага ўезда гэтага часу, якая пралівае святло не толькі на колькасць насельніцтва, але і на яго канфесійную і саслоўную структуру, прыводзіцца ў наступнай табліцы.

Табліца 3

*Статыстычныя дадзеныя*
*аб мястэчках Лідскага ўезда за 1870 – 1871 гг.* *

| Мястэчка | усіх жых. | дваран і дух-ва | купцоў і мяшчан | | асоб сельскага стану | | % адносна агульнай колькасці жыхароў | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | хрысц. | іудзеяў | хрысц. | іудзеяў | асоб гарадскіх саслоўяў | асоб сельск. стану | іудзеяў |
| Радунь | 705 | 2 | 28 | 425 | 250 | - | 64,6 | 35,4 | 60,2 |
| Астрына | 1206 | 6 | 25 | 777 | 408 | - | 66,2 | 33,8 | 64,4 |
| Жалудок | 576 | 2 | 12 | 400 | 162 | - | 71,9 | 28,1 | 69,4 |
| Воранава | 612 | 3 | 12 | 550 | 47 | - | 92,4 | 7,6 | 90,4 |
| Беліца | 564 | 6 | 20 | 360 | 178 | - | 68,5 | 31,5 | 64 |

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Новы Двор | 509 | 5 | 16 | 325 | 163 | - | 67,8 | 32,2 | 63,8 |
| Ражанка | 432 | 6 | 12 | 310 | 100 | 4 | 76 | 24 | 72,7 |
| Орля | 350 | 7 | 15 | 220 | 106 | 2 | 69,2 | 30,8 | 63,4 |
| Шчучын | 997 | 20 | 35 | 780 | 162 | - | 83,8 | 16,2 | 78,2 |
| Васілішкі | 1229 | 12 | 30 | 850 | 337 | - | 72,6 | 27,4 | 69,1 |
| Эйшышкі | 741 | 10 | 25 | 590 | 116 | - | 84,4 | 15,6 | 79,6 |
| Усяго | 7921 | 79 | 230 | 5587 | 2029 | 6 | 74,4 | 25,6 | 70,6 |

** Материалы, относящиеся до нового общественного устройства в городах империи (городовое положение 16 июня 1870 г.) Т. V. СПб., 1879. С. 86.*

У табліцы 4 сабраныя звесткі аб колькасці двароў і жыхароў мястэчак Лідчыны з разнастайных, пераважна друкаваных, крыніц.

Табліца 4

*Заселенасць мястэчак Лідскага ўезда*
*ў другой палове XIX – пачатку XX ст. **

| Мястэчка | двароў, жыхароў |
|---|---|
| Астрына | 1863 г. – 170 двароў, 970 жых.; 1866 г. – 179 двароў, 1196 жых.: 481 праваслаўных, 669 іудзеяў, 12 католікаў, 34 мусульманаў; 1882 г. – 1984 жых.; 1897 г. – 2410 жых., у т.л. 1440 габрэяў (ці амаль 60 %); 1905 г. – 1776 жых. |
| Беліца | 1854 г. – 187 двароў, у т.л. 55 габрэйскіх (ці каля 30 %), 8 татарскіх, 632 жых.; 1863 г. – 164 жылых будынкаў, 877 жых.; 1866 г. – 100 двароў, 883 жых.; 1897 г. – 1685 жых., у т.л. 679 габрэяў (ці 40,3 %); 1905 г. – 1230 жых. |
| Беняконі | 1880 г. – 63 жых. |
| Васілішкі | 1863 г. – 188 жылых будынкаў, 1859 жых.; 1866 г. – 244 двары, 1841 жых.: 5 праваслаўных, 453 католіка, 1383 іудзея; 1897 г. – 2781 жых, у т.л. 2081 габрэй (ці 74,8 %); 1905 г. – 1983 жых. |
| Воранава | 1863 г. – 52 жылых будынкаў, 331 жых.;1865 г. – 42 двары, 468 жых.: 18 праваслаўных, 117 католікаў, 333 іудзея; 1897 г. – 1574 жых., з іх 1432 габрэя |
| Дакудава | 1886 г. – 28 двароў, 378 жых.; !897 г. – вёска Дакудава 781 жых., сяло Дакудава 571 жых.; пач. XX ст. (1905 г.) – вёска Дакудава 484 муж., 387 жан. |
| Жалудок | 1863 г. – 88 жылых будынкаў, 581 жых.;1895 г. – 130 двароў, 674 жых.; 1897 г. – 1860 жых., у т.л. 1372 габрэя (ці 73,5 %); 1905 г. – 1969 жых. |
| Жырмуны | 1860 г. – 29 двароў, 271 жых.; 1863 г. – 19 жылых будынкаў, 272 жых.; |
| Забалаць | 1880-я гг. – 6 двароў, 75 жых. |
| Ішчална | 1863 г. – 5 жылых будынкаў, 38 жых.; 1897 г. – 14 двароў, 118 жых. |
| Новы Двор | 1860 г. – 501 жых.; 1863 г. – 62 жылых будынкаў, 348 жых.;1886 г. - 63 двары, 708 жых.; 1897 г. – 822 жых., у т.л. 664 габрэя (ці 80,8 %); 1905 г. – 977 жых. |
| Орля | 1863 г. – 58 жылых будынкаў, 349 жых.;1886 г. – 83 двары, 598 жых.; 1897 г. – 804 жых.; 1905 г. – 726 жых. |
| Радунь | 1863 г. – 121 двор, 737 жых.; 1866 г. – 91 двор, 869 жых.: 361 католік, 508 іудзеяў; 1881 г. – 1526 жых.; 1897 г. – 313 дамоў, 1621 жых., у т.л. 896 габрэяў (55,3 %); 1905 г. – каля 1394 жых. |

| | |
|---|---|
| Ражанка | 1861 г. – 883 жых.; 1863 г. – 52 жылых будынкаў, 274 жых.; 1897 г. – 777 жых., у т.л. 543 габрэя (каля 70 %); 1905 г. – 504 жых. |
| Шчучын | 1863 г. – 94 жылых будынкаў, 575 жых.; 1866 г. – 123 двара, 1088 жых.; 1897 г. – 1742 жых., у т.л. 1356 габрэяў (77,8 %); 1905 г. – 3815 жых. |
| Эйшышкі | 1863 г. – 103 жылых будынкаў, 706 жых.; 1868 г. – 250 двароў, 1250 жых.; 1897 г. – 3196 жых. У т.л. 2376 габрэяў (74,3 %); 1905 г. – 2448. |

** Галоўны Архіў старажытных актаў у Варшаве (AGAD), AR, dz. XXV, sygn. 206.*
*Полный список населенных мест со статистическими данными о каждом поселении. Виленская губерния. Вильно, 1905. С. 183 – 214.*
*Статистический временник Российской империи. Выпуск 1. СПб., 1866. С. 82.*
*Slownik geograficzny Królestwa Polskiego. T. I. Warszawa, 1880. S. 211 – 212, 218; T.VII. Warszawa, 1886. S. 294, 582, 733; T. IX. Warszawa, 1888. S. 450; T. X. Warszawa, 1889. S. 939; T. XI. Warszawa, 1890. S. 864 - 865; T. XIII. Warszawa, 1893. S. 128; T. XIV. Warszawa, 1895. S.827, 895.*
*Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. Мінск, 1993 – 2003. Т. 1. С. 226, 494; Т. 2. С.14, 229; Т. 3. С. 363, 390, 511; Т.5. С. 333, 357; Т. 6. Ч. 1. С.69, 83; Т. 6.Ч. 2. С. 242.*
*Еврейская энциклопедия. СПб., 1903. Т. V. С. 343; Т. VII. С.494, 538; Т. IX. С. 97–98; Т. XI. С. 770; Т. XII. С. 146; Т. XIII. С.271, 572; Т. XVI. С. 143.*
*Российская еврейская энциклопедия. Т.4. М., 2000. С. 98.*
*Rouba Napoleon. Przewodnik po Litwie i Bialejrusi. Wilno 1909 – Gdańsk 1995. S. 20, 21, 60, 135, 138–139, 140, 161, 166, 177–178, 187, 196,209, 214, 215.*

Прыведзеныя вышэй статыстычныя звесткі хоць часам і супярэчлівыя, аднак дазваляюць прасачыць дынаміку колькасці насельніцтва ў мястэчках Лідскага ўезда. Амаль усе мястэчкі ў XIX ст. паступова павялічвалі колькасць насельніцтва. Калі верыць звесткам са справы № 536, якая захоўваецца ў НГАБ у Гродна ў 1 фондзе, 3 вопісу, найбольшы рост прадэманстравала мястэчка Ражанка: з 89 жыхароў у 1829 г. да 777 у 1897 г., у 8,7 разоў. Высокі прырост насельніцтва назіраўся ў Жалудку: з 311 жыхароў у 1829 г. да 1860 у 1897 г., амаль у 6 разоў; Шчучыне: з 327 жыхароў у 1833 г. да 1742 у 1897 г., амаль у 5,3 разы. Насельніцтва Орлі за гэты час павялічылася ў 4,6 разоў, Радуні – у 4,3 разы, Астрына і Эйшышак – у 4 разы, Васілішак – у 2,5 разоў, Беліцы – у 2,4 разы, Новага Двару – у 2 разы. Падаецца, што звесткі з гэтай крыніцы заніжаныя. Больш даверу выклікаюць дадзеныя са справы № 422, якая захоўваецца ў НГАБ у Гродна ў 1 фондзе, 3 вопісу. З улікам іх тэмпы росту насельніцтва мястэчак Лідчыны з 1829 г. па 1897 г. былі значна больш сціплымі: Воранава павялічыла колькасць жыхароў у 4 разы; Эйшышкі – у 3,7 разоў; Шчучын – у 3,1; Ражанка – у 2,8; Жалудок – у 2,7; Новы Двор – у 2,6; Васілішкі – 2,1; Орля і Радунь – у 2; Беліца – у 1,9; Астрына – у 1,7.

Па велічыні разглядаемыя мястэчкі канца XIX ст. можна ўмоўна падзяліць на вялікія (ад 2 да 5 тыс. чал.) – Астрына, Васілішкі, Эйшышкі; дробныя (ад 500 да 2 тыс. чал.) – Беліца, Воранава, Жалудок, Новы Двор, Орля, Радунь, Ражанка, Шчучын; мястэчкі-сёлы (менш за 500 чал.) – Беняконі, Жырмуны, Забалаць, Ішчална, Дакудава.

У дакументах XIX ст. адна і тая ж мясцовасць называецца то мястэчкам, то вёскаю, то сялом. Так, у пераліку гарадскіх паселішчаў Лідскага ўезду ў 1863 г. мястэчкамі, побач з іншымі, названыя Жірмуны, Вавёрка, Голдава, Ішчална, Сабакінцы, якія ў іншых дакументах (напрыклад, у “Спісах населеных месцаў Віленскай губерні за 1859 г.” ) фігуравалі як вёскі ці сёлы [26]. А вось як выглядаў пералік паселішчаў Лідскага ўезду, якія пастановай віленскага губернскага праўлення 1957 г. пакінутыя ў статусе мястэчак з правам сяліцца ў іх габрэям: Жалудок, Голдава, Беліца, Ішчална, Астрына, Новы Двор, Сабакінцы, Воранава, Орля, Ражанка, Шчучын, Васілішкі, Радунь, Эйшышкі, Мыта [27].

Як правіла, пісьмовыя крыніцы XIX – пачатку XX ст., што праліваюць святло на праблему этнаканфесійнай структуры насельніцтва мястэчак, утрымліваюць інфармацыю толькі па 2-х групах: хрысціянах і іудзеях. Таму немагчыма зрабіць поўны аналіз этнаканфесійнай структуры местачковых жыхароў. Адназначна можна гаварыць пра перавагу габрэйскага (іудзейскага) насельніцтва над хрысціянскім амаль ва ўсіх мястэчках Лідчыны. У цэлым, згодна статыстыцы за 1870 – 1871 гг., змешчанай у табліцы 3, у мястэчках Лідскага ўезду габрэі (іудзеі) складалі 70,6 % насельніцтва. Гэта было абумоўлена, галоўным чынам, мерамі расійскіх уладаў па высяленню габрэяў з сельскай мясцовасці ў гарады і мястэчкі.

Дзякуючы захаванню вялікай колькасці інвентароў Беліцы за розныя гады (Галоўны архіў старажытных актаў у Варшаве (AGAD), фонд Радзівілаў) можна прасачыць эвалюцыю заселенасці гэтага мястэчка на працягу XVII – XIX ст.

Табліца 5

*Заселенасць м.Беліцы*
*паводле інвентароў XVII – XIX ст. **

| Год | Колькасць дымоў (двароў) |
|---|---|
| 1669 | 134 (20 габрэйскіх, 112 мяшчанскіх, 2 вольных) |
| 1752 | 174 (34 габрэйскіх, 140 хрысціянскіх) |
| 1810 | 185 (52 габрэйскіх, 5 татарскіх, 128 хрысціянскіх: “грунтовых”– 89, “агародных” – 32, “ляснічых” – 7) |
| 1838 | 187 (“пляцавых”: габрэйскіх – 55, хрысціянскіх – 36; “грунтовых” – 86; “ляснічых” – 7; “сялянскіх” – 3) |
| 1854 | 187 (55 габрэйскіх, 8 татарскіх, 124 хрысціянскіх: “чыншавых” – 86, “ляснічых” – 7, “халупных” – 28, вольных – 3) |
| 1865 | 179 |

** Галоўны Архіў старажытных актаў у Варшаве (AGAD), AR, dz. XXV, sygn. 182, 190, 194,203, 206, 211.*

З прыведзеных у табліцы звестак відаць, што за два стагоддзі павялічылася удзельная вага габрэяў у Беліцы: у 1669 г. яны складалі 15 % насельніцтва мястэчка, а ў

1854 г. – каля 30 %. Асабліва іх пабольшала на рынку: у 1669 г. з 25 дымоў 9 належалі габрэям, а амаль праз стагоддзе ў 1752 г. з 26 рынкавых дымоў габрэйскімі былі 20. Заселенасць вуліц у 1669 г. выглядала наступным чынам: вул. Габрэйская – 11 дымоў, у т.л. 7 габрэйскіх, вул. Арляўская – 12 дымоў, у т.л. 4 габрэйскіх, вул. Віленская – 23 дыма, вул. Лідская – 19 дымоў, вул. Дакудаўская – 7 дымоў, вул. ад Двору – 37 дымоў. У 1752 г. на вул. Габрэйскай было 15 дымоў, у т.л. 7 габрэйскіх, на вул. Арляўскай – 9 дымоў, у т.л. 6 габрэйскіх, на вул. Віленскай – 37 дымоў, у т.л. 2 габрэйскіх, на вул. Лідскай – 24 дыма, на вул. Дакудаўскай – 16 дымоў, на вул. Дворнай – 49 дымоў [28].

Уявіць карціну этнаканфесійнай структуры насельніцтва мястэчак Лідскага ўезда ў цэлым можна з дапамогай апублікаваных у 1904 г. матэрыялаў першага ўсеагульнага перапісу насельніцтва Расійскай імперыі 1897 г. па Віленскай губерні. Табліца XXIV адлюстроўвае размеркаванне насельніцтва па роднай мове і саслоўях ва ўездах. Мяшчане і купцы Лідскага ўезду паказаны без г. Ліды, а значыць гэта, як правіла, жыхары мястэчак.

Табліца 6

*Склад мяшчанаў Лідскага ўезда ў 1897 г. па роднай мове**

| Родная мова | Мужчыны | жанчыны | усяго |
|---|---|---|---|
| велікаруская | 87 | 80 | 167 |
| беларуская | 3675 | 3746 | 7421 |
| польская | 1132 | 957 | 2089 |
| іншыя славянскія | 2 | | 2 |
| літоўская | 38 | 71 | 109 |
| іншыя інда-еўрапейскія | 6 | 6 | 12 |
| нямецкая | 11 | 15 | 26 |
| габрэйская | 9259 | 9819 | 19078 |
| усяго | 14210 | 14694 | 28904 |

*Первая всеобщая перепись населения Российской империи 1897 г. IV. Виленская губерния. Тетрадь 3. СПб., 1904. С. 166, 168.

Як бачым, мяшчане мястэчак Лідчыны размаўлялі ці, дакладней, лічылі роднай 8 моваў. Найбольш было мяшчан-габрэяў. На другім месцы былі беларускамоўныя мяшчане, на трэцім – польскамоўныя. Значна менш налічвалася тых мяшчан, якія падчас перапіса 1897 г. назвалі роднай мовай рускую. Нязначную частку местачковага мяшчанства складалі літоўска- і нямецкамоўныя. Купцы мястэчак Лідскага ўезду былі выключна габрэямі, што адлюстроўвае наступная табліца.

Табліца 7

*Склад купцоў (разам з сем'ямі) Лідскага ўезда ў 1897 г. па роднай мове**

| Родная мова | Мужчыны | жанчыны | усяго |
|---|---|---|---|
| габрэйская | 11 | 13 | 24 |
| усяго | 11 | 13 | 24 |

*Первая всеобщая перепись населения Российской империи 1897 г. IV. Виленская губерния. Тетрадь 3. СПб., 1904. С. 166, 168.

Такім чынам, ускосныя дадзеныя яшчэ раз пацвярджаюць факт этнаканфесійнай разнастайнасці жыхароў мястэчак разглядаемага рэгіёна.

Як складваліся **ўзаемаадносіны паміж прадстаўнікамі розных этнаканфесійных груп** местачковага насельніцтва? Адназначна адказаць на гэтыя пытанні немагчыма. Вывучэнне дакументальных крыніц, мемуарнай літаратуры дазваляе зрабіць выснову аб тым, што міжнацыянальныя і міжканфесійныя ўзаемаадносіны ў мястэчках Беларусі не былі адназначнымі. Мелі месца праявы ўсіх тыпаў гэтых адносін: сяброўскіх, нейтральных, непрыязных. Амплітуда іх вагалася паміж палюсамі добразычлівасці, талерантнасці, эканамічнага супрацоўніцтва, міжкультурнага дыялогу – і ізаляцыянізма, нецярпімасці, падазронасці і нават варожасці. Аднак да гэтага негатыўнага полюсу міжэтнічныя адносіны ў мястэчках Беларусі набліжаліся рэдка. Дзяржаўны антысемітызм часоў Расійскай імперыі меў мінімальны ўплыў на беларусаў. У мястэчках гэты ўплыў адчуваўся слаба. Адносіны паміж рознымі этнаканфесійнымі групамі насельніцтва мястэчак характарызаваліся высокай ступенню талерантнасці.

На жаль, намі не выяўлена ўспамінаў жыхароў мястэчак Лідчыны разглядаемага перыяду. Пацвердзіць прыведзеную вышэй выснову канкрэтным прыкладам можна пры дапамозе матэрыялаў "Нашай Нівы", першай штотыднёвай беларускай грамадска-палітычнай, навукова-асветніцкай і літаратурна-мастацкай газеты, што выдавалася ў Вільні з 10(23) лістапада 1906 г. па 7 (20) жніўня 1915 г. На яе старонкі пашанцавала трапіць і некаторым мястэчкам Лідскага ўезду (Астрына, Беліца, Беняконі, Васілішкі, Жалудок, Новы Двор). Карэспандэнт, які падпісаўся "Беняконец-хрысціянін" паведамляў пра моцны пажар, які адбыўся ў мястэчку 7 чэрвеня 1910 г., калі згарэла 35 дамоў. Пагарэльцы звярнуліся за дапамогай да мясцовых памешчыкаў, " каб яны прадалі дрэва хоць за грошы, але з гэтага нічога не выйшла... А жыды нашы беняконскія па суседску памагалі чым хто мог. Напрыклад, лясны купец Рабіновіч прадаваў бярвёны па сваёй цане і на павер, а хто грошы сам прынясе, то добра! А хто не плаціць і да сягоння, то купец не спаганяе" [29].

Часам у мястэчках усё ж узнікалі канфлікты паміж прадстаўнікамі габрэйскага і хрысціянскага насельніцтва. Меў месца такі канфлікт у Воранаве. Справа заключалася ў тым, што ў лютым 1883 г. у Беняконьскай воласці было прынятае рашэнне аб пераносе ў Воранаве базарнага (рыначнага) дня з нядзелі на аўторак. Канфліктная сітуацыя склалася ў Воранаве ў нядзелю 19 чэрвеня 1883 г. падчас каталіцкага царкоўнага свята. У гэты дзень у мястэчку сабралася шмат габрэяў з таварамі. Яны размясцілі свае прылаўкі каля касцёла і чакалі заканчэння набажэнства. Калі забілі

званы, габрэі пачалі грукаць сваімі косамі. Гэта выклікала сутычку паміж габрэйскімі гандлярамі і абуранымі іх дзеяннямі сялянамі. Сяляне пачалі перакульваць габрэйскія павозкі з таварамі. Шкода, нанесеная габрэям склала суму у 508 руб. Аднак пры разглядзе абставін гэтага здарэння ўлады занялі бок сялян [30].

Стракатай была і **сацыяльная структура насельніцтва мястэчак**. Прывядзём некалькі прыкладаў. Сацыяльны склад Беліцы на 1829 г.: мужчынскае насельніцтва складалася з 5 *дваранаў* (1 "памесны" і 4 "беспамесных"), 4 прадстаўніка "чорнага" *духавенства*, 277 *мяшчанаў*-габрэяў, 169 *сялянаў*, 6 жабракоў. Сацыяльны склад Васілішак у 1829 г. быў наступным: мужчынскае насельніцтва складалася з 2 "беспамесных" *дваранаў*, 3 прадстаўнікоў "чорнага" *духавенства*, 589 *мяшчан*-габрэяў, 100 *сялянаў* [31]. Паводле інвентароў Беліцы, дадзеныя якіх прыведзеныя ў табліцы 4, сярод сялянаў мястэчка можна выдзеліць *сялянаў-слугаў* (7 "ляснічых" двароў), *агароднікаў* (у 1810 г., напрыклад , налічвалася 32 двары "агародных", а ў 1854 г. яны названыя "халупнымі", засталося 28), *цяглых* (у інвентары 1810 г. пад назвай "грунтовыя" фігуруюць 89 двароў, у 1854 г. – 86 "чыншавых" двароў, што тлумачыцца, верагодна, заменай паншчыны на чынш) [32].

Мяшчане мястэчак складаліся амаль цалкам (а часам выключна) з габрэяў. Так, у 1861 г. у Лідскім уездзе (без г.Ліды) налічвалася 4429 мяшчанаў, усе яны былі габрэямі [33]. Калі ў 1875 г. мяшчане мястэчак атрымалі саслоўнае самакіраванне, то Воранава, Шчучын, Васілішкі займелі выбарныя мяшчанскія ўправы, а Беліца, Орля, Ражанка, Астрына, Новы Двор – мяшчанскія ўпраўленні. Але паколькі мяшчанства мястэчак складалася пераважна, а часам і выключна з габрэяў, то царскія ўлады ніяк не маглі выконваць на Беларусі прадпісанне закона: выбраць местачковае мяшчанскае самакіраванне, якое б складалася на 2/3 з хрысціян.

У некаторых мястэчках пражывалі купцы. Так, паводле ведамасці аб колькасці купецкіх капіталаў у 1856 г. у Жалудку было 2 купцы 3-й гільдыі, у Воранаве і Васілішках – па 1. Усе яны былі габрэямі і абвясцілі капіталы ў памеры 2400 руб. [34]. У 1861 г. у мястэчках Лідчыны пражывала 30 чал. ( 14 муж. і 16 жан.) купецкага звання [33]. Як паказана ў табліцы 7, паводле матэрыялаў перапісу 1897 г. у мястэчках Лідскага ўезда да купецтва (купцы разам з сем'ямі) належалі 24 габрэя.

Такім чынам, асноўнымі саслоўнымі групамі ў мястэчках з'яўляліся мяшчане (як правіла, габрэі) і сяляне. Акрамя таго архіўныя крыніцы згадваюць ў мястэчках: дваранаў, духавенства, купцоў, часам – ваенных, стацкіх, разначынцаў, аднадворцаў, дваровых людзей, "замежных падданых", "ганаровых грамадзянаў" і інш. Колькасць гэтых саслоўных груп была невялікая, за выключэннем ваенных. Адстаўныя ваенныя, што жылі ў мястэчках стала, былі малалікімі. Аднак колькасць ваенных часам была даволі прыкметнай з-за кватаравання войскаў у мястэчках. Так, у 1826 – 1830 гг. у 11 мястэчках Лідскага уезда (дзе налічвалася 501 хрысціянскі двор і 431 габрэйскі) было размешчана на пастой 5 штаб-афіцэраў, 15 обер-афіцэраў, 459 салдат, у тым ліку ў габрэйскіх дамах адпаведна 1, 13, 322. [35]. У 1834 – 1835 гг. батальённыя штабы размяшчаліся ў Эйшышках, Беліцы, Васілішках [36].

Мястэчкі выступалі адміністрацыйнымі цэнтрамі акругі: былі цэнтрамі станаў, валасцей. А гэта значыць, што ў складзе насельніцтва мястэчак меліся станавыя і валасныя чыноўнікі. Так, у пачатку XX ст. "стражнікі" і "ураднікі" знаходзіліся ў Беліцы, Воранава, Эйшышках, Шчучыне, Жалудку, Орлі, Ражанцы, Астрыне, Новым Двары, Васілішках, Радуні. Захаваліся звесткі пра факты хабарніцтва тутэйшых

чыноўнікаў. Так, у сакавіку 1910 г. карэспандэнт з Беліцы, які назваўся “валасны”, паведаміў у “Нашай Ніве”: “Нашы валасныя суддзі прызвычаіліся да нейкага “бульёну”... Маеш якую справу ў судзе, ну і грэй “бульён”, бо справа схаладае... Кажуць, што самы слабенькі “бульён” каштуе 5 рублёў, а добры – 8-10” [37].

З развіццём рынкавых адносінаў выразныя межы, што дзялілі саслоўі, паступова знікаюць. К канцу XIX – пачатку XX ст. саслоўны падзел шмат у чым стаў фармальным. Аднак саслоўнасць заставалася ўсё ж такі даволі істотным элементам грамадскага жыцця. У мястэчках Беларусі ў парэформенны перыяд можна было сустрэць прадстаўнікоў усіх саслоўных груп: купцоў, мяшчанаў, ганаровых грамадзянаў, розных катэгорый сялянаў. Звернем увагу на той факт, што ў мястэчках разглядаемага рэгіёна пераважалі прадстаўнікі гарадскіх саслоўяў. Паводле статыстычных звестак з табліцы 3, у 1870 – 1871 г. у мястэчках Лідскага ўезда асобы гарадскіх саслоўяў складалі 74,4 % усіх жыхароў, асобы сельскага стану – 25,6 %. Гэта яшчэ адзін аргумент на карысць гарадской сутнасці мястэчак.

Такім чынам, насельніцтва беларускіх мястэчак, у тым ліку Лідскага уезда, уяўляла сабой складаны кангламерат розных этнаканфесійных і сацыяльных груп, што знаходзіліся ў стане ўзаемакантактаў і ўзаемаўплываў. Па гэтых якасцях мястэчкі набліжаліся да гарадоў.

**Гаспадарчае жыццё мястэчак** Лідскага ўезда ў XIX – пачатку XX ст. ахарактарызуем праз вызначэнне іх камунікацыйнага становішча, гандлёва-прамысловай ролі, сельска-гаспадарчай дзейнасці.

Мястэчкі, як вядома, з’яўляліся гандлёва-прамысловымі цэнтрамі наваколля. Гэтаму ў многім садзейнічала іх выгаднае геаграфічнае і транспартнае становішча. Напрыклад, развіццю Эйшышак садзейнічала размяшчэнне мястэчка на галоўным тракце з Вільні да Кракава. Радунь жа знаходзілася пры найкарацейшай прасёлкавай дарозе паміж Вільняй і Кракавам. Воранава ляжала паміж Лідаю і Вільняй на гродзенскім паштовым тракце, Шчучын – на паштовай дарозе паміж Вільняй і Гродна. Паштовыя дарогі звязвалі Воранава і Бастуны, Эйшышкі і Бастуны, Ішчалну і Ліду, апошняя пралягала праз Жалудок, Шчучын, Васілішкі. Паштовых коней трымалі: па 7 у Шчучыне і Эйшышках, 5 у Васілішках, 4 у Жырмунах, па 2 у Беняконях, Беліцы, Жалудку, Орлі, Ражанцы, Радуні, Дакудаве. Уздоўж паштовых трактаў быў тэлеграф. Паштовыя аддзяленні знаходзіліся ў Беняконях, Васілішках, Воранаве, Эйшышках; паштова-тэлеграфныя – у Жалудку і Шчучыне [27].

Дзякуючы мясцоваму карэспандэнту “Нашай Нівы”, які падпісаўся “Адзін за ўсіх”, мы маем звесткі пра пачатковую гісторыю тэлефоннай сувязі на Лідчыне. Газета ў жніўні 1909 г. паведамляла, што ў 5-м земскім участку Лідскага ўезда ўстаноўлена тэлефонная сувязь паміж Дубіцкай, Астрынскай і Сабакінскай валасцямі. Выказвалася надзея, што “можа за некалькі гадоў гэтак усялякая воласць будзе мець тэлефон, з воласці ў павятовы горад, з павятовых у губернскія і гэтакім парадкам можна будзе гаварыць з кім захочаш па ўсёй нашай бацькаўшчыне – Беларусі”. Тэлефонная сувязь паўстала дзякуючы агульным намаганням: 300 руб. выдзелілі воласці, аколічныя паны далі слупы, а земскі Шаталаў клапаціўся аб усім. Далей карэспандэнт апісваў камічны выпадак, калі тутэйшы памешчык М. ехаў уначы да хаты праз мястэчка Новы Двор, “ехаў не сярэдзінай дарогі, а бокам, зачапіў носам за дрот, каторым слуп быў прывязаны да зямлі, назаўтра нос распух, як жбанок. “Ось і пагаварыў праз тэлефон”, – смяюцца людзі” [38].

У развіцці многіх мястэчак важную ролю адыгрывалі водныя шляхі зносін. Так, пры Нёмане месціліся Дакудава, Орля і Беліца, дзе былі прыстані і пераправы. З інвентарнага апісання Беліцы за 1865 г. вядома, што тут было 2 парома: "адзін насупраць двару, пабудаваны ў 1848 г., другі насупраць мястэчка, з канатам, лодкаю і ўсім абсталяваннем; паромы старыя, дрэва гнілое, патрабуюць перабудовы" [39].

З правядзеннем чыгунак ужо не толькі рэкі і грунтавыя дарогі ўплываюць на жыццё мястэчак. Да чыгуначнай сеткі непасрэдна далучыліся Беняконі. Новы від транспарту быў лёгка даступны для Воранава, бо мястэчка месцілася ў адлегласці 10 вёрст ад чыгуначнай станцыі Беняконі. Недалёка ад Беліцы (9 вёрст) была чыгуначная станцыя Нёман. Іншыя мястэчкі Лідчыны аказаліся ў адноснай далечыні ад чыгунак. Для Васілішак, Шчучына і Ражанкі бліжэйшай чыгуначнай станцыяй была Ліда (адлегласць адпаведна – 35, 49 і 56 в.), для Жалудка – ч.ст. Нёман (32 в.), для Астрына – ч.ст. Парэчча (35 в.), для Радуні і Эйшышак – ч.ст. Бастуны (адпаведна 20 і 21 в.) [27].

Мястэчкі вылучаліся сярод шматлікіх паселішчаў Беларусі найперш сваёй гандлёвай функцыяй. Менавіта гандлю былі абавязаны мястэчкі фактам свайго ўзнікнення. Асноўнымі формамі арганізацыі местачковага гандлю ў разглядаемы перыяд з'яўляліся штогадовыя кірмашы, штотыднёвыя таргі і стацыянарныя крамы. Галоўную ролю адыгрывалі кірмашы, таргі ці базары. Паступова ўзрастала значэнне стацыянарнага гандля праз крамы.

На Лідчыне найбольш развітым гандаль быў у Шчучыне (Мал. 10.). Паводле прывілея Аўгуста III ад 28 мая 1761 г. у Шчучыне зацвярджаліся 12 кірмашоў штогод (у дзень 3-х польскіх каралёў, у дзень ачышчэння Маці Божай, на св.Казіміра, на другім тыдні пасля Пасхі, на св.Духа – 3-х-дзённы, на св.Кацярыны, на св. Іаана, у дзень св. Марыі Магдаліны – 2-х-тыднёвы, на Узнясенне Маці Божай, на Раство Маці Божай, у дзень св.Сімона і Іуды – 2-х-тыднёвы, у дзень Успення Маці Божай), а таксама 2 штотыднёвыя таргі (па нядзелях і чацвяргах). [40].




Мал.10. Рыначная плошча Шчучына падчас кірмашу, паштоўка пачатку XX ст.

У 1830-1850-я гады ў Лідскім уездзе кірмашы збіраліся ў Шчучыне (2) і Жалудку (1). Прывоз тавараў на іх складаў ад 2000 да 13 100 рублёў серабром, а продаж – ад 1200 да 4849 [41]. Па звестках на 1861 г. на Святадухаўскі кірмаш у Жалудку, які праходзіў 2 мая, было прывезена тавараў на 1500 руб., а прададзена на 800 руб. У Шчучыне адбыліся 4 кірмашы: 1) у дзень св.Марыі Магдаліны (з 15 ліпеня па 15

жніўня) – прывоз 2200 руб., продаж 1850 руб.; 2) св.Сімона і Іуды (з 16 кастрычніка па 16 лістапада) – прывоз 2200 руб., продаж 950 руб.; 3) Узнясенскі (12 мая) – прывоз 1400 руб., продаж 770 руб.; 4) Успенскі (15 жніўня) – прывоз 2100 руб., продаж 1100 руб. Колькасць крамаў у мястэчках Лідскага ўезду складала ў 1861 г. 96, з іх 20 мураваных і 76 драўляных. Аднак гэтыя крамы адчыняліся толькі падчас кірмашоў [33].

У пачатку XX ст. местачковых кірмашоў у Лідскім уездзе пабольшала. 4 кірмашы праходзіла ў Беліцы: Севасцьянаўскі (9 сакавіка), Георгіеўскі (23 красавіка), Успенскі (16 жніўня), Ганенскі (9 снежня). У Шчучыне захаваліся 2 кірмашы, што працягваліся па месяцу: з 15 ліпеня па 15 жніўня, з 16 кастрычніка па 16 лістапада, а таксама штотыднёвыя таргі па чацвяргам. У Жалудку праходзілі 5 кірмашоў, у Эйшышках – 2, Астрыне – 7 [27].

Звернем увагу на тое, што акрамя непасрэдна гандлёвай ролі кірмаш адыгрываў і шэраг іншых. Надзвычай шырокімі былі яго культурныя функцыі. Ажыўлялася музычнае і тэатральнае жыццё: прыязджалі акцёры, музыканты, ставіліся драматычныя і оперныя спектаклі. Для габрэйскай супольнасці кірмаш – гэта яшчэ месца і час, дзе і калі дамаўляліся наконт сватаўства, а таксама рабілі наборы ў іешывы (вышэйшыя рэлігійныя навучальныя ўстановы іудзеяў).

Дапаўняюць карціну развіцця гандлю ў мястэчках Лідчыны звесткі “*Słownika geograficznego Królestwa Polskiego”*. У Воранаве 4 разы на год праходзілі кірмашы, налічвалася 12 крамаў [42]. Асноўная частка гандлёвых аперацый ажыццяўлялася на штотыднёвых базарах, што праходзілі па нядзелях. Воранава славілася ў наваколлі выпечкай і продажам смачных абаранкаў. У Эйшышках па чацвяргам праходзілі таргі на коней і розную рагатую скаціну. Штотыднёвыя таргі (ці базары) збіраліся таксама ў Васілішках, Астрыне, Беліцы, Радуні (Мал. 11. ).



Мал.11. Базарны дзень у Радуні, пачатак XX ст.

Орля мела 2 крамы, 2 карчмы і шынок, Новы Двор – 3 крамы і 2 карчмы. 3 карчмы было і ў Беліцы [43]. Згодна інвентару Беліцы 1810 г., у мястэчку была карчма і заезны дом тыпу “Аўстэрыя” [44]. У Жалудку акрамя Святадухаўскага кірмашу, які спецыялізаваўся на конях, па нядзелях праходзілі таргі і налічвалася 23 крамы, 10

“піцейных дамоў” [45]. У 1909 г. у “Нашай Ніве” паведамлялася, што ў Жалудку “ёсць вялікая старасвецкая карчма, якая належыць князю Ч., ён перабудаваў яе нанова пад краму і чайную, хоча зрабіць тут і заезд дзеля начлегу, з крамы князь Ч. бярэ 50 руб. арэнды...” Гэты ж самы карэспандэнт, які падпісаўся “Дзяцел”, пісаў пра ўтварэнне ў мястэчку гаспадарскай суполкі – хаўруснай крамы: “ Хаўруснікаў у краме 120 – 140, кожны даў па 10 руб. За 7 месяцаў крама дала 400 руб. чыстага даходу. Яшчэ большая была бы карысць, каб у нас былі яшчэ хаўрусы для продажы мужыцкага дабра, здабытага мужыцкай працай, напрыклад, малака, масла, збожжа і інш.” [46].

У першай палове XIX ст. у некаторых мястэчках яшчэ захоўваліся розныя гандлёвыя зборы, што ішлі на карысць уладальнікаў. Прывядзём некалькі прыкладаў. Да 1835 г. у Шчучыне пры продажы вала патрабавалася заплаціць 7,5 кап., каня – 12 кап., цяляці і авечкі – 1,5 кап., бочкі солі – 22,5 кап., воза гаршкоў – 3 кап. У Жалудку падобныя гандлёвыя зборы існавалі нават у 1850 г., штогод яны складалі 50 руб. серабром, а уведзеныя былі яшчэ прывілеем Жыгімонта II ад 10 кастрычніка 1558 г. У выпадку, калі мястэчка было казённым, то гандлёвыя зборы ішлі на карысць дзяржавы. Так, гандлёвы збор у Васілішках у 1850 г. складаў 480 руб. У гэтым годзе жыхары Васілішак габрэі Меер Капельман і Герц Свецкі скардзіліся віленскаму губернатару на грамадскіх дэпутатаў і зборшчыкаў, якія ўвялі дадатковыя зборы з продажу розных тавараў. Высветлілася, што гэта было зроблена дзеля грамадскіх патрэбаў: рамонту дахаў дзвух сінагог (140 руб.) і інш. [47].

Вельмі распаўсюджанымі заняткамі местачкоўцаў, асабліва габрэяў, былі вытворчасць і продаж алкагольных напояў. Паводле архіўных крыніц у 1829 г., напрыклад, у Лідзе налічвалася 18 вінакурняў і піваварняў, а ў мястэчках Лідскага уезда – 85: у Астрыне – 25, Васілішках – 16, Эйшышках – 13, Радуні – 8, Новым двары – 7, Жалудку – 6, Беліцы – 4, Орлі і Ражанцы – па 3. Амаль усе гэтыя ўстановы ўтрымлівалі габрэі. На местачковых вінакурнях і піваварнях за год было выраблена 15663 вёдзер віна, 4983 – піва. У дадзеным архіўным дакуменце сярод іншых згадваецца скарга-прашэнне, якую падавалі гродзенскаму губернатару габрэі мястэчак Радуні і Астрына, дзе яны прасілі не забараняць ім займацца “піцейным промыслам” [48]. У 1855 г. у Лідскім уездзе налічвалася 4 казённыя піваварні і 6 памешчыцкіх, 5 казённых вінакурняў і 55 памешчыцкіх [49].

Прамысловы патэнцыял *м. Васілішкі* вызначаў гарбарны “завод”, вытворчасць якога па дадзеных на 1815 – 1816 г. складала 1310 скур. Неабходныя матэрыялы для гарбарні набываліся ў Лідскім уездзе, а таксама ў Вільні і Зэльве. У гадавым звароце было капіталу да 800 руб. сер. [50].

Прамысловыя ўстановы, што дзейнічалі ў мястэчках Лідчыны паводле дадзеных “*Słownika geograficznego Królestwa Polskiego”* і *“Энцыклапедыі гісторыі Беларусі”*: у Воранаве – 2 гарбарні, млын; у Радуні – гарбарны “завод”, млын; у Жалудку – 2 млыны, гарбарня, бровар; у Ражанцы – сукнавальня; млыны былі ў Беняконях, Новым Двары.

Фрагментарныя звесткі аб развіцці рамяства, што захаваліся ў архіўных крыніцах, не дазваляюць скласці поўную карціну гэтай сферы дзейнасці жыхароў мястэчак. Часам рамесніцкія заняткі местачкоўцаў згадваюцца ў інвентарах. Так, інвентар Беліцы за 1854 г. называе каваля Івана Місюкевіча, ганчароў Аўгустына і Пятра Кучынскіх, шаўца Якава Камароўскага, камінара Іосіфа Сасноўскага, цырульніка Ізраэля Герана, а таксама некалькі крамнікаў, леснікоў, прадстаўнікоў мясцовай адміністрацыі: некалькіх дзесятнікаў, сотніка Іосіфа Юркевіча, войта Вікенція Гісюка [51].

Вядома, што ў Беларусі ў разглядаемы перыяд яшчэ захоўваліся рамесныя цэхі. Аднак многія рамеснікі не ўваходзілі ў іх і лічыліся вольнымі. Так, паводле 6-й рэвізіі насельніцтва (1811 г.) у Лідскім уездзе налічвалася 707 мужчын мяшчан і цэхавых, 315 вольных; паводле 7-й рэвізіі (1815 г.) – адпаведна 599 і 228 [52].

У архіўных дакументах сярэдзіны XIX ст. сустракаюцца прашэнні рамеснікаў-габрэяў аб стварэнні ў мястэчках рамесных цэхаў. Такое жаданне можна патлумачыць імкненнем вызваліцца ад улады кагалаў, пазбегнуць канкурэнцыі, а таксама трапіць у разрад "карысных". Справа ў тым, што па указу ад 23 лістапада 1851 г. прадугледжвалася падзяліць габрэяў на 5 разрадаў: купцы, земляробы, рамеснікі, мяшчане аселыя і мяшчане не аселыя (якія не маюць нерухомасці). У разрад рамеснікаў запісвалі толькі цэхавых. Архіўныя дакументы, якія ўтрымліваюць просьбы аб заснаванні цэхаў, падаюць звесткі аб колькасці рамеснікаў і іх спецыялізацыі. Па Лідскаму ўезду гэтыя матэрыялы ўтрымліваюць наступную інфармацыю. На момант збору дадзеных (пачатак 1852 г.) рамесныя цэхі існавалі ў мястэчках Шчучын, Астрына, Васілішкі, Эйшышкі і Жалудок. Рамеснікі-габрэі Радуні і Беліцы прасілі аб стварэнні рамесных цэхаў. Аднак ім было адмоўлена, таму што "не имеется закона на учреждение цехов по местечкам» [53].

Паводле указа ад 16 красавіка 1852 г. цэхавая сістэма ў губернях мяжы габрэйскай аселасці значна рэарганізоўвалася. ліквідаваліся цэхі там, дзе колькасць рамеснікаў была нязначная, і ствараліся "спрошчаныя рамесныя ўправы". У кожным горадзе і мястэчку засноўваліся асобныя "габрэйскія не рамесныя цэхі", куды павінны былі запісацца мастаўшчыкі, землякопы, муляры, каменячосы, цесляры, тынкоўшчыкі, рамізнікі, фурманы, садоўнікі, рабочыя на «фабрыках» і «заводах», чорнарабочыя, падзёншчыкі і хатнія слугі.

На працягу другой паловы 1852 г. – пачатку 1853 г. у 9 мястэчках Лідскага ўезда – Эйшышкі, Жалудок, Беліца, Астрына, Новы Двор, Шчучын, Васілішкі, Радунь, Воранава – былі ўтвораны складаныя (ці змешаныя) рамесныя цэхі, якія аб'ядналі 329 рамеснікаў розных спецыяльнасцей, колькасць якіх вагалася ад 4 (Радунь) да 15 (Эйшышкі). У *Эйшышках* налічвалася 41 цэхавых рамеснікаў і найбольшая сярод мястэчак Лідчыны колькасць рамесных спецыяльнасцей: краўцы (6 майстраў, 12 падмайстраў, 2 вучні), шаўцы (1 майстар), меднікі (1 майстар), шкляры (1 майстар), фарбавальшчыкі (1 майстар), капялюшнікі (1 майстар), пальчатнікі (1 майстар), парасонавы майстар, мяснік (2 майстры), гарбары (1 майстар, 1 падмайстар), свечачнікі (1 майстар, 1 падмайстар), ткачы (2 майстры, 1 падмайстар), пераплётчыкі (1 майстар, 1 падмайстар), кавалі (2 майстры, 1 падмайстар). На другім месцы па колькасці спецыяльнасцяў пасля Эйшышак і на першым па колькасці цэхавых рамеснікаў былі *Васілішкі*, дзе названыя 14 рамесных спецыяльнасцей і 92 рамесніка: краўцы (6 майстраў, 21 падмайстраў, 9 вучняў), шаўцы (3 майстры, 9 падмайстраў, 3 вучні), сталяры (2 майстры), шкляры (1 майстар, 2 падмайстры), фарбавальшчыкі (2 майстры, 1 падмайстра), капялюшнікі (1 майстар, 1 падмайстар), рымары (1 падмайстар), шліфавальшчык (1 майстар), мяснікі (2 майстры, 4 падмайстры), гарбары (3 майстры, 3 падмайстры), бляхары (1 майстар, 5 падмайстраў, 2 вучні), ткачы (1 майстар, 1 падмайстар), пераплётчыкі (4 падмайстры), кавалі (3 майстры). У *Беліцы* налічвалася 26 цэхавых рамеснікаў і 13 рамесных спецыяльнасцей: краўцы (3 майстры, 2 падмайстры), шаўцы (1 майстар, 1 падмайстар), сталяры (1 майстар), шкляры (1 майстар, 1 падмайстар), фарбавальшчыкі (1 майстар, 5 падмайстраў), капялюшнікі (1 майстар),

бavaўнаробы (1 майстар), токары (2 падмайстры), мяснікі (1 майстар), гарбары (1 падмайстар), бляхары (1 майстар), пераплётчыкі (1 падмайстар), кавалі (2 майстры). 47 цэхавых рамеснікаў і 11 рамесных спецыяльнасцей налічвалася ў *Шчучыне*: краўцы (2 майстры, 6 падмайстраў, 5 вучняў), шаўцы (2 майстры, 4 падмайстры, 3 вучня), сталяры (2 майстры, 1 падмайстар, 2 вучня), гадзіннікавы майстар, капялюшнікі (1 майстар, 1 падмайстар), бавaўнаробы (1 майстар, 2 падмайстры), мяснікі (1 майстар, 1 падмайстар), гарбары (1 майстар), пераплётчыкі (1 майстар, 1 падмайстар), кавалі (3 майстры, 2 падмайстры, 2 вучня), меднікі (1 майстар, 1 падмайстар). У *Жалудку* пералічаны 26 цэхавых рамеснікаў і 10 рамесных спецыяльнасцей: краўцы (4 майстры, 4 падмайстры), шаўцы (1 падмайстар), рымары (1 майстар), шкляры (1 падмайстар), фарбавальшчыкі (1 майстар, 2 падмайстры), капялюшнікі (2 майстры, 1 падмайстар), бавaўнаробы (1 падмайстар), мяснікі (2 падмайстры), кавалі (3 майстры, 1 падмайстра), меднікі (2 падмайстры). У м. *Астрына* налічвалася 51 цэхавых рамеснікаў, якія размяркоўваліся па 10 спецыяльнасцях: краўцы (5 майстроў, 10 падмайстраў, 1 вучань), шаўцы (4 майстараў, 5 падмайстраў, 1 вучань), рэзнікі (3 майстра, 6 падмайстраў), шкляры (2 падмайстры), фарбавальшчыкі (1 майстар, 2 падмайстры), бляхары (1 майстар), ткачы (1 майстар), гарбары (4 падмайстры), кавалі (1 майстар, 3 майстры), меднікі (1 майстар). 27 цэхавых рамеснікаў і 7 рамесных спецыяльнасцей было ў *Новым Двару:* краўцы (1 майстар, 4 падмайстры), шаўцы (1 майстар, 4 падмайстры), токары (1 падмайстар), мяснікі (9 падмайстраў), гарбары (1 майстар, 1 падмайстар), сталяры (1 падмайстар), ткачы (4 падмайстра). У *Воранаве* названыя 9 цэхавых рамеснікаў і 6 рамесных спецыяльнасцяў: краўцы (1 майстар), шаўцы (1 майстар), рымары (1 майстар), мяснікі (1 майстар, 2 падмайстры), булачнікі (2 майстры), сталяры (1 майстар). У пераліку 9 цэхавых рамеснікаў Радуні названыя 4 спецыяльнасці: краўцы (1 майстар, 2 падмайстры), шаўцы (1 майстар, 2 падмайстры), кавалі (1 майстар, 1 падмайстар), гарбары (1 майстар) [53].

Акрамя таго, у Жалудку, Беліцы, Астрына, Новым Двары, Шчучыне, Васілішках былі створаны габрэйскія «не рамесныя» цэхі, куды запісаліся 108 чалавек: у *Шчучыне* – 6 муляроў (1 майстар, 3 падмайстра, 2 вучня), 8 цесляроў (4 майстра, 4 падмайстра), 2 пільшчыка (1 майстар, 1 падмайстар); *Астрыне* – 20 цесляроў, 8 муляроў, 1 мастаўшчык; *Новым Двары* – 14 цесляроў, 2 пішчыка, 1 муляр, 4 цагельніка; *Жалудку* – 10 цесляроў, 1 цагельнік; Беліцы – 9 цесляроў, 1 муляр; *Васілішках* – 14 цесляроў, 1 муляр, 4 тынкоўшчыка, 2 падзёншчыка [53]. А ўсяго ў мястэчках разглядаемага рэгіёна названыя 39 рамесных прафесій. Самымі распаўсюджанымі былі краўцы, шаўцы, цесляры і кавалі.

Аналіз прыведзеных дадзеных дазваляе заўважыць такую асаблівасць мястэчковага рамяства, як высокі працэнт майстроў, што указвае на шырокае распаўсюджванне тут рамеснікаў-адзіночак. Рамесныя майстэрні ў мястэчках былі дробнымі, на іх у мінімальным аб’ёме выкарыстоўвалася наёмная праца. Працэс капіталізацыі сферы паслуг, такім чынам, мястэчкі амаль не закрануў. Рамяство тут з’яўлялася адзіным сродкам існавання скучанай габрэйскай беднаты. «Означенные в сей ведомости ремесла, – чытаем у дадзеным архіўным дакуменце, – суть единственный источник к жизни и удовлетворению всех лежащих платежей ремесленников» [53].

Звярнуўшыся да матэрыялаў аб гандлёва-прамысловых абаротах, Захар Шыбека вызначыў іх структуру ў мястэчках Беларусі ў 1900 г. На падставе гэтых дадзеных

можна праводзіць эканамічную тыпалогію мястэчак. Сярод мястэчак Лідскага ўезда З.Шыбека вызначыў структуру гандлёва-прамысловых абаротаў Астрына, Васілішак, Воранава, Жалудка, Орлі, Шчучына. Чыста гандлёвы характар (гандлёвыя абароты складалі 100 %) мелі Астрына, Воранава, Шчучын. Астатнія былі гандлёва-прамысловымі мястэчкамі з дамінаваннем гандлёвай функцыі (у Васілішках 91,2 % складалі гандлёвыя абароты, 8,8 % – прамысловыя; адпаведна ў Жалудку – 94,8 і 5,2; у Орлі – 95,9 і 4,1 [2].

Звернемся да першакрыніцы – матэрыялаў аб гандлёва-прамысловых абаротах пачатку XX ст. па Лідскаму і Скідзельскаму эканамічных раёнах (менавіта ў склад гэтых раёнаў былі ўключаныя большасць мястэчак Лідскага ўезда: Васілішкі, Воранава, Беняконі, Беліца, Радунь уваходзілі ў Лідскі раён, а Орля, Жалудок, Астрына, Шчучын, Ражанка – у Скідзельскі раён).

Табліца 8

*Гандлёвыя і прамысловыя абароты*
*некаторых мястэчак Лідскага ўезду ў пачатку XX ст.*

| Мястэчка | Гандлёвыя прадпрыемствы | | Прамысловыя прадпрыемствы | |
|---|---|---|---|---|
| | колькасць | абароты (тыс. руб.) | колькасць | абароты (тыс. руб.) |
| Васілішкі | 27 | 125 | 2 | 12 |
| Воранава | 28 | 78 | - | - |
| Беняконі | 12 | 71 | - | - |
| Орля | 5 | 234 | ? | ? |
| Жалудок | 27 | 182 | ? | ? |
| Астрына | 21 | 173 | - | - |
| Шчучын | 25 | 151 | - | - |

*Торговля и промышленность Европейской России. Вып. XI. Полесская полоса. СПб., 1908.С. 41.*

Такім чынам, у эканамічнай дзейнасці мястэчак дамінаваў гандаль.

Значнае месца ў гаспадарчым жыцці мястэчак займала сельская гаспадарка. Сельскагаспадарчыя заняткі жыхароў мястэчак добра адлюстроўваюць інвентары. Так, згодна дадзеных інвентара Беліцы за 1810 г., жыхары мястэчка апрацоўвалі 66 валокаў ворыва, мелі 35 коней, 142 валы, 3 быкі, 108 кароў, 81 ялоўняў, 136 авечак, 68 свіней [54]. Інвентар Беліцы 1854 г. больш дэтальна апісвае землі, што былі ў карыстанні местачкоўцаў: *землі пляцавыя* (у прэнтах) – у хрысціян пад будынкамі 9294 і пад агародамі 171734; у габрэяў пад будынкамі 3191,5 і пад агародамі 1231,5; *землі шнуравыя* – 59,5 валок; *землі моргавыя* – 338 моргаў ворыўных і 335 моргаў 249 прэнтаў сенакосных. Інвентар 1854 г. зафіксаваў і павіннасці, якія выконвалі жыхары Беліцы на карысць уладальніка (ім з'яўляўся князь Леў Пятровіч Вітгенштэйн, але на момант складання інвентара маёнтак быў у 12-гадовай арэндзе памешчыка Клячкоўскага). Адработачныя павіннасці складаліся з гвалтаў (з кожнага двара падчас жніва – 540 дзён, падчас узворвання зямлі і касьбы – 180 дзён), і падводнай павіннасці (пазначана як "віленскія дарогі – 164"). Грашовы чынш з мястэчка ў 1854 г. складаў 476

руб. 67 кап., у т.л. за пляцавыя землі – 180 руб., 32 кап.; шнуравыя – 207 руб. 75 кап., моргавыя – 32 руб.80 кап., угайнае (за карыстанне ляснымі ўгоддзямі) – 40 руб. 80 кап. Колькасць жывёлы ў хатняй гаспадарцы жыхароў Беліцы ў гэтым годзе была наступнай: 56 коней, 136 валоў, 90 кароў, 51 бык, 32 цялят, 382 авечак, 141 свіней, а таксама 40 пчаліных "калодаў" [55].

Справе павышэнню сельскагаспадарчай вытворчасці праз паляпшэнне агранамічнай службы садзейнічала даследчая сельска-гаспадарчая станцыя, утвораная ў 1910 г. каля Беняконяў (дзейнічала яна да 1959 г.). У снежні 1911 г. мясцовы карэспандэнт "Нашай Нівы", які назваўся "Тутэйшы", паведамляў: "У нас адкрылася пробнае поле (станцыя) віленскага таварыства сельскай гаспадаркі на 15 дзесяцінах. Пабудавалі гожае мураванае гумно, хату для чэлядзі, кожнаму па пакою і пякарні. Пакуль што жыве там і дырэктар станцыі аграном Ластоўскі, а на вясну будуць будаваць мураваны дом. Памешчыкі далі на станцыю 20 тыс. руб., і казна 20 тыс. руб. дасць, калі зацвердзіць Дума, і штогод казна будзе даваць па 3 тыс. руб. У гэтым гаду пасадзілі на пробу 26 гатункаў бульбы. Увосень жыта розных гатункаў сеялі. 1 дзесяціну бульбы касілі бульбянік, як толькі кончыў красаваць, а другую пакінулі. Някошаная бульба дала на 320 пудоў больш, як кошаная. На вясну станцыя будзе шырока рабіць розныя пробы, каб ведалі гаспадары, як гаспадарыць" [56].

Такім чынам, мястэчкі Лідскага ўезда мелі разнастайны набор гаспадарчых заняткаў насельніцтва, што, разам са складанай структурай насельніцтва, набліжала іх да гарадоў. Кожная этнаканфесійная і сацыяльная група жыхароў мястэчак займала сваю нішу ў іх эканамічным жыцці, якое працякала на аснове своеасаблівага падзелу працы, супрацоўніцтва паміж прадстаўнікамі розных катэгорый насельніцтва.

**Культурнае развіццё** мястэчак Лідскага ўезда ў разглядаемы перыяд можна адлюстраваць на прыкладзе вызначэння іх адукацыйна-асветніцкага патэнцыялу, архітэктурнага аблічча.

Адукацыйна-асветніцкі патэнцыял мястэчак характарызуюць колькасць і тыпы размешчаных тут навучальных устаноў, бібліятэк, музейных збораў.

Мястэчка *Шчучын* у працы М.Балінскага і Т.Ліпінскага "Старажытная Польшча" вызначаецца як "значны цэнтр асветы і дабрачыннасці ў краі" [57]. Росквіт асветы і навукі ў Шчучыне быў звязаны з дзейнасцю тут калегіума піяраў, аднаго з найбольш значных у Беларусі. Ён быў заснаваны ў 1718 г. Высокі ўзровень падрыхтоўкі гарантаваўся шырокай праграмай, падборам моцных выкладчыцкіх кадраў, багатым кніжным фондам: бібліятэка піяраў пачатку XIX ст. налічвала 2751 кнігу. Акрамя таго, выклачыкі і студэнты маглі карыстацца вялікай бібліятэкай Сцыпіёнаў, а потым Друцкіх-Любецкіх. У 1776 г. Адукацыйная камісія адчыніла ў Шчучыне падакруговае вучылішча, яно таксама належала піярам і было 3-класным. Пазней яно атрымала статус уезднага, было спачатку 4-класным (1804 г. – 9 выкладчыкаў, 114 вучняў, з якіх 12 навучаліся бясплатна: 2 за кошт канвікта піяраў, 10 – за кошт канвікта графа Храптовіча), затым 6-класным (1817 г. – 17 выкладчыкаў, 175 вучняў) [58]. Па звестках на 1830 г. вучэбная праграма ўезднага вучылішча ў Шчучыне складалася з наступных прадметаў: Закон Божы, расійская, польская, лацінская, французская, нямецкая мовы, гісторыя, геаграфія, арыфметыка, геаметрыя, прыродазнаўчая гісторыя, чыстапісанне [59].

Са шчучынскімі піярскімі навучальнымі ўстановамі звязаны імёны такіх вядомых навукоўцаў XVIII – XIX ст., як гісторык-археограф Мацей Доўгель,

філосаф Казімір Нарбут, філосаф, логік і псіхолаг Анёл Доўгірд, біёлаг Станіслаў Баніфацый Юндзіл, геолаг, мінералаг, даследчык Чылі, удзельнік вызваленчага руху ў Беларусі Ігнат Дамейка і інш.

Калі пасля паўстання 1830 – 1831 г. расійскі ўрад пачаў ліквідацыю манастырскіх школ у заходніх губернях, былі зачынены і шчучынскія навучальныя ўстановы піяраў. Архіўны дакумент 1833 г. сведчыць, што “вслед за закрытием бывшего пиарского Духовного Училища в местечке ІЩучин положено открыть светское 2-классное училище по методу Ланкастерской” [60].

Воранава ў XVIII ст. таксама мела навучальную ўстанову сярэдняга тыпу – піярскі калегіум, заснаваны Янам Сапегай у 1738 г. Пазней па распараджэнню Адукацыйнай камісіі піярская школа з Воранава была перанесена ў Ліду [61].

Амаль ва ўсіх мястэчках існавалі пачатковыя навучальныя ўстановы ў межах царкоўных праваслаўных прыходаў або каталіцкіх парафій – прыходскія вучылішчы. У прыходскіх вучылішчах абавязковым было навучанне дзяцей чытанню, пісьму і лічэнню, але настаўнік па сваім жаданні мог пашырыць кола ведаў.

У Лідскім уездзе ў першай палове XIX ст. прыходскія вучылішчы ўзгадваюцца ў Беняконях, Эйшышках, Беліцы, Ражанцы, Воранаве, Жалудку, Жырмунах, Васілішках. Так, па звестках за 1804 г. у Беняконях ў прыходскім вучылішчы было 6 вучняў, у Жырмунах – 7, Беліцы і Воранаве – па 8, Эйшышках і Васілішках – па 13. [62]. У прыходскім вучылішчы Васілішак у 1854 г. налічвалася 21 хлопцаў, усе яны балі асобамі сельскага стану [63]. У Шчучыне ў гэтым годзе ў 2-х класным прыходскім вучылішчы было 2 настаўніка і 29 вучняў, з якіх 11 належалі да дваранства, 3 – да гарадскіх саслоўяў, 15 – сельскага стану [64].

У мястэчках атрымала развіццё і жаночая адукацыя. Напрыклад, у Шчучыне жаночы пансіён утрымлівалі манахіні ордэна міласэрнасці, у 1803 г. тут навучаліся 10 дзяўчат, для 7 з іх навучанне было бясплатным (канвікт манахінь міласэрнасці) [65].

У 1840 – 1850 гг. ствараліся школы для дзяржаўных сялян: сельска-прыходскія вучылішчы ведамства Міністэрства дзяржаўнай маёмасці. Многія з іх знаходзіліся ў мястэчках, у Лідскім уездзе – у Радуні, Астрыне, Васілішках. Статыстычныя звесткі пра іх на 1861 г. змешчаныя ў наступнай табліцы.

Табліца 9

| Вучылішча | Год заснавання | Колькасць вучняў | Колькасць настаўнікаў | Колькасць кніг у бібліятэцы | Колькасць пропісяў |
|---|---|---|---|---|---|
| Радуньскае | 1859 | 40 | 1 | 91 | 20 |
| Астрынскае | 1858 | 53 | 1 | 117 | 13 |
| Васілішскае | 1848 | 37 | 1 | 204 | 88 |

Корева А. Материалы для географии и статистики России. Виленская губерния. СПб., 1861. С. 584.

У шэрагу мястэчак у 1860-я гг. у якасці пачатковай ступені адукацыі засноўваліся народныя вучылішчы. Паводле дадзеных “*Słownika geograficznego Królestwa Polskiego*”

у 1885/1886 г. у народных вучылішчах ў Радуні вучыліся 56 хлопцаў, 2 дзяўчынкі; у Васілішках у гэтым жа годзе было 86 вучняў; у Шчучыне – 78 хлопцаў і 6 дзяўчат [66]. Народныя вучылішчы былі таксама ў Жырмунах, Жалудку, Беняконях, Беліцы, Новым Двары, Орлі, Астрыне, Ражанцы, Эйшышках. У пачатковай валасной школе ў Сабакінцах у 1886/1887 г. налічвалася 41 вучняў [67].

Узровень адукаванасці прадстаўнікоў гарадскіх саслоўяў мястэчак Лідскага ўезда можна ускосна вызначыць па матэрыялах першага ўсеагульнага перапісу насельніцтва Расійскай імперыі 1897 г. Колькасць непісьменных сярод купцоў і мяшчанаў Лідскага ўезда (без г.Ліды) складала – 7139 мужчын, 9044 жанчын; пісьменных – 7133 мужчын, 5106 жанчын (у тым ліку 4 мужчыны мелі вышэйшую; 4 мужчын і 1 жанчына – сярэднюю спецыяльную; 36 мужчын і 17 жанчын – сярэднюю адукацыю). У адносных паказчыках: удзельная вага пісьменных сярод мужчын – амаль 50 %, сярод жанчын – 36 % [68].

Шмат матэрыялаў пра развіццё адукацыі ў мястэчках у пачатку XX ст. утрымлівае "Наша Ніва". Карэспандэнты з мястэчак ўздымалі праблемы п'янства, адсутнасці альбо недахопу школ, неабходнасці адкрыцця бібліятэк, гаспадарскіх суполак і г.д. Пра гэтыя важныя аспекты местачковага жыцця пісалі і карэспандэнты з Лідчыны, а менавіта з Астрына, Васілішак, Беняконяў, Новага Двару. Так, у лютым 1908 г. на старонках газеты нехта Калодка з Васілішак пісаў: "Была ў нас заведзена дармовая школа для сталых хлапцоў і дзяўчат. У гэтай школе шмат чаго добрага вучылі: і чытаць, і пісаць, і рукадзельнай работы. Многа дзяўчат карыстала з яе, а і хлапцоў не мала. Але ня доўга цешыліся з навукі людцы тутэйшыя: як пачала даглядаць за ёй мейсцовая паліцыя, дык і школа цяпер пустуе" [69]. Нагадаем, што апісваемы час быў перыядам палітычнай рэакцыі пасля паражэння рэвалюцыі 1905 – 1907 гг. Актывізавала сваю дзейнасць не толькі паліцыя, але і чарнасоценная арганізацыя "Саюз рускага народа". Пра гэта даведваемся ад карэспандэнта з Васілішак, які падпісаўся В.Т., яго паведамленне было змешчана ў "Нашай Ніве" у жніўні 1909 г.: "Некалькі дзён таму ў нас адкрывалі аддзел саюза "рускага народа". Найбольш старалася аб гэтым тутэйшая духоўная асоба, але неяк ня дужэ многа спагадалі людзі іхнаму дзелу: з 10-ці прошэных на гэта суседніх паноў прыехалі толькі 3, а Васілішскіх жэ былі на адкрыцці ураднік, паштовы чыноўнік і мужыкоў з 20. Запісалася ў саюз усяго 9 мужыкоў, ды і тыя ня ведаюць, што робяць" [70].

З Астрына ў студзені 1909 г. паведамлялася, што мужыкі збіраюцца адкрыць гарадское вучылішча [71]. Цікавая гісторыя пра будаўніцтва вучылішча ў Новым Двары змешчана на старонках газеты ў жніўні 1909 г. Аказалася, што дабрацца да новага будынкам вучылішча немагчыма, "хіба лётаючы па паветры", бо зямля перад ім належала купцу Бэршчанскаму, а ён не дазваляў па ёй хадзіць і патрабаваў за гэты кавалачак зямлі (даўжынёй 14 сажняў і шырынёй 10 сажняў) 300 руб. [72]. На неадпаведнасць паміж жадаючымі вучыцца і магчымасцямі мясцовага вучылішча скардзіўся карэспандэнт з Беняконяў: "У нашым народным вучылішчы было заўсягды ня больш 50-60 вучняў, а ў гэтым гаду ўсе сунуліся да навукі і ўжо вучацца больш за 100 і яшчэ просяцца, але не прыймаюць. Патрэбна тут двухкласнае прыходскае вучылішча, але ніхто аб гэтым не дбаець" [73].

Такім чынам, матэрыялы "Нашай Нівы" дапаўняюць карціну культурнага жыцця мястэчак разглядаемага рэгіёну і паказваюць, што культурна-асветніцкая праца беларускай інтэлігенцыі, якую каардынавала газета, мела водгук і ў мястэчках.

Уяўленне аб ўзроўні адукацыі ў мястэчках будзе няпоўным без уліку габрэйскіх рэлігійных школ – хедэраў, якія заставаліся па-за ўвагай Міністэрства народнай асветы. Па традыцыі ўсе без выключэння габрэйскія хлопчыкі з 4 да 13 гадоў вучыліся ў хедэрах, якія існавалі ў кожным мястэчку. Дзейнасць габрэйскіх школ немагчыма ацаніць адназначна. З аднаго боку, яны ўносілі ў габрэйскае асяроддзе пісьменнасць, прывівалі любоў да рэлігійных і нацыянальных традыцый, а з другога – нельга не заўважыць аднабаковасць гэтай асветы (адсутнасць свецкіх прадметаў) і невысокі ўзровень адукацыі настаўнікаў (меламедаў). Некаторыя мястэчкі, дзе знаходзіліся іешывы, былі цэнтрамі вышэйшай талмудзічнай адукацыі. Да такіх мястэчак належалі Васілішкі, дзе існавала заснаваная рабінам Іцхакам Капланам іешыва, якой у 1868 – 1869 гг. кіраваў Хафец Хаім (Ісраэль Меір), вядомы талмудзіст і мараліст, аўтарытэт ў галіне рэлігійнай этыцы, аўтар шэрагу кніг па рэгламентуемай этыцы іудаізма. У 1869 г. ён стварыў і ўзначаліў іешыву ў Радуні, якая славілася на працягу 60 гадоў і была ўзорам для ўсяго габрэйскага свету. У іешыве Радуня навучалася каля 300 студэнтаў (Мал. 12). Сёння ў ЗША існуе іешыва імя Хафеца Хаіма, у якой габрэйскія хлапцы з ўсяго свету спасцігаюць Тору і шануюць імя мудраца з Радуні [74]. Штэтлу Радунь, радуньскай іешыве і Хафецу Хаіму прысвечана кніга аднаго з яго вучняў Адама Рагоўскага [75].

Такім чынам, мястэчкі былі важнейшымі асяродкамі адукацыі, у тым ліку і габрэйскай. Па звестках Захара Шыбекі, у канцы XIX ст. у мястэчках навучаннем было ахоплена больш 80% дзяцей школьнага ўзросту, у 1,3 разы болей, чым у гарадах, ў 1,8 разы болей, чым у вёсках. Даследчык называе гэту з’яву адукацыйным феноменам мястэчкаў [2].




Мал. 12. Іешыва ў Радуні і яе настаўнікі.

Роля мястэчак, як асветніцкіх цэнтраў, не абмяжоўвалася толькі наяўнасцю ў іх навучальных устаноў. У гэтых паселішчах існавалі бібліятэкі. Адны з іх былі пры навучальных установах. Акрамя вучылішчных бібліятэк, у многіх мястэчках існавалі царкоўныя, манастырскія і прыватныя бібліятэкі.

Хаця мы не распалагаем канкрэтнымі фактамі пра царкоўныя бібліятэкі ў мястэчках Лідскага ўезда разглядаемага перыяду, можна адназначна сцвярджаць, што яны існавалі. Кожны храм меў абавязковы набор службовых і чэцціх кніг. У царкоўных бібліятэках захоўваліся і кнігі свецкага зместу. У XVIII – XIX ст., па звестках М.

Нікалаева, царкоўны кнігазбор у сярэднім складаўся з 10 – 30 кнігадрукаў і рукапісаў [76].

Бібліятэка піярскага кляштара ў *Шчучыне* налічвала больш за 2000 кніг, пераважна прыродазнаўчых, медыцынскіх, матэматычных. Былі тут творы Гамера, Гарацыя, Плутарха, Ціта Лівія, Вальтэра, Мантэск'е [77].

Поўнай статыстыкі прыватных бібліятэк і музейных збораў не існуе. Таму даныя аб іх вельмі фрагментарныя. Культурныя каштоўнасці захоўваліся практычна ў кожнага больш менш значнага абшарніка. Музейныя калекцыі, сямейныя архівы, карцінныя галерэі і бібліятэкі мелі каля 400 маёнткаў (у межах сучаснай Беларусі). З іх каля 54 знаходзіліся ў мястэчках і толькі 4 – у гарадах [2]. Так, у *Шчучыне*, у асобным мураваным будынку сярод парку, захоўваліся багатая бібліятэка і сямейны архіў Друцкіх-Дюбецкіх, прывезены з радавых маёнткаў з Піншчыны. Частку дакументаў на пачатку XX ст. перадалі ў Кракаў у музей Чартарыйскіх. А тое, што разам з кнігазборам захоўвалася на месцы, у Шчучыне, было знішчана ў першую сусветную вайну [78].

Такім чынам, агляд развіцця адукацыі ў мястэчках Лідскага ўезда дазваляе зрабіць выснову, што гэтыя паселішчы выступалі адукацыйна-асветніцкімі цэнтрамі, тут знаходзіліся навучальныя ўстановы розных тыпаў, бібліятэкі. Падкрэслім, што ў разглядаемы час адукацыя і асвета былі важным звяном у нацыянальнай палітыцы ўлад. Да сярэдзіны 20-х гадоў XIX ст. у сувязі з ліберальным стаўленнем царызму да мясцовай шляхты, асвета амаль цалкам была аддадзена ў рукі патрыётаў Рэчы Паспалітай на чале з Адамам Чартарыйскім. Школа займала значнае месца ў іх планах як сродак выхавання новых змагароў за аднаўленне Рэчы Паспалітай. Гэта дасягалася праз выкладанне гісторыі Рэчы Паспалітай, польскай мовы, літаратуры. Руская мова не была абавязковым прадметам, яна вывучалася па жаданню вучняў. Пасля следства і суда над філарэтамі і філаматамі пачынаецца русіфікацыя адукацыі, якая ўзмацнілася пасля падаўлення паўстанняў 1830 – 1831 гадоў і, асабліва, 1863 г. Беларуская мова наогул не дапускалася ў школу. Такім чынам, нацыянальная палітыка царызму ў галіне асветы ў Беларусі рабіла немагчымым узнікненне беларускай школы.

Мястэчкі Беларусі, у тым ліку і Лідскага ўезда, мелі арыгінальнае **архітэктурнае аблічча**. Выклікае цікавасць не толькі выразнасць забудовы і планіроўкі мястэчак у цэлым, але і архітэктурнае рашэнне асобных будынкаў. Планіроўка і забудова мястэчак мела сваю характэрную структуру і эстэтыку, хаця ў мястэчках спалучаліся архітэктурна-планіровачныя рысы і горада, і вёскі, пры гэтым дамінавалі менавіта гарадскія рысы. На думку Аляксандра Лакоткі, мястэчкі Беларусі запазычылі заходнееўрапейскую горадабудаўнічую аснову [79]. Менавіта гандлёвая плошча з'яўлялася планіровачным ядром забудовы мястэчак, што было характэрна для еўрапейскіх гарадоў XIII – XV ст. У сярэднявечным усходнеславянскім горадзе плошча займала другое пасля замка (дзядзінца, крамля) месца. Акрамя наяўнасці рынку, які меў першаснае значэнне, для мястэчак былі ўласцівыя і іншыя рысы планіровачнай структуры горада: пляцавая забудова, досыць разгалінаваная сетка вуліц. У меншай ступені праявілася тут тэндэнцыя да кампактнага размяшчэння, асабліва гэта тычыцца дробных мястэчак. Больш вялікімі былі ў мястэчках і памеры пляцаў і двароў. Гэта тлумачыцца параўнальна нязначнай ступенню заселенасці мястэчак, што давала магчымасць лягчэй прыстасоўвацца да ландшафта мясцовасці і камунікацыйнай сітуацыі, не аддаляючыся адначасова ад рынку на значныя адлегласці. Аднак па меры

павелічэння колькасці дымоў у мястэчках узмацняецца і агульная для ўсіх гарадоў тэндэнцыя да стварэння радыяльна-веернай сістэмы планіроўкі.

Цікавая планіровачная структура характэрна для Шчучына. Паводле класіфікацыі, прапанаванай Аляксандрам Лакоткай, яе можна аднесці да барочнай. У барочных мястэчках кампазіцыйным звяном з'яўлялася магнацкая сядзіба, якая размяшчалася на рынку альбо звязвалася з ім галоўнай планіровачна-камунікацыйнай воссю, як у выпадку Шчучына. У XIX ст. у мястэчку склалася рэгулярная сістэма планіроўкі, сфармаваўся ансамбль забудовы цэнтра з плошчай, на якой размясціліся будынкі касцёла Тэрэзы з кляштарам піяраў, Міхайлаўскай царквы, пошты, заезных дамоў, жылых дамоў рамеснікаў і гандляроў. Плошча раскрывалася ў бок палацава-паркавага комплексу Друцкіх-Любецкіх, які быў пабудаваны ў другой палове XVIII па праекту дэ Фленерса ў архітэктурных формах, пераходных ад барока да класіцызму. У стварэнні парку рэгулярнай планіроўкі прымаў удзел С.Юндзіл. Рэканструкцыю плана Шчучына на канец XVIII – першую палову XIX ст. зрабіў Юрый Чантурыя (Мал. 13.) [80].




Мал.13. План Шчучына канца XVIII – першай паловы XIX ст.: 1. – палац; 2 – парк; 3 – кляштар піяраў; 4 – царква; 5 – пошта; 6 – заезныя дамы; 7 – гандлёвыя рады; 8 – будынак лясніцтва; 9 – сінагагальны комплекс; 10 – адміністрацыйны ці гандлёвы будынак.

Тыповую для барочнага горадабудаўніцтва планіроўку атрымаў Жалудок пасля перахода ў XVIII ст. ва ўладанне роду Тызенгаузаў. Паселішча складалася з палацава-паркавага ансамбля і сялібнага раёна, якія знаходзіліся ў адлегласці 1 км і звязваліся прамалінейнай магістраллю. План Жалудка першай паловы XIX ст. рэканструкцыянаваны таксама Ю.Чантурыя (Мал. 14.). Цэнтр мястэчка меў эліпсавідную плошчу з гандлёвымі радамі пасярэдзіне, раскошнай мураванай паўкруглай карчмой на лініі авала, 6-ю вуліцамі-лучамі. Перыферыйная акружная траса Жалудка ўтварала выразны васьмівугольнік. На думку Ю.Чантурыя, аўтар планіровачнага рашэння Жалудка (ім, верагодна, быў стваральнік ансамбляў Гарадніцы італьянскі архітэктар Дж.Сака) творча выкарыстаў дасягненні англійскага і французскага горадабудаўнічага мыслення, а таксама разнастайны еўрапейскі вопыт дадзенага перыяду [80].




Мал. 14. План Жалудка ў першай палове XIX ст.: 1 – палацавыя пабудовы; 2 – парк; 3 – млын; 4 – касцёл кляштара кармялітаў; 5 – жылы будынак кляштара; 6 – гандлёвыя рады; 7 – карчма; 8 – парафіяльны касцёл Успення.

Прыкладамі планіроўкі мястэчак разглядаемага рэгіёна могуць служыць таксама план Радуні (Мал. 15.).




Мал. 15. План цэнтральнай часткі Радуні

Забудова мястэчкаў вызначалася комплексным размяшчэннем шэрагу будынкаў: гандлёвых радоў, храмаў, ратушы, валаснай управы, грамадскага магазіна, паштовай станцыі, школы, карчмы, заезнага двара, майстэрняў, жылых дамоў і г.д. У XIX – пачатку XX ст. мястэчкі Беларусі захоўвалі аўтахтоннае архітэктурнае аблічча. Хваля расійскай універсалізацыі не паспела да мястэчак дакаціцца. Перапланіроўку і перабудову зведалі толькі губернскія і некаторыя ўездныя гарады. Новаўвядзенні амаль не закранулі па-заштатныя гарады і мястэчкі.

Архітэктура мястэчак увабрала ў сябе асаблівыя рысы габрэйскага жыцця і культуры, што ўзмацніла арыгінальнасць, прыдала непаўторны каларыт архітэктурнаму абліччу мястэчак. Даследчыкі (Аляксандр Лакотка, Ала Сакалова і інш.) сцвярджаюць, што габрэйскія дамы мястэчак адрозніваліся ад беларускіх памерамі, планіроўкай, дэкорам. Для габрэйскай забудовы мястэчак былі ўласцівыя такія рысы, як шматфункцыянальнасць пабудоў, адкрытасць да далейшага развіцця ў залежнасці ад новых патрэбаў, прынцып аб’яднання вуліцай прастораў розных будынкаў. Звярталі на сябе ўвагу выразныя сілуэты дамоў з іх высокімі, масіўнымі стрэхамі, кампазіцыі

фасадаў з варыяцыямі галерэяў, балконаў, мансардаў. Забудова дамоў-крамаў рамеснікаў-гандляроў ставілася па перыметры плошчы і асноўных вуліц надзвычай шчыльна, дах да даху. Прыкладам арыгінальнасці і своеасаблівай архітэктуры такой забудовы можа служыць фотаздымак мястэчка Беліца пачатку XX ст. (Мал. 16.) А прыкладам шматфункцыянальнасці местачковых будынкаў, якія ўяўлялі сабой камбінацыю жылых, гаспадарчых, рамесных і гандлёвых памяшканняў, з'яўляецца схематычны план жылога дома гандляра з м.Радунь (Мал. 17).



Мал. 16. Беліца пачатку XX ст.

Дамінантамі местачковага сілуэта з'яўляліся сакральныя збудаванні. Мястэчкі выступалі рэлігійнымі цэнтрамі наваколля. Так, паводле звестак на 1864 г. колькасць прыхаджан касцёлаў мястэчак Лідчыны складала: у Новым Двары – 3769 чал., Жалудку – 5961 чал., Шчучыне – 1805 чал., Ражанцы – 2346 чал., Эйшышках – 8491 чал., Радуні – 6117 чал., Васілішках – 6981 чал., Беняконях – 3801 чал., Воранаве – 1291 чал. Праваслаўных храмаў было менш: Святадухаўская царква Беліцы мела 1264 прыхаджан, Спаса-Праабражэнская царква ў Астрыне – 1052, Пакроўская ў Орлі – 2336, Пакроўская царква ў Сабакінцах – 1986 [81].

Многія згаданыя хрысціянскія храмы з'яўляліся, а тыя, што захаваліся, і сёння з'яўляюцца выдатнымі помнікамі культуры. Важнае грамадска-сацыяльнае значэнне мястэчка вымушала надаваць абліччу сакральных збудаванняў асаблівую выразнасць. Нездарма многія шэдэўры беларускай сакральнай архітэктуры былі ўзведзены менавіта ў мястэчках. Прыкладамі могуць служыць адлюстраваныя і ўвекавечаныя на малюнках Напалеона Орды і фотаздымках Яна Балзункевіча касцёл Іаана Хрысціцеля ў Васілішках; касцёл Ушэсця ў Жалудку; Петра-Паўлаўскі касцёл у Ражанцы; касцёл Іаана Хрысціцеля ў Беняконях, касцёл Святой Тэрэзы ў Шчучыне, Свята-Праабражэнская царква ў Астрыне, Свята-Пакроўская ў Орлі, Свята-Міхайлаўская ў Шчучыне і інш. [82].

Габрэйскія абшчыны мястэчак мелі свае культавыя збудаванні. Паводле дадзеных на 1857 г. у мястэчках Лідскага ўезда налічвалася 11 кагалаў, 19 малітоўных школ [83]. У канцы XIX – пачатку XX ст. у Беліцы, Васілішках, Новым Двары, Астрыне былі

ўзведзены будынкі сінагог, некаторыя з іх захаваліся да нашых дзён (Мал. 18, 19.). Такім чынам, у мястэчках існаваў класічны трохкутнік: царква – касцёл – сінагога.



Мал. 18. Сінагога ў Новым Двары (пач. XX ст.). Фота 1990 г.



Мал. 19. Сінагога ў Астрыне (пач. XX ст.). Фота 1990 г.

Прывядзём выказванне пра мястэчка польскага даследчыка Пятра Эберхардта, які пісаў: "Перапляценне трох культур і трох рэлігіяў – артадаксальнай габрэйскай, шляхецкай польскай і сялянскай беларускай – стварал разам непаўторную атмасферу і фальклор. Гэтыя тры разнастайныя культуры жылі ва ўзаемным сімбіёзе. Пазнейшыя гістарычныя падзеі знішчылі гэтую ўнікальную полікультурнасць. Вынішчэнне габрэйскага насельніцтва, а потым таксама ў вялікай ступені тое самае ў адносінах да польскай супольнасці прывяло да заняпаду шматкультурнасці. Пазнейшая саветызацыя і русіфікацыя таксама прынеслі ў поўнай меры знішчэнне культурных асаблівасцяў беларусаў. Беларускія мястэчкі, якія прадстаўлялі незвычайную з’яву ў гісторыі культуры, загінулі. У якасці слядоў тых далёкіх часоў засталіся толькі знішчаныя касцёлы, сінагогі і цэрквы, а таксама пакінутыя і спустошаныя рэшткі старых яўрэйскіх і каталіцкіх могілак” [84].

Такім чынам, мястэчка ў нашай гісторыі ўяўляла ўнікальны сацыя-культурны феномен. Яно надзвычай цікавае як асяродак яўрэйскай гісторыі рэгіёна, культурнай творчасці яўрэяў, месца іх уласнага “асяроддзя пражывання”. Мястэчка цікавае і як месца сустрэчы, “сужыцця” розных этнасаў, вераў, моваў і культур, якія жылі ва ўзаемным сімбіёзе.

Даследаванне мястэчак дае ўнікальную магчымасць заглянуць у своеасаблівы мястэчковы сусвет, адчуць непаўторную атмасферу і каларыт, якія ўзнікалі на тым “памежжы”, што ўяўляла сабой кожнае поліэтнічнае і поліканфесійнае мястэчка.

Літаратура:


1. Грахоўскі С. Мястэчка, мястэчка… Элегія // Полымя. 1992. № 2. С. 143.
2. Шыбека З. Гарады Беларусі (60-я г. 19 – пачатак 20 ст.). Мн., 1997. С.197, 227, 190, 193.
3. Рагойша В. Заходнебеларускае мястэчка як асяродак беларуска-польскага культурнага сумежжа (на прыкладзе Ракава) // На шляхах да ўзаемаразумення. Беларусіка. Кн.15. Мн., 2000. С.62.
4. Энцыклапедыя Гісторыі Беларусі: У 6 т. Мн., 1993 – 2001. (далей ЭГБ) Т.4. С.365.
5. Alexandrowicz S. Geneza i rozwój sieci miasteczek Białorusi i Litwy do połowy XVIII w. // Acta Baltico-Slavica. Białystok, 1970. № 7. S.67 – 89, 93
6. ЭГБ.Т.1. С. 226.
7. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (НГАБ) у Гродна. Ф.1. Воп. 1. Спр. 100. Арк. 28 адв.; Воп. 3. Спр. 536. Арк. 54 адв. – 61.
8. ЭГБ.Т.1. С. 494.
9. ЭГБ.Т.2.С.14.
10. ЭГБ.Т.2. С.229.
11. ЭГБ. Т. 2. С. 358; НГАБ у Гродна. Ф.1. Воп. 1. Спр. 100. Арк. 28 адв.
12. Первая всеобщая перепись населения Российской империи 1897 г. IV. Виленская губерния. Тетрадь 1. СПб., 1900. С. 16 – 17.
13. ЭГБ. Т.3.С.363.
14. ЭГБ. Т.3.С.384.
15. ЭГБ. Т.3.С.390.
16. ЭГБ. Т.3.С.511.
17. ЭГБ. Т.5.С.333.
18. ЭГБ. Т.5.С.357.
19. ЭГБ. Т.6. Ч.1. С.69; Занеўскі С.В. Радунь (XIII – XIX ст.) // З гісторыі краю і лёсаў людзей Воранаўшчыны. Ліда, 2006. С.52.
20. ЭГБ. Т.6. Ч.1. С.83; Rouba Napoleon. Przewodnik po Litwie i Bialejrusi. Wilno 1909 – Gdańsk 1995. S.166.
21. Rouba Napoleon. Przewodnik po Litwie i Bialejrusi…S.177 – 178.
22. ЭГБ. Т.6. Ч.2. С. 242; Rouba Napoleon. Przewodnik po Litwie i Bialejrusi… S.187.
23. Городские поселения в Российской империи. Т.1. СПб., 1860. С.187.
24. Живописная Россия. Репринт. воспроизведение изд. 1882 г. Мн., 1994. С. 16.
25. Rouba Napoleon. Przewodnik po Litwie i Bialejrusi… S.60.
26. Статистический временник Российской империи. Выпуск 1. СПб., 1866. С. 82.
27. Полный список населенных мест со статистическими данными о каждом поселении. Виленская губерния. Вильно, 1905. С. 16-17,19, 183, 214,11.
28. Галоўны Архіў старажытных актаў у Варшаве (AGAD), AR, dz. XXV, sygn. 182, 190.
29. Наша Ніва. 1911. № 4. 27 студзеня 1911 г.
30. Staliunas Darius. Anti-Jewish Disturbances in the North-Western Provinces in the Early 1880s // East European Jewish Affairs, Vol. 34, No. 2, Winter 2004, p. 123.
31. НГАБ у г.Гродна. Ф. 1. Воп. 3. Спр. 422. Арк. 122 адв. – 123.
32. AGAD, AR, dz. XXV, sygn. 194, 206.
33. Корева А. Материалы для географии и статистики России. Виленская губерния. СПб., 1861. С. 389, 385, 518.
34. Дзяржаўны гістарычны архіў (ДГА) Літвы. Ф. 381. Воп. 17. Спр. 2871. Арк. 7.
35. НГАБ у Гродна, Ф. 1. Воп. 2, Спр. 1374. Арк. 88–89.
36. НГАБ у Гродна, Ф. 1. Воп. 4. Спр. 317. Арк. 5.
37. Наша Ніва. 1910. № 12.
38. Наша Ніва. 1909. № 31 – 32.
39. AGAD, AR, dz. XXV, sygn. 211. S. 4.
40. ДГА Літвы. Ф. 381. Воп. 17. Спр. 2765, Арк. 42.
41. Швед В.В. Торговля в Беларуси в период кризиса феодализма. Гродно, 1995. С. 99.
42. Słownik geograficzny Królestwa Polskiego. T. XIII. Warszawa, 1893. S. 955.

43. Słownik geograficzny Królestwa Polskiego. T. VII. Warszawa, 1886. S. 582, 733; T. XIII. Warszawa, 1893. S. 128.
44. AGAD, AR, dz. XXV, sygn. 194. S. 2.
45. Słownik geograficzny Królestwa Polskiego. T. XIV. Warszawa, 1895. S. 827.
46. Наша Ніва. 1909. № 9.
47. ДГА Літвы. Ф. 381. Воп. 17. Спр. 2759. Арк. 65, 66, 128, 134, 162.
48. НГАБ у Гродна. Ф.1. Воп. 3. Спр. 536. Арк. 54 адв. – 55, 145.
49. ДГА Літвы. Ф. 388. Воп. 1. Спр. 191. Арк. 6.
50. НГАБ у Гродна. Ф.1. Воп. 1. Спр. 561. Арк. 53 адв.
51. AGAD, AR, dz. XXV, sygn. 206. S. 6 – 19.
52. НГАБ у Гродна. Ф.1. Воп. 1. Спр. 915. Арк. 15 адв.
53. ДГА Літвы. Ф. 381. Воп. 17. Спр. 2762. Арк. 124, 508 -512 адв., 836, 945, 1070.
54. AGAD, AR, dz. XXV, sygn. 194. S. 12 – 13.
55. AGAD, AR, dz. XXV, sygn. 206. S. 19.
56. Наша Ніва. 1911. № 50.
57. Baliński M., Lipiński T. Starożytna Polska pod względem historycznym, geograficznym i statystycznym. T. III. Warszawa, 1846. S. 261.
58. Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў у Санкт-Пецярбургу (РДГА). Ф. 733. Воп. 62. Спр. 389. Арк. 205; Воп. 95. Спр. 380. Арк. 18 адв., 64 адв.
59. РДГА. Ф. 733. Воп. 62. Спр. 1021.
60. НГАБ у Гродне. Ф. 1. Воп. 27. Спр. 735. Арк. 1.
61. Słownik geograficzny Królestwa Polskiego. T. XIII. Warszawa, 1893. S. 955.
62. РДГА. Ф. 733. Воп. 95. Спр. 380. Арк. 123.
63. ДГА Літвы. Ф. 388. Воп. 1. Спр. 175. Арк.22.
64. ДГА Літвы. Ф. 388. Воп. 1. Спр. 174. Арк. 19 адв.; Спр. 175. Арк. 14 адв.
65. РДГА. Ф. 733. Воп. 95. Спр. 380. Арк. 17.
66. Słownik geograficzny Królestwa Polskiego. T. IX. Warszawa, 1888. S. 450; T. XIII. Warszawa, 1893. S. 128; T. XI. Warszawa, 1890. S. 864 – 865.
67. Słownik geograficzny Królestwa Polskiego. T. X. Warszawa, 1889. S. 939.
68. Падлічана па: Первая всеобщая перепись населения Российской империи 1897 г. IV. Виленская губерния. Тетрадь 3. СПб., 1904. С. 41.
69. Наша Ніва. 1908. № 4.
70. Наша Ніва. 1909. № 31-32.
71. Наша Ніва. 1909. № 5.
72. Наша Ніва. 1909. № 31-32.
73. Наша Ніва. 1911. № 50.
74. Пивоварчик С.А. Великий еврейский философ из Радуни Хафец Хаим // З гісторыі краю і лёсаў людзей Воранаўшчыны. Ліда, 2006. С. 174 – 179.
75. Adam Rogowski. Lost and found. Tei-Aviv. 264 s.
76. ЭГБ. Т.2. С. 42.
77. Цыбуля В.А. Манастырскія і царкоўныя бібліятэкі ў Беларусі // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1970. №3. С. 50.
78. Коўкель Л.І. Прыватныя бібліятэкі Гродзеншчыны (канец 18 – пачатак 20 ст. ) // Шлях у навуку: Матэрыялы навук. канфер. Мн., 1997. С. 80 – 84.
79. Лакотка А.І. Нацыянальныя рысы беларускай архітэктуры. Мн., 1999. С. 137.
80. Чантурия Ю.В. Градостроительное искусство Беларуси второй половины XVI – первой половины XIX в. Мн., 2005. С. 151, 161–164; Архітэктура Беларусі: Энцыклапедычны даведнік. Мн., 1993. С. 210, 491 – 492.
81. Атлас народонаселения западно-русского края по исповеданиям. СПб., 1864.
82. Беларусь у малюнках Напалеона Орды. Другая палова XIX ст. Мн., 2001. С. 104; Хрысціянскія храмы Беларусі на фотаздымках Яна Балзункевіча. Пачатак XX ст. Мн., 2001. С. 14, 19, 27, 70, 72, 74, 85, 132, 142, 169, 170.
83. ДГА Літвы. Ф.388. Воп. 1. Спр. 250. Арк. 43.
84. Эберхардт П. Дэмаграфічная сітуацыя на Беларусі: 1897-1989. Мн., 1997.С.97.

*І.Ф. Кітурка*
*г. Гродна, ГрДУ імя Я.Купалы*

## НАСЕЛЬНІЦТВА ЛІДЫ Ў МАТЭРЫЯЛАХ ПЕРШАГА ЎСЕАГУЛЬНАГА ПЕРАПІСУ РАСІЙСКАЙ ІМПЕРЫІ 1897 г.

Матэрыялы Першага ўсеагульнага перапісу насельніцтва Расійскай імперыі 1897 г. адносяцца да ліку статыстычных крыніц і ўтрымліваюць каштоўную інфармацыю як для вывучэння розных аспектаў гісторыі (эканамічнай, дэмаграфічнай, сацыяльнай, канфесійнай і г. д.) усёй Беларусі, так і яе асобных рэгіёнаў і населеных пунктаў.

Генэзіс статыстычных крыніц на землях Беларусі прыпадае на перыяд ВКЛ, а дакладней на канец XV – пачатак XVI ст., і звязваецца з патрэбай дзяржаўнай улады ў арганізацыі і правядзенні рознага роду ўліку, у першую чаргу фіскальнага і гаспадарчага характару [1, с. 80]. У сувязі з гэтым узнік шэраг дакументаў, якія ўтрымлівалі статыстычную інфармацыю – пісцовыя кнігі, пописы воіска і ў пераважнай большасці інвентары (рэестры) уладанняў.

Аднак фрагментарных звестак асобных дакументаў хутка стала не дастаткова для эфектыўнага вядзення гаспадаркі. У дзяржавы ўзнікла патрэба ў больш поўнай інфармацыі адносна гаспадарчага становішча ўладанняў. Так, адным з першых агульнадзяржаўных мерапрыемстваў, падчас якога складаліся інвентары дзяржаўных уладанняў на значнай тэрыторыі ВКЛ, была валочная памера – аграрная рэформа сярэдзіны XVI ст.

Наступным крокам у развіцці статыстычных дакументаў на землях ВКЛ стала зацвярджэнне Варшаўскім соймам 1562 г. пастановы аб перыядычным, раз на 5 гадоў, правядзенні люстрацыі дзяржаўных уладанняў [2, s. 618]. Пасля падпісанія Люблінскай уніі дзейнасць згаданай пастановы распаўсюдзілася і на дзяржаўныя ўладанні на землях ВКЛ.

Матэрыялы агульнадзяржаўных люстрацый (рэвізій) з'яўляюцца каштоўнай крыніцай для вывучэння, у першую чаргу, сацыяльна-эканамічнай гісторыі Беларусі. Іх навуковая значнасць заключаецца ў тым, што на падставе звестак, якія ўтрымліваюцца ў люстрацыйных інвентарах, можна вывучаць і параўноўваць становішча розных відаў дзяржаўных уладанняў (сталовых эканомій, старостваў і дзяржаў), а таксама розных населеных пунктаў (вёсак, мястэчак і гарадоў) на ўсёй тэрыторыі ВКЛ у адзін час. Аналіз такіх дакументаў дае мажлівасць выяўляць не толькі асноўныя накірункі гаспадарчага развіцця, але таксама рабіць статыстычны аналіз адносна дэмаграфічнай сітуацыі ва ўладаннях, асноўных і дадатковых занятках насельніцтва і інш.

Пры гэтым, вывучэнне статыстычных крыніц перыяду феадалізму дазваляе зрабіць выснову, што дакументы гаспадарча-ўліковага характару прайшлі пэўную эвалюцыю. Яна наўпрост была звязана са зменамі ў сацыяльна-эканамічным развіццці краіны. Так, напрыклад, у інвентарах амаль да канца XVIII ст. асноўная ўвага канцэнтравалася на колькасці зямлі ва ўладанні, наяўнасці ці адсутнасці фальваркаў, ураджайнасці, прыбытку з маёнтка і г.д. Адносна сялянскага насельніцтва складальнікаў дакументаў цікавілі толькі тыя аспекты, якія ўплывалі на агульны даход з уладання: 1) колькасць дымоў; 2) імя гаспадара дыму, 3) зрэдку – колькасць сыноў.

Гэта было звязана з выплатай асноўных падаткаў – феадальнай рэнты, якая залежала ад колькасці зямлі, што знаходзілася ў карыстанні сялянскай гаспадаркі, і ўведзенага ў 1649 г. падымнага, якое збіралася з дыму, прызначалася соймам і не залежала ад заможнасці гаспадаркі і колькасці чалавек у дыме [3, с. 375]. Уся астатняя інфармацыя з'яўляецца скрытай і для яе атрымання даследчык павінен выкарыстоўваць пэўныя аналітычныя спосабы і прыёмы.

У апошняй чвэрці XVIII ст. сталі з'яўляцца дакументы гаспадарча-ўліковага характару, у якіх упершыню насельніцтва дзялілася на пэўныя групы па пола-ўзроставай прыкмеце (напрыклад, "Табліца збору падаткаў з насельніцтва Крэўскага староства", датаваная 28 жніўня 1789 г. [4]). Хутчэй за ўсё, узнікненне такіх дакументаў было звязана з агульнай тэндэнцыяй, якая назіралася ў дзяржаўных уладаннях ВКЛ у другой палове XVIII ст. – перасяленне некалькіх сялянскіх сем'яў да адной хаты ці не выдзяленне ў асобную гаспадарку (дым) дарослых жанатых дзяцей з мэтай менш плаціць падымны падатак. Такім чынам, складанне дакумента з указаннем узроставых і полавых асаблівасцяў падатковага насельніцтва дазваляла прасачыць і пралічыць на перспектыву мажлівыя змены ў колькасці дымоў, а значыць і ў даходах скарбу.

Сітуацыя ў галіне складання статыстычных дакументаў выйшла на новы ўзровень з развіццём капіталістычных адносін. Паскарэнне мадэрнізацыі сацыяльна-эканамічнага развіцця ў Расіі (а значыць і на беларускіх землях, якія ўваходзілі ў яе склад) пасля сялянскай рэформы 1861 г., уключэнне ў гэты працэс вялікай колькасці людзей запатрабавала рознабаковай інфармацыі, якая б не толькі адэкватна адлюстроўвала розныя бакі жыцця грамадства, але і пры гэтым давала магчымасць зрабіць пэўныя прагнозы на будучыню. Такім чынам, зменаў запатрабавала самое жыццё, і ў другой палове XIX ст. сістэма статыстычнага ўліку ператварылася ў асобны напрамак дзейнасці дзяржаўнага апарату Расійскай імперыі [1, с. 93].

У 1895 г. Мікалаем II было зацверджана "Палажэнне аб Першым усеагульным перапісе насельніцтва Расійскай імперыі", які быў ажыццёўлены 28 студзеня 1897 г. на тэрыторыі ўсёй краіны ў адпаведнасці з адзінымі прынцыпамі, праграмай і методыкай.

Як ужо адзначалася, усе ранейшыя агульнадзяржаўныя мерапрыемствы, у выніку якіх складаліся дакументы статыстычнага характару, мелі пераважна гаспадарча-ўліковую і (ці) фіскальную накіраванасць. Першы Усерасійскі перапіс насельніцтва меў значна шырэйшую праграму, якая ўключала ў сябе збор інфармацыі па 13 асноўным пунктам: 1) прозвішча, імя, імя па бацьку; 2) пол; 3) адносіны да "галавы" гаспадаркі і "галавы" да сваёй сям'і; 4) узрост; 5) сямейнае становішча; 6) саслоўе, стан ці званне; 7) месца нараджэння; 8) месца прыпіскі; 9) месца жыхарства; 10) адзнака аб часовым месцазнаходжанні; 11) родная мова; 12) уменне чытаць і месца навучання; 13) занятак, рамяство, пасада ці служба [1, с.96]. Гэта было першае мерапрыемства падобнага тыпу, і яго апублікаваныя матэрыялы, нягледзячы на наяўнасць значнай колькасці пагрэшнасцей і недахопаў, з'яўляюцца важнай крыніцай для вывучэння розных аспектаў беларускай гісторыі.

Мэтай дадзенага артыкула з'яўляецца аналіз вынікаў перапісу 1897 г. па г. Ліда, вызначэнне саслоўнай, канфесійнай структуры насельніцтва, асноўных заняткаў жыхароў горада, ступені пісьменнасці лідчан у канцы XIX ст. і інш.

Згодна з матэрыяламі перапісу, колькасць насельніцтва ў г. Ліда на 28 студзеня 1897 г. складала 9.323 чалавекі, з якіх 5.312 чалавек былі мужчыны, 4.011 чалавек – жанчыны. Каб не было падвойнага ўліку, пры правядзенні перапісу насельніцтва

апытвалася ў тых населеных пунктах, дзе яно апынулася на момант правядзення мерапрыемства. Таму ў дакументах спецыяльна вызначаліся графы “сталае насельніцтва” і “часова перабываўшае”. У адпаведнасці з гэтым агульная колькасць насельніцтва ў г. Ліда прадстаўлена ў табліцы 1.

Табліца 1

**Агульная колькасць насельніцтва г. Ліда паводле перапісу 1897 г.***

| Рускія падданыя | | | | Замежныя падданыя | | | | Рускія і замежныя падданыя разам | | | | Усяго | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| сталае насельніцт. | | часова перабываўшае | | сталае насельніцт. | | часова перабываўшае | | сталае насельніцт. | | часова перабываўшае | | | |
| муж. | жан. | муж. | жан. | муж. | жан. | муж. | жан. | муж. | жан. | муж. | жан. | муж. | жан. |
| 4.881 | 3.945 | 424 | 60 | 6 | 6 | 1 | – | 4.887 | 3.951 | 425 | 60 | 5.312 | 4.011 |
| 8826 | | 484 | | 12 | | 1 | | 8838 | | 485 | | 9323 | |
| 9310 | | | | 13 | | | | 9323 | | | | | |

*Табліца складзена паводле: Первая всеобщая перепись населения Российской империи, 1897 г. – Т. IV. Виленская губерния / под. ред. Н.А.Тройницкого. – Тетрадь 1. – СПб, 1900. – С. 2-3.

Як відаць з дадзенай табліцы, падданых Расійскай імперыі на час правядзення перапісу ў Лідзе знаходзілася 9.310 чалавек, з іх 8.838 чалавек – сталае, пастаянна пражываючае ў горадзе насельніцтва. Калі дапусціць, што некаторая частка гараджан у гэты час магла знаходзіцца ў іншых месцах, то пэўна агульная колькасць сталага насельніцтва Ліды складала каля 9 тысяч чалавек.

Сярод сталага насельніцтва 6.438 чалавек (69,1 %) складалі мясцовыя жыхары. Пад мясцовымі ўраджэнцамі перапісчыкамі разумеліся асобы, якія нарадзіліся ў гэтым горадзе ці ўездзе, дзе яны запісаныя пры перапісу [5, Т. 2, с. 58]. Акрамя мясцовых жыхароў былі таксама вылучаны:

– ураджэнцы іншых уездаў Віленскай губерні – 433 чал. (4,6 %);
– ураджэнцы іншых губерняў – 2.438 чал. (26,1 %);
– ураджэнцы іншых дзяржаў – 14 чал. (0,2 %) [5, Т. 2, с. 58].

Геаграфія немясцовага насельніцтва дастаткова абшырная. На час перапісу ў Лідзе пражывалі ўраджэнцы 43 губерняў Еўрапейскай часткі Расіі (ад Архангельскай да Арэнбургскай і Тамбоўскай) – 2.275 чал., з іх: муж. – 2.028, жан. – 347 чал., а таксама 52 чал. (муж. – 25, жан. – 27) з Прывісленскіх губерняў (Варшаўскай, Люблінскай, Петрыкаўскай, Плоцкай і інш.) і па 3 чалавекі з Каўказа і Сібіры.

Што тычыцца замежных грамадзян, то яны былі прадстаўнікамі Аўстра-Венгрыі (3 муж.), Германіі (4 жан.), Прусіі (2 муж., 3 жан.), Турцыі (1 жан.), Швейцарыі (1 жан.) [5, Т. 3, с. 26–27] і іх агульная колькасць на аднаго чалавека больш, чым падавалася вышэй у табліцы. Гэта яшчэ адна неадпаведнасць у апублікаваных матэрыялах перапісу ў розных сшытках, якая, між іншым, істотна не ўплывае на агульнае ўяўленне аб насельніцтве г Ліды ў 1897 г.

Дэмаграфічную сітуацыю ў Лідзе на час правядзення перапісу 1897 г. даюць магчымасць прааналізаваць дадзеныя табліцы 2, дзе насельніцтва размеркавана па ўзроставым групам і полавай прыкмеце.

Табліца 2

**Колькасць насельніцтва г. Ліда па ўзроставым групам і полавай прыкмеце**

| № п/п | Узрост. група/пол | Усяго | Муж. | % у групе | Жан. | % у групе | % ад агульнай колькасці насельніцтва |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Дзеці да года | 256 | 140 | 54,7 | 116 | 45,3 | 2,7 % |
| 2. | 1 – 9 гадоў | 1784 | 876 | 49,1 | 908 | 50,9 | 19,1 % |
| 3. | 10 – 19 гадоў | 1797 | 819 | 45,6 | 978 | 54,4 | 19,3 % |
| 4. | 20 – 29 гадоў | 2905 | 2215 | 76,2 | 690 | 23,8 | 31,2 % |
| 5. | 30 – 39 гадоў | 898 | 428 | 47,7 | 470 | 52,3 | 9,6 % |
| 6. | 40 – 49 гадоў | 663 | 319 | 48,1 | 344 | 51,9 | 7,2 % |
| 7. | 50 – 59 гадоў | 487 | 239 | 49,1 | 248 | 50,9 | 5,2 % |
| 8. | 60 – 69 гадоў | 333 | 174 | 52,3 | 159 | 47,7 | 3,6 % |
| 9. | 70 – 79 гадоў | 130 | 66 | 50,8 | 64 | 49,2 | 1,4 % |
| 10. | 80 – 89 гадоў | 48 | 26 | 54,2 | 22 | 45,8 | 0,5 % |
| 11. | 90 – 99 гадоў | 8 | 3 | 37,5 | 5 | 62,5 | 0,09 % |
| 12. | 100 – 109 гадоў | 1 | – | – | 1 | 100 | 0,01 % |
| 13. | Узрост невядомы | 13 | 7 | 53,8 | 6 | 46,2 | 0,1 % |
| | | 9.323 | 5.312 | | 4.011 | | 100 % |

*Табліца складзена паводле: Первая всеобщая перепись населения Российской империи, 1897 г. – Т. IV. Виленская губерния / под. ред. Н.А. Тройницкого. – Тетрадь 1. – СПб, 1900. – С. 6 – 7.

Аналіз лічбавых дадзеных паказвае, што найбольшая колькасць насельніцтва была ў 2–4 узроставых групах. Ліду можна назваць дастаткова «маладым» горадам, паколькі жыхары ва ўзросце да 30 гадоў складалі 6742 чалавекі ці 72,3 % ад агульнай колькасці лідчан. Пры гэтым амаль ва ўсіх узроставых групах працэнт мужчын і жанчын быў прыкладна аднолькавы і нязначна вагаўся на карысць таго ці іншага полу. Заўважнае выключэнне складала 4-я група, у якой мужчыны па колькасці пераўзыходзілі жанчын у 3,2 разы. На гэты факт пры вывучэнні становішча насельніцтва Гародні паводле матэрыялаў Першага ўсеагульнага перапісу Расійскай імперыі звярнула ўвагу І.Соркіна і слушна патлумачыла такую неадпаведнасць наяўнасцю ў Гародні вайскоўцаў [6, С.115]. Пасля ўвядзення ў Расійскай імперыі ўсеагульнай воінскай павіннасці ў губернскіх і многіх павятовых гарадах на тэрыторі Беларусі былі размешчаны ваенныя гарнізоны, у тым ліку і ў Лідзе [7, с. 232].

Сярод насельніцтва ад 60 да 109 гадоў у Лідзе пераважалі мужчыны і складалі ў сярэднім 51,7 %, што сведчыла пра некаторую большасць працягласці іх жыцця. Але пры гэтым адзіным даўгажыхаром у Лідзе на час перапісу была жанчына, узрост якой быў паміж 100 і 109 гадамі.

Карыстаючыся дадзенымі гэтай табліцы, з некаторай доляй дапушчэнняў можна паспрабаваць вызначыць сярэднюю колькасць дзяцей у сям'і. Так, калі лічыць жанчынамі дзетароднага ўзросту тых, хто ўваходзіў у 4 і 5 групы (ад 20 да 40 гадоў), а такіх жанчын у Лідзе было 1160 чалавек, то падзяліўшы гэтую лічбу на колькасць дзяцей і маладых людзей да 19 гадоў, то вынікае, што ў сярэднім на адну жанчыну дзетароднага ўзросту прыходзілася 3,3 дзяцей.

Надрукаваныя матэрыялы перапісу дазваляюць сцвярджаць, што найбольшая колькасць дзяцей была ў лідскіх яўрэяк – у сярэднім 3,8 чал., у жанчын каталіцкага веравызнання – 2,5 дзяцей, а ў праваслаўных – 2,4. (Размеркаванне насельніцтва па веравызнанню і ўзроставым групам прыводзіцца ў дадатку 1 да дадзенага артыкула).

Немаўлятак – дзяцей да года, падчас перапісу было зафіксавана 255 чалавек. Гэта азначала, што з лютага 1896 г. па люты 1897 г. у Лідзе нарадзіла кожная чацвёртая жанчына дзетароднага ўзросту.

Па сваёй сацыяльнай прыналежнасці насельніцтва падчас перапісу ідэнтыфікавалася па 10 групам, у адпаведнасці з саслоўем, станам ці званнем (табліца 3).

Табліца 3

**Насельніцтва Ліды паводле месца нараджэння, саслоўя ці звання***

| Саслоўі | Мясцовыя ўраджэнцы | | Ураджэнцы іншых уездаў Віленскай губерні | | Ураджэнцы іншых губерняў | | Ураджэнцы іншых дзяржаў | | РАЗАМ | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | муж. | жан. | муж. | жан. | муж. | жан. | муж. | жан. | муж. | жан. |
| Дваране патомныя | 112 | 158 | 18 | 28 | 83 | 85 | – | 2 | 213 | 273 |
| Дваране асабовыя | 12 | 10 | 7 | 10 | 30 | 16 | – | – | 49 | 36 |
| Духавенства | – | 1 | 1 | 1 | 8 | 9 | – | – | 9 | 11 |
| Ганаровыя грамадзяне | 2 | 1 | – | 2 | 7 | 4 | – | – | 9 | 7 |
| Купцы | 29 | 40 | 3 | – | 8 | 8 | 1 | 1 | 41 | 49 |
| Мяшчане | 2.439 | 2.767 | 148 | 126 | 410 | 207 | – | 1 | 2.997 | 3.101 |
| Сяляне | 421 | 444 | 52 | 32 | 1.503 | 47 | 2 | 1 | 1.978 | 524 |
| Асобы, якія не належаць гэтым саслоўям | 1 | 1 | 2 | - | 5 | 2 | – | – | 8 | 3 |
| Асобы, якія не ўказалі саслоўя | – | – | 1 | 1 | – | – | – | – | 1 | 1 |
| Замежныя падданыя | – | – | 1 | – | 4 | 2 | 2 | 4 | 7 | 6 |
| РАЗАМ | 3.016 | 3.422 | 233 | 200 | 2.058 | 380 | 5 | 9 | 5.312 | 4.011 |
| | 6.438 | | 433 | | 2.438 | | 14 | | 9.323 | |
| % ад агульнай колькасці | 69,1 % | | 4,6 % | | 26,1 % | | 0,2 % | | 100 % | |

*Табліца складзена паводле: Первая всеобщая перепись населения Российской империи, 1897 г. – Т. IV. Виленская губерния / под. ред. Н.А.Тройницкого. – Тетрадь 2. – СПб, 1901. – С. 100-101.

| | **Патомныя дваране** | | **Асабовыя дваране** | |
|---|---|---|---|---|
| *Ураджэнцы Лідскага ўезда* | *270 чал.* | *55,6 %* | *22 чал.* | *25,9 %* |
| *Ураджэнцы іншых уездаў Віленскай губерні* | *46 чал.* | *9,5 %* | *17 чал.* | *20 %* |
| *Ураджэнцы іншых губерняў* | *168 чал.* | *34,5 %* | *46 чал.* | *54,1 %* |
| *Ураджэнцы іншых дзяржаў* | *2 чал.* | *0,4 %* | *–* | |
| ***Разам*** | **486 чал.** | **100 %** | **85 чал.** | **100 %** |

**Мяшчане** **Сяляне**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| *Ураджэнцы Лідскага ўезда* | *5.206 чал.* | *85,4 %* | *865 чал.* | *34,6 %* |
| *Ураджэнцы іншых уездаў Віленскай губерні* | *274 чал.* | *4,49 %* | *84 чал.* | *3,4 %* |
| *Ураджэнцы іншых губерняў* | *617 чал.* | *10,1 %* | *1.550 чал.* | *62 %* |
| *Ураджэнцы іншых дзяржаў* | *1 чал.* | *0,01 %* | *–* | |
| ***Разам*** | **6.098 чал.** | **100 %** | **2.499 чал.** | **100 %** |

Такім чынам, паводле матэрыялаў перапісу 1897 г. у Лідзе мясцовыя ураджэнцы дамінавалі сярод мяшчан – 85,4 %, а таксама сярод патомнага дваранства – 55,6 %. Сярод сялянства, наадварот, найбольшая ўдзельная вага – 62 % былі выхадцы з іншых губерняў. Пры гэтым звяртае на сябе ўвагу той факт, што ў гэтай групе мужчыны (1.503 чал.) амаль у 32 разы пераўзыходзілі па колькасці жанчын (47 чал.) і тлумачыцца, як было адзначана вышэй, наяўнасцю ў Лідзе ваеннага гарнізона.

Матэрыялі перапісу дазваляюць прааналізаваць склад насельніцтва Ліды ў 1897 г. па лінгвістычнай прыкмеце і прадставіць дадзеныя ў наступнай табліцы:

Табліца 3

**Размеркаванне насельніцтва г. Ліда па роднай мове**

Для аналізу ў дадзенай табліцы былі ўзяты толькі падданыя Расійскай імперыі, якія пражывалі ў Лідзе, без уліку замежных грамадзян. Так, згодна з дакументам, больш за палову жыхароў Ліды (56,4 %) лічылі сваёй роднай мовай яўрэйскую.

Такая з’ява, звязаная з існаваннем так званай “мяжы яўрэйскай аселасці” на землях Беларусі і забаронай яўрэям сяліцца ў сельскай мясцовасці, была натуральнай для беларускіх гарадоў у часы Расійскай імперыі і не патрабуе дадатковых тлумачэнняў.

Што тычыцца іншых моваў, то матэрыялы перапісу сведчаць, што 15,9 % лідчан назвалі роднай мовай рускую, 14,2 % – польскую, 9,2 % – беларускую. Сярод

| п/п | Родная мова | Колькасць насельніцтва, якое назвала яе роднай | Удзельная вага сярод іншых моваў |
|---|---|---|---|
| 1. | Яўрэйская | 5.253 | 56,4 % |
| 2. | Руская | 1.484 | 15,9 % |
| 3. | Польская | 1.323 | 14,2 % |
| 4. | Беларуская | 855 | 9,2 % |
| 5. | Літоўская | 125 | 1,3 % |
| 6. | Украінская | 120 | 1.3 % |
| 7. | Латышская | 59 | 0,6 % |
| 8. | Татарская | 43 | 0,5 % |
| 9. | Нямецкая | 27 | 0,3 % |
| 10. | Чувашская | 9 | 0,1 % |
| 11. | Чэшская | 4 | 0,04 % |
| 12. | Цыганская | 3 | 0,03 % |
| 13. | Малдаўская | 1 | 0,01 % |
| 14. | Французская | 1 | 0,01 % |
| 15. | Жмудская (эстонская) | 1 | 0,01 % |
| 16. | Турэцкая | 1 | 0,01 % |
| 17. | Фінская | 1 | 0,01 % |
| | РАЗАМ | 9.310 | 100 % |

прадстаўнікоў патомных дваран роднай назвалі беларускую мову 35 чал. (0,4 %), сярод мяшчан – 195 чал. (2,1 %), сялян – 622 чал. (6,7 %) [5, Т. 1, с. 168–169]. Аднак, даследчыкі сумняваюцца ў даставернасці такіх дадзеных па прычыне таго, што Першы ўсеагульны перапіс насельніцтва Расійскай імперыі праходзіў ва ўмовах палітыкі русіфікацыі, якая на беларускіх землях пасля паўстання 1863–1864 г. набыла татальны характар. Таму да ліку рускамоўнага насельніцтва маглі быць аднесены некаторыя праваслаўныя беларусы.

Больш за тое, ва ўездах, без уліку дадзеных гарадоў, сітуацыя была адваротнай. Ва ўсіх без выключэння ўездах Віленскай губерні абсалютная большасць насельніцтва назвала ў якасці роднай мовы беларускую. Так, напрыклад, у Віленскім ўездзе з 208.781 жыхароў па-беларуску гаварылі 87.382 чал., што складала 41,9 %; у Ашмянскім уездзе з 226.345 чал. – 186.752 чал. (82,5 %) [5, Т. 1, с. 56-59]. У Лідскім уездзе з 205.613 чал. роднай мовай назвалі беларускую 150.467 жыхароў ці 73,2 %, прычым сярод патомных дваран па-беларуску гаварылі 51,1 %, а сярод сялян – 87, 1 % [5, Т. 1, с. 56-59]. Такое становішча тлумачыцца некалькімі прычынамі:

па-першае, у сельскай мясцовасці не было такога дамінавання яўрэйскага насельніцтва, як ў горадзе;

па-другое, ваенныя гарнізоны, у якіх служылі пераважна расіяне з Цэнтральных губерняў Расійскай імперыі, размяшчаліся ў асноўным у гарадах;

па-трэцяе, палітыка русіфікацыі глыбей закранула гарады як цэнтры адміністрацыі і культуры.

Таму, хутчэй за ўсё лічба беларускамоўнага насельніцтва ў дакументах перапісу адносна гарадоў уцэлым і горада Ліда ў прыватнасці некалькі заніжана.

Матэрыялы перапісу дазваляюць таксама прааналізаваць моўныя асаблівасці розных саслоўных груп насельніцтва г. Ліда.

Табліца 4

**Размеркаванне насельніцтва г. Ліда па роднай мове і саслоўям**

| Мова | Саслоўі | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Патомныя дваране | | | | Асабістыя дваране | | | |
| | муж. | жан. | разам | % | муж. | жан. | разам | % |
| Яўрэйская | – | – | – | – | – | – | – | – |
| Руская | 85 | 90 | 175 | 36 | 37 | 28 | 65 | 72,2 |
| Польская | 115 | 159 | 274 | 56,4 | 10 | 7 | 17 | 18,9 |
| Беларуская | 12 | 23 | 35 | 7,2 | – | – | – | – |
| | Мяшчане | | | | Сяляне | | | |
| | муж. | жан. | разам | % | муж. | жан. | разам | % |
| Яўрэйская | 2.526 | 2.631 | 5.157 | 84,6 | 7 | 1 | 8 | 0,3 |
| Руская | 92 | 78 | 170 | 2,8 | 967 | 70 | 1037 | 41,4 |
| Польская | 274 | 281 | 555 | 9,1 | 284 | 192 | 476 | 19 |
| Беларуская | 92 | 103 | 195 | 3,2 | 367 | 255 | 622 | 24,9 |
| | Ганаровыя грамадзяне | | | | Купцы | | | |
| | муж. | жан. | разам | % | муж. | жан. | разам | % |
| Яўрэйская | – | – | – | – | 41 | 46 | 87 | 96,7 |
| Руская | 7 | 7 | 14 | 87,5 | – | 3 | 3 | 3,3 |
| Польская | – | – | – | – | – | – | – | – |
| Беларуская | 1 | – | 1 | 6,3 | – | – | – | – |

| | Духоўныя асобы хрысціянскіх канфесій | | | | Асобы, якія не належаць да пералічаных станаў | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | муж. | жан. | разам | % | муж. | жан. | разам | % |
| Яўрэйская | – | – | – | – | – | – | – | – |
| Руская | 9 | 11 | 20 | 100 | 3 | 1 | 4 | 66,5 |
| Польская | – | – | – | – | 1 | – | 1 | 16,7 |
| Беларуская | – | – | – | – | – | 1 | 1 | 16,7 |

*Табліца складзена паводле: Первая всеобщая перепись населения Российской империи, 1897 г. – Т. I. Виленская губерния / под. ред. Н.А. Тройницкого. – Тетрадь 2. – СПб, 1900. – С. 168-169.

У табліцы прадстаўнікі саслоўяў г. Ліды згрупіраваны паводле чатырох асноўных моваў, якія былі названы роднымі падчас перапісу: яўрэйская, руская, польская, беларуская, а таксама вызначана ўдзельная вага прадстаўнікоў розных моўных груп у тым ці іншым саслоўі.

Як сведчаць дадзеныя табліцы 4, роднай мовай назвалі яўрэйскую абсалютная большасць лідскіх мяшчан – 84,6 %, а таксама амаль усе прадстаўнікі купецкага саслоўя – 96,7 %.

Жыхары Ліды, для якіх, згодна з дадзенымі перапісу, роднай была руская мова, належалі да асабістых дваран – 72,2 %, да ганаровых грамадзян – 87,5 %, да сялян – 41,4 %. Перавага “рускіх” у гэтых групах з’яўляецца абсалютна натуральнай і тлумачыцца палітыкай расійскіх улад па стварэнню надзейнай апоры сярод дваранства і вайскоўцаў у рэгіёнах.

Пры гэтым выклікаюць сумненне дадзеныя матэрыялаў перапісу, згодна з якім у Лідзе абсалютнае панаванне рускамоўнага насельніцтва было сярод духоўных асоб хрысціянскіх канфесій – 100 %! Цяжка ўявіць, што пры наяўнасці ў горадзе касцёла духоўных асоб з роднай польскай мовай не існавала.

Насельніцтва, якое назвала роднай мовай польскую, пераважала ў Лідзе ў 1897 г. сярод патомных дваран – 56,4 %. Таксама “палякамі” былі асабістыя дваране – 18,9 %, мяшчане – 9,1 %, сяляне – 19 %.

Сярод лідчан, якія назвалі роднай мовай беларускую, былі прадстаўнікі патомнага дваранства – 7,2 %, ганаровых грамадзян – 6,3 %, мяшчан – 3,2 %, сялянства – 24,9 %. Паказальна, што ні ў адной з саслоўных груп беларускамоўнае насельніцтва не мела большасці.

Пры выкарыстанні статыстычнага матэрыяла пра веравызнанне і родную мову неабходна мець на ўвазе, што адказы па гэтым пытанням запісваліся выключна з адказаў апытваемых падчас перапісу асоб (рэспандэнтаў). Пры гэтым самыя ўкладальнікі матэрыялаў перапісу для друку прызнавалі, што пры аналізу дадзеных любога перапісу неабходна ўлічваць непазбежныя пагрэшнасці. Яны падкрэслівалі, што ў асобных выпадках “абруселыя інародцы”называлі сваёй роднай мовай рускую і не заўсёды на падставе іншых дадзеных перапіснога матэрыялу (прыналежнасць да саслоўя, веравызнання і інш.) з даставернасцю можна вызначыць іх прыналежнасць да таго ці іншага “племені” (нацыянальнасці). Таму менавіта такія выпадкі могуць быць прычынай некаторай неадпаведнасці паміж асобнымі дадзенымі ў табліцах [5, Т. ІІ, с. 58-59].

Увогуле асаблівасці саслоўнай структуры Ліды пацвярджаюць высновы даследчыкаў аб тым, што ў канцы ХІХ ст. на землях Беларусі не існавала прамой прапорцыі паміж нацыянальным складам усяго насельніцтва і прадстаўніцтвам народаў

у розных пластах грамадства. У гэты перыяд ні адзін этнас на тэрыторыі Беларусі не меў поўнай завершанай сацыяльна-класавай структуры, якая адпавядала буржуазнаму грамадству [6, с. 121].

Вызначэнне занятасці і прафесійнай структуры жыхароў Ліды, як і іншых гарадоў Беларусі, паводле матэрыялаў Першага ўсеагульнага перапісу Расійскай імперыі мае свае асаблівасці. На недасканаласць табліц па занятасці насельніцтва ў апублікаваных матэрыялах перапісу звярнулі ўвагу гарадзенскія гісторыкі А. Каляга і Л. Рудзікава. Яны заўважылі, што дадзеныя табліцы маюць шмат недахопаў: да самастойнага насельніцтва, якое мела свой заробак і сродкі да існавання, у матэрыялах перапісу аднесены толькі главы гаспадарак, хаця ўдзел сваякоў у вытворчасці мог быць не меншым; паказваецца прыналежнасць работніка да пэўнай галіны эканомікі без пазначэння яго канкрэтнага занятка і інш. [8, с. 89].

Гэтае пытанне ўжо станавілася прадметам даследавання беларускага гісторыка З. Шыбекі, які вывучаў яго ў кантэксце сацыяльна-эканамічнага развіцця гарадоў Беларусі ў другой палове XIX – пачатку XX ст. [9]. У сваёй манаграфіі З. Шыбека згрупіраваў насельніцтва беларускіх гарадоў, у тым ліку і Ліды, па родасным ці блізкім заняткам і вызначыў такім чынам наступную прафесійную структуру гарадоў:

Табліца 5

**Прафесійная структура насельніцтва Ліды ў 1897 г.**

| Групы заняткаў | Пазіцыі па крыніцы | % насельніцтва | % самастойнага насельніцтва |
|---|---|---|---|
| Прамысловасць | 22 – 37, 39 – 40 | 26,6 % | 21,4 % |
| Будаўніцтва | 38 | 3,9 % | 2,1 % |
| Транспарт, сувязь | 41 – 45 | 2,7 % | 1,5 % |
| Сельская і лясная гаспадарка | 17 – 21 | 4,6 % | 1,2 % |
| Гандаль | 47 – 61 | 16,4 % | 4,2 % |
| Кіраванне і войска | 1, 2, 4 | 21,6 % | 36,1 % |
| Вольныя прафесіі (прыватная юрыдычная, навучальна-выхаваўчая, урачэбная дзейнасць, навука, літаратура, мастацтва) | 3, 9 – 11 | 4 % | 2,4 % |
| Чэляднікі (прыватная служба, прыслуга, падзёншчыкі) | 8, 12, 13, 46 | 10 % | 11,8 % |
| Ранцье, дома- і землеўладальнікі | 14 | 5,6 % | 5,6 % |
| Іншыя (святары, пенсіянеры, асобы неакрэсленых заняткаў) | 5 – 7, 15, 16, 63 – 65 | 4,6 % | 5 % |

* Шыбека, З. Гарады Беларусі (60-я г. 19 – пачатак 20 ст.) /з. Шыбека. – Мн., 1997. – С. 224; Первая всеобщая перепись населения Российской империи, 1897 г. – Т. IV. Виленская губерния / под. ред. Н.А. Тройницкого. – Тетрадь 2. – СПб, 1901. – С. 108.

Першыя тры слупкі дадзенай табліцы ўзятыя з манаграфіі З. Шыбекі, апошні слупок ("% самастойнага насельніцтва") прапанаваны аўтарам дадзенага артыкула. Супастаўленне гэтых дадзеных дазваляе зрабіць шэраг цікавых высноў. Так, згодна з даследаваннем З. Шыбекі, Ліда, як і іншы гарады Беларусі, была шматфункцыянальным цэнтрам, паколькі ні адна галіна гаспадаркі не забяспечвала пражывання больш паловы жыхароў горада. Пры гэтым з дадзенай табліцы вынікае, што большая частка

насельніцтва займалася прамысловасцю – 26,6 %. Але гэта не зусім так, больш правільна было б сказаць, што гэты працэнт насельніцтва (як і ўсе астатнія) жыў за кошт рамяства, паколькі ў ім аб'яднаныя і самастойныя гаспадары і члены іх сямей.

Некалькі іншую карціну паказвае прыналежнасць да прафесіі самастойных гаспадароў. Такіх у Лідзе было 4.672 чал., з іх: мужчын – 3.674, жанчын – 998. Пры параўнанні дадзеных па агульнай занятасці насельніцтва і занятасці самастойных гаспадароў заўважны наступныя змены:

– амаль на 10 % павялічылася доля вайскоўцаў і відавочнай становіцца "мілітарызацыя" Ліды, пра якую ўжо гаварылася вышэй;

– на 12,2 % знізілася колькасць насельніцтва, якое займалася гандлем і на 5,2 % тых, асноўным заняткам каго была прамысловасць.

Матэрыялы перапісу дазваляюць вызначыць увесь спектр заняткаў лідчан. У групу прафесій, якую З. Шыбека вызначыў як "прамысловасць", уваходзілі: апрацоўка валакністых рэчаў, апрацоўка дрэва, апрацоўка металаў, вытворчасць адзення, хімічная вытворчасць, вінакурэнне, піва- і мёдаварэнне, ювелірная справа, і інш. Найбольш папулярнымі заняткамі сярод самастойных гаспадароў у галіне прамысловасці ў Лідзе былі наступныя: вытворчасць адзення – 46,4 %, апрацоўка дрэва – 13,1 %, апрацоўка прадуктаў харчавання – 8,7 %, апрацоўка металаў – 7,7 %, тытунь і вытворчасць з яго – 7,4 % і інш.

Сярод накірункаў гандлю галоўным быў гандаль сельскагаспадарчымі прадуктамі і жывёлай – 36,6 %, аказанне паслуг (тракціры, гатэлі, клубы) – 9,8 %, гандаль тканінамі і прадметамі адзення – 8,6 %, прадметамі раскошы, навукі, мастацтва – 7,9 % гандаль наогул, без усялякага акрэслення – 13,7 %. Невялікі быў працэнт гандляроў металічнымі вырабамі, машынамі і зброяй – 2,4 %.

На час перапісу ў горадзе знаходзіліся пазбаўленыя волі – 41 чалавек, з іх 38 мужчын і 3 жанчыны, а таксама 8 жанчын вызначылі свой занятак як прастытуцыю.

Матэрыялы перапісу дазваляюць таксама прааналізаваць прыналежнасць самастойных гаспадароў да той ці іншай этнічнай групы ці хутчэй за ўсё моўнай групы. Для аналізу былі ўзяты самастойныя гаспадары з ліку мужчын і жанчын, якія ў крыніцы названы яўрэямі, рускімі, палякамі, беларусамі. Дадзеныя прадстаўлены ў табліцы 6.

Табліца 6

**Размеркаванне самастойнага насельніцтва Ліды па роднай мове і полавай прыкмеце***

| "Яўрэі" | | | | "Рускія" | | | | "Палякі" | | | | "Беларусы" | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| муж. | % | жан. | % | муж. | % | жан. | % | муж. | % | жан. | % | муж. | % | жан. | % |
| 1.370 | 37,3 | 605 | 60,6 | 1.103 | 30 | 58 | 5,8 | 471 | 12,8 | 222 | 22,2 | 355 | 9,7 | 102 | 10,2 |
| 1975 чалавек самаст. гаспад. | | | | 1161 чалавек самаст. гаспад. | | | | 693 чалавекі самаст. гаспад. | | | | 457 чалавек самаст. гаспад. | | | |
| 42,3 % | | | | 24,6 % | | | | 14,8 % | | | | 9,8 % | | | |

*Табліца складзена паводле: Первая всеобщая перепись населения Российской империи, 1897 г. – Т. IV. Виленская губерния / под. ред. Н.А. Тройницкого. – Тетрадь 2. – СПб, 1901. – С. 140–141.

Дадзеныя, прыведзеныя ў гэтай табліцы, сведчаць, што сярод самастойных гаспадароў найбольшы працэнт складалі яўрэі – 42,3 %, пры гэтым гаспадароў-мужчын было 37,3 % ад агульнай колькасці свабодных мужчын-гаспадароў Ліды, а жанчын – 60,6 %! Паводле заўвагі І. Соркінай, з-за таго, што мужчыны-яўрэі часта знаходзіліся ў

ад'ездах з-за імкнення да ведаў і неабходнасці звароту да вядомых рэлігійных аўтарытэтаў з іншых мясцінаў альбо з-за пошуку заробкаў, жанчынам прыходзілася займацца не толькі хатняй гаспадаркай і выхоўваць дзяцей, але і зарабляць на жыццё. Такім чынам, яўрэйкі часта ўзначальвалі гандлёвыя і прамысловыя прадпрыемствы [6].

Найбольш папулярнымі заняткамі сярод яўрэяў былі:

– выраб адзення – 19,3 %;
– дзейнасць і прыватная служба – 11,4 %;
– даход з капіталу, нерухомай маёмасці, сродкаў бацькоў і сваякоў – 6,5 %;
– служба ва ўзброеных сілах – 6,5 % [5, т. 2, с. 140-141].

Другую пазіцыю сярод самастойных гаспадароў займалі рускія. Галоўным заняткам мужчын была служба ў войску: з 1.103 самастойных гаспадароў 922 мелі дачыненне да ўзброеных сіл, што складала 83,6 %! 48 чалавек ці 4,4 % працавалі ў адміністрацыі, судзе і паліцыі Ліды.

Абсалютная большасць рускіх жанчын, якія былі аднесены ў матэрыялах перапісу да ліку самастойных гаспадароў, жылі за кошт прыватнай службы і даходу з капіталу, нерухомасці, сродкаў бацькоў і сваякоў – 72,4 %.

Што тычыцца беларускага насельніцтва, то сярод асноўных заняткаў самастойных гаспадароў-мужчын безумоўна пераважала служба ва ўзброеных сілах – 36,9 %; за кошт прыватнай службы (прыслуга, падзёншчыкі) жылі 14,9 % самастойных мужчын (у той жа час сярод жанчын гэты занятак быў асноўнай крыніцай існавання для 58,9 %); земляробствам займаліся 7,6 %; вырабам адзення – 6,5 %. Беларусы-мужчыны складалі самы высокі працэнт сярод пазбаўленых волі – 46,3 %.

Матэрыялы перапісу 1897 г. дазваляюць прааналізаваць і ступень пісьменнасці насельніцтва гарадоў і мястэчак. Істотным недахопам такіх звестак з'яўляецца той факт, што асноўным крытэрыям паказчыка пісьменнасці ў методыцы перапісу лічылася ўменне чытаць па-руску, а пісьменнасць у іншых мовах фіксавалася толькі пры адсутнасці гэтага ўмення. Так, з 5.305 мясцовых мужчын г. Ліды пісьменных было 3.227, што складала 60,8 %, а з 4.005 жанчын – пісьменных 1.680 або 42 %. Наогул працэнт пісьменных у Лідзе ў 1897 г. складаў 52,7 %, што толькі на 0,1 % было ніжэй, чым у Вільні. Аднак, калі выключыць з агульнага складу дзяцей да 6 гадоў, то працэнт пісьменных значна павялічваецца (табліца 7).

Табліца 7

**Размеркаванне насельніцтва Ліды па ўзроставым групам і пісьменнасці**

| Узроставыя групы | Мужчыны | | | Жанчыны | | | Разам | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | усяго | пісьмен. | % пісьм. | усяго | пісьмен. | % пісьм. | усяго | пісьмен. | % пісьм. |
| 6–9 гадоў | 362 | 158 | 43,6 % | 407 | 116 | 28,5 % | 769 | 274 | 35,6 % |
| 10–19 гадоў | 819 | 668 | 81,6 % | 978 | 613 | 62, 7 % | 1.797 | 1.281 | 71,3 % |
| 20–29 гадоў | 2.215 | 1.449 | 65 % | 690 | 393 | 57 % | 2.905 | 1.842 | 63,4 % |
| 30–39 гадоў | 428 | 357 | 83,4 % | 470 | 258 | 54,9 % | 898 | 615 | 68,5 % |
| 40–49 гадоў | 319 | 254 | 79,6 % | 344 | 158 | 46 % | 663 | 412 | 62,1 % |
| 50–59 гадоў | 239 | 179 | 74,9 % | 248 | 84 | 33,9 % | 487 | 263 | 54 % |
| 60–69 гадоў | 174 | 108 | 62,1 % | 159 | 45 | 28,3 % | 333 | 153 | 46 % |
| 70–79 гадоў | 66 | 34 | 51,5 % | 64 | 14 | 21,9 % | 130 | 48 | 37 % |
| 80–89 гадоў | 26 | 12 | 46,2 % | 22 | 3 | 13,6 % | 48 | 15 | 31,3 % |
| 90–99 гадоў | 3 | 1 | 33,3 % | 5 | – | – | 8 | 1 | 12,5 % |
| 100–109 | – | – | – | 1 | – | – | 1 | – | – |

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| гадоў | | | | | | | | | |
| Разам | 4.651 | 3.220 | 69,2 % | 3.388 | 1.684 | 49, % | 8.039 | 4.904 | 61 % |

*Табліца складзена паводле: Первая всеобщая перепись населения Российской империи, 1897 г. – Т. I. Виленская губерния / под. ред. Н.А. Тройницкого. – Тетрадь 1. – СПб, 1900. – С. 40–41.

Дадзеныя табліцы выразна сведчаць, што працэнт пісьменнасці быў больш высокім сярод мужчын – 69,2 % супраць 49 %. У разрэзе ўзроставых груп найбольш пісьменных было сярод дзяцей і маладых людзей ва ўзросце ад 10 да 19 гадоў – 71,3 %, пры гэтым высокім быў узровень пісьменнасці і ў групах ад 20 да 49 гадоў.

Матэрыялы перапісу дазваляюць вызначыць ступень пісьменнасці сярод насельніцтва розных канфесій і саслоўяў. Так, найбольш адукаванымі гараджанамі былі пратэстанты (86,7 %). Аднак меркаваць пра аб'ектыўнасць гэтых дадзеных трэба з некаторай доляй умоўнасці і супастаўлення з дадзенымі ў іншых гарадах і мястэчках, паколькі пратэстантаў у Лідзе было ўсяго 15 чалавек.

На другім месці па ўзроўню адукаванасці былі стараабраднікі – 58 %; далей праваслаўныя – 57,4 %, каталікі – 51,5 %; іўдзеі – 51,2 %., мусульмане – 42 %. Дадзеныя, якія адлюстроўваюць размеркаванне насельніцтва г. Ліды па пісьменнасці, мове і веравызнанню, прадстаўлены ў дадатку 2.

Што тычыцца ўзроўня адукаванасці сярод розных сацыяльных груп насельніцтва Ліды, то яно прадстаўлена ў табліцы 8.

Табліца 8

**Размеркаванне насельніцтва Ліды па пісьменнасці, адукацыі і саслоўным групам***

| Саслоўе | Непісьмен. | | Пісьменныя | | У тым ліку тыя, хто навучаўся: ва універсіт. | | у спец. ці тэхніч. ВНУ | | у сярэд. спец. навуч. уст. | | у сярэд. навуч. уст. | | у выш. ваен. устан. | у сярэд. ваен. устан. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | муж. | жан. | муж. | жан. | муж. | жан. | муж. | жан. | муж. | жан. | муж. | жан. | муж. | муж. |
| Дваране патомныя і асабовыя, чыноўнікі не з дваран | 46 | 86 | 220 | 224 | 7 | 2 | 1 | – | 4 | – | 36 | 36 | 6 | 32 |
| Духоўныя асобы (хрысц.) | – | – | 9 | 11 | – | – | – | – | – | – | 6 | 1 | – | – |
| Ганаров. грамадз., купцы, мяшчане | 1144 | 1853 | 1903 | 1304 | – | – | – | – | 9 | – | 6 | 40 | – | – |
| Сяляне | 887 | 384 | 1091 | 140 | – | – | – | – | 5 | – | 3 | 1 | – | – |
| Разам | 4.400 | | 4902 | | 9 | | 1 | | 18 | | 93 | | 6 | 2 |

*Табліца складзена паводле: Первая всеобщая перепись населения Российской империи, 1897 г. – Т. I. Виленская губерния / под. ред. Н.А. Тройницкого. – Тетрадь 2. – СПб, 1901. – С. 40–42.

Натуральна, што самы высокі працэнт адукаванага насельніцтва быў у асяроддзі духавенства – 100 %!

Адукаваных дваран і чыноўнікаў у 1897 г. у Лідзе было 77,1 %. Пры гэтым дадзеныя перапісу сведчаць, што адукацыю ў рознага тыпу навучальных установах атрымлівалі 39,1 % мужчын і 17 % жанчын з гэтых саслоўяў. Большасць, як правіла, атрымлівалі хатнюю адукацыю. З усяго пісьменнага насельніцтва Ліды скончылі універсітэты толькі 9 асоб, што складала ўсяго 0,2 %.

Сярод ганаровых грамадзян, купцоў і мяшчан доля пісьменнага насельніцтва складала 51,7 %, з іх толькі 2,5 % атрымалі адукацыю ў навучальных установах. Цікавым падаецца той факт, што жанчын, якія навучаліся спецыяльных установах, было 3,1 %, а мужчын – 0,8%.

Працэнт пісьменнасці сярод сялянскага насельніцтва складаў 36,2 %.

Падсумоўваючы вышэйсказанае, неабходна адзначыць, што, нягледзячы на наяўнасць недакладнасцей і недахопаў, матэрыялы Першага ўсеагульнага перапісу Расійскай імперыі 1897 г. з'яўляюцца каштоўнай крыніцай для вывучэння розных аспектаў гісторыі беларускіх гарадоў у канцы XIX ст. Даследчыкі маюць мажлівасць вар'іраваць і супастаўляць статыстычныя дадзеныя апублікаванай крыніцы як паміж сабой, так і з матэрыяламі іншых крыніц, і вывучаць пытанні сацыяльна-эканамічнага, этнаканфесійнага, адукацыйнага, лінгвістычнага, дэмаграфічнага і інш. становішча беларускіх гарадоў і мястэчак.

Пры гэтым, неабходна памятаць, што за сухімі лічбамі статыстыкі стаяць жывыя людзі з іх праблемамі і перажываннямі. Аналіз матэрыялаў перапісу дае мажлівасць канстатаваць тую сітуацыю ў розных сферах жыцця горада, якая склалася на момант правядзення мерапрыемства. Аднак, для таго, каб патлумачыць, даказаць ці абвергнуць канкрэтныя палажэнні, неабходна абавязковае супастаўленне дадзеных перапісу з іншымі крыніцамі.

Літаратура:


1. Ходзін, С.М. Крыніцы гісторыі Беларусі (гісторыка-генэтычнае і кампаратыўнае вывучэнне) /С.М. Ходзін. Вучэб. дапам. – Мінск, 1999.
2. Volumina legum. – T. II. – Petersburg, 1859.
3. Казлоўскі П. Падымнае //Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. – Т. 5. – Мн.: БелЭн, 1999. 592 с.
4. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (НГАБ) у Гродне, ф. 1663 (Фонд Слізняў), воп. 1, спр. 4707, арк. 1-4.
5. Первая всеобщая перепись населения Российской империи, 1897 г. – Т. IV. Виленская губерния /под. ред. Н.А. Тройницкого. – Тетрадь 1. – СПб, 1900; Тетрадь 2. – СПб, 1901; Тетрадь 3. – СПб, 1904.
6. Соркіна, І. Насельніцтва гародні паводле апублікаваных матэрыялаў першага ўсеагульнага перапісу насельніцтва Расейскай імперыі 1897 г. /І. Соркіна. //Гарадзенскі палімпсест. XII – XX ст.: Матэрыялы Міжнароднай навук. канфер. 7 лістапада 2008 г. – Гародна – беласток, 2008. – С. 112–135.
7. Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. IV: Беларусь у складзе Расійскай імперыі (канец XVIII – пачатак XX ст.) /М. Біч, В. Яноўская, С. Рудовіч, і інш. – Мн.: Экаперспектыва, 2005.
8. Коляго, О.В., Рудикова, Л.В. Занятость населения Гродно по данным Первой всеобщей переписи населения Российской империи 1897 г. /О.В. Коляго, Л.В. Рудикова //Гарады Беларусі ў кантэксце палітыкі, эканомікі, культуры: зб. навук. арт. – Гродна: ГрДУ, 2007. – С. 88 – 95.
9. Шыбека, З. Гарады Беларусі (60-я г. 19 – пачатак 20 ст.) /з. Шыбека. – Мн., 1997.

*А.Р. Радзюк*
*г. Гродна, ГДАУ*

# ЛІДЧЫНА Ў НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВАЛЕНЧЫМ РУХУ ПЕРШАЙ ПАЛОВЫ XIX СТ.

Першая палова XIX ст. у гісторыі Беларусі характарызуецца ўздымам нацыянальна-вызваленчай барацьбы. Асноўнымі яе праявамі ў гэты час з'яўляліся дзейнасць разнастайных тайных таварыстваў і арганізацый, паўстанне 1831 г. і дзейнасць эмісараў, якія пранікалі на землі Беларусі з-за мяжы. У аснове нацыянальна-вызваленчага руху ў гэты час ляжаў такзваны Рэчпаспалітаўскі патрыятызм асноўнай мэтай якога было аднаўленне колішняй дзяржавы дзвюх народаў. Пры гэтым неабходна адзначыць, што Рэч Паспалітая палітычай элітай беларуска-літоўскіх зямель успрымалася не як унітарная, выключна польская, а як федэратыўная дзяржава дзвюх народаў. Рэчпаспалітаўскі патрыятызм трымаўся на перакананні, што без дапамогі Польшчы, Літва (пад якой таксама разумелася і Беларусь) не здолее вызваліцца з-пад расійскага панавання. Усе гэтыя рысы былі ў поўнай меры характэрны для тэрыторыі Лідчыны, якая ў першай палове XIX ст. у сваіх адміністрацыйных межах аднайменнага ўезда даволі значна адрознівалася ад тэрыторыі сучаснага раёна.

Як адзначалася вышэй, адной з найбольш адметных рыс нацыянальна-вызваленчага руха ў азначаны час была дзейнасць тайных таварыстваў. Толькі на працягу 15 гадоў з 1815—1830 г. на тэрыторыі Каралеўства Польскага і заходніх губерняў Расійскай імперыі існавала больш за 70 тайных згуртаванняў [1, s. 17]. Увогуле, “змоўніцкая” плынь была характэрнай рысай нацыянальна-вызваленчага руху таго часу многіх краін. Тут варта прыгадаць выступленне дзекабрыстаў у Расіі ці прыклады іншых заходнееўрапейскіх дзяржаў, дзе атрымаў распаўсюджванне рух карбанарыяў. Што тычыцца Лідчыны, то трэба адзначыць, што на яе тэрыторыі не існавала падобных арганізацый кансператыўнага характару ці іх філіялаў, але ўраджэнцы дадзенага рэгіёна прымалі даволі актыўны ўдзел у іх дзейнасці ў межах іншых уездаў і губерняў.

У першую чаргу тут можна адзначыць тую ролю, якую адыгралі ўраджэнцы Лідчыны ў дзейнасці тайных таварыстваў, што існавалі ў Віленскім універсітэце. Значны след у дзейнасці студэнцкіх таварыстваў пакінуў ураджэнец Шчучына (які ў той час быў часкай Лідскага ўезда) Петрашкевіч Ануфры — адзін з заснавальнікаў таварыства філаматаў. Ён апекаваўся яго касай, бібліятэкай, арганізоўваў таварысцкае жыццё. Таксама А. Петрашкевіч пакінуў значны след ў дзейнасці арганізацыі прамяністых, якая ў значнай ступені залежыла ад філаматаў. Пасля пачатку следства супраць тайных студэнскіх арганізацый, што існавалі ў сценах Віленскага універсітэта, яму удалося пазбегнуць арышту. Двойчы ён станавіўся перад следчай камісіяй у лютым і красавіку 1824 г., але яго сапраўдная роля ў структуры таварыстваў так і не была выяўлена. Менавіта дзякуючы А. Петрашкевічу ацалеў архіў філаматаў, які быў схаваны ім у вёсцы і давераны нагляду брата Міхала. Такім чынам, як мы бачым, Лідчына мела дачыненне не толькі да дзейнасці тайных студэнскіх таварыстваў

Віленскага універсітэта, але і да захавання іх навукова-літаратурнай спадчыны. У далейшым А. Петрашкевічу не ўдалося пазбегнуць высылкі ў глыб Расіі. І на выгнанні, у Табольску, як адзначалі многія яго землякі, ён быў адной з набольш дзейсных асоб арганізацыі жыцця палітычных сыльных з 1831 да 1856 г [2, s. 457].

Найбольш значнай падзеяй у нацыянальна-вызваленчым руху першай паловы XIX ст. несумнена з'яўляецца паўстанне 1830-1831 г. Галоўнай асаблівасцю гэтай падзеі на тэрыторыі Лідчыны было тое, што яно развівалася не на аснове ўласных рэсурсаў, як гэта было ў большасці рэгіёнаў Віленшчыны, Гродзеншчыны і Міншчыны, дзе паўстанскі рух разгортваўся пераважна ў межах асобных уездаў з апорай на мясцовы жыхараў, але на базе элемента прыўнесенага з-за мяжы. Падобным элементам быў корпус генерала Д. Хлапоўскага, які прайшоў праз Лідчыну ў маі 1831 г. Але аб усім па-папарадку.

Паўстанне на землях Беларусі распачалося ў сакавіку 1831г. з тэрыторыі тагачаснай Віленскай губ. У 20-х чыслах гэтага месяца нацыянальна-вызваленчая барацьба пачалася ў Ашмянскім уездзе. Менавіта з гэтага рэгіёна паўстанцы імкнуліся распаўсюдзіць полымя нацыянальна-вызваленчай барацьбы і на Лідчыну. Так на пачатку красавіка маёрам Ожыгавым у м. Мерач, што ў Віленскай губ., быў затрыманы атрад паўстанцаў з 13 чалавек, які прабіраўся ў Лідскі павет. Па зацвярджэнню ваенна-палявога суда, шляхціц К. Багдановіч, які стаяў на чале гэтай выправы, быў расстраляны [3] ў Гродна 9 красавіка а чацвёртай гадзіне раніцы. Таксама з тэрыторыі Віленскай губ. 28 сакавіка атрадам ашмянскіх інсургентаў колькасцю 40 чалавек на чале з шляхціцам Шэльцінгам быў здзейсены напад на мястэчка Воранава Лідскага ўезда [3]. З паштовай станцыі былі зняты ўсе коні і тым самым адрэзана апошняя нітка, якая звязвала Гродна з Вільняй (да гэтага часу паўстанцамі была абарвана сувязь з Санкт-Пецярбургам і Мінскам). Справа дайшла да таго, што гродзенскі губернатар быў вымушаны дасылаць свае данясенні "на авось" з людзьмі, якія прабіраліся палявымі шляхамі, абмінаючы населеныя пункты. Пасля захопу Воранава ўзнікла паніка ў самой Лідзе. Лідскі земскі спраўнік, не чакаючы на далейшае разгортаванне падзей, тайна ў лесе зарыў усю канфіскаваную ва ўездзе зброю, каб тая, барані божа, не трапіла ў рукі паўстанцаў [3]. 31 сакавіка для абароны Ліды ў спешным парадку з Гродна былі скіраваны дадатковыя часткі. Аднак абстаноўка на Лідчыне заставалася досыць нярвовай. 7 красавіка камандзір віленскага пяхотнага палка даносіў, што ў гэтым уездзе распачаліся новыя "бунты", якія ўзняў там памешчык Камінскі [3]. Але ў цэлым уладам удалося апанаваць сітуацыю і падавіць выступленне ў самім яго зародку. Аднак ужо ў сярэдзіне мая Ліда на некаторы час апынулася ў руках інсургентаў. Адбылося гэта, як адзначалася вышэй, дзякуючы дзейнасці атрада польскіх рэгулярных сіл пад камандаваннем Д. Хлапоўскага.

У красавіку 1831 г. польскі Нацыянальны ўрад неаднойчы спрабаваў накіраваць у ахопленая полымем узброенай барацьбы Літву і Беларусь армейскія часткі. Прарвацца ўдалося толькі невялікаму корпусу (820 чалавек) пад камандаваннем ген. Д. Хлапоўскага. Свой баявы шлях па тэрыторыі Гродзенскай губ. ён распачаў з Белавежскай пушчы, дзе да яго далучыліся значныя сілы партызан. У далейшым праз Свіслач, Мсцібава, Рось і Ражанку яго маршрут ляжаў на ўсход. Даведаўшыся, што Ліду ахоўвае параўнальна невялікі гарнізон, Дэзідэры Хлапоўскі 18 мая падыходзіць да горада. Атакаваць Ліду ў лоб ён не рашыўся, а пайшоў на хітрасць: уначы некалькі рот абышлі горад збоку і зранку пачалі інтэнсіўную страляніну з боку Вільні.

Дэзарыентаўны камандзір гарадскога гарнізона з дзвюма ротамі і дзвюма гарматамі адступіў у поле. Але тут ён быў нагнаны паўстанцкім корпусам і пасля непрацяглага бою склаў зброю непадалёк ад лесу, які даў магчымасць часткы рускіх выратавацца [3]. Частка ж палонных, якія паходзілі з заходніх губерняў імперыі была ўключана ў паўстанскія шэрагі. Ліда сардэчна вітала інсургентаў: манахі-піяры наладзілі святочную вячэру, з усяго наваколля дастаўляліся харчовыя прыпасы, моладзь розных сацыяльных груп далучалася да корпуса. Пасля адыхода Хлапоўскага паўстанне на Лідчыне фактычна прыходзіць у заняпад. Хаця асобныя атрады “недабіткаў” працягвалі дзейнічаць у тым ліку і ў Лідскім уездзе. 7 жніўня, непадалек ад Жалудка, прайшло каля 60 узброеных інсургентаў, а 10 жніўня каля 20 партызан прайшлі ў накірунку Слонімскіх лясоў, дзе, пэўна, за р. Шчарай знаходзілася месца іх дыслакацыі. 24 жніўня ў гэтым жа ўездзе у весцы Агародніках “невядомымі мяцежнікамі” былі захоплены 2 радавыя царскіх войск. Але разам з тым неабходна адзначыць, што ў адрозненні ад папярэдняга этапу дзеянні партызан ужо не мелі такой выразнай нацыянальна-вызваленчай афарбоўкі, а дзе-нідзе нават набывалі сацыяльны характар.

Жорсткае задушэнне паўстання і наступныя рэпрэсіі з боку царскіх улад, якія тычылісая як асобных яго ўдзельнікаў так і цэлых сацыяльных груп не здолелі паўстрымаць развіццё нацыянальна-вызваленчай барацьбы пасля 1831 г. Ужо праз 2 гады на тэрыторыю Літвы, Беларусі і Украіны і Польшчы накіроўваецца такзваная экспедыцыя Ю. Заліўскага з мэтай падрыхтоўкі новага ўзброенага выступлення супраць царызма. Значную ролю ў арганізацыі экспедыцыі адыгралі эміграцыйныя колы, якія аб’ядноўвалі былых удзельнікаў паўстання за мяжой. Тут, пад уплывам руха карбанарыяў, была створана арганізацыя “Помста народа”, якая і займалася падрыхтоўкай новага паўстання. Дзеля гэтай мэты на пачатку 1833 г. на тэрыторыю Беларусі, Літвы і Украіны былі накіраваны эмісары, якія павінны былі падрыхтаваць новае ўзброенае выступленне. У адпаведнасці з распрацаваным у эміранцкіх колах планам у Гродзенскі і Лідскі ўезды быў накіраваны ўраджэнец г. Гродна Марцэлі Шыманскі, актыўны ўдзельнік паўстання 1831 г. Як паказваюць матэрыялы следства яму ўдалося навязаць кантакты са многімі жыхарамі Лідскага ўезда. Але ў адрозненні ад Слонімшчыны, дзе ў якасці эмісара дзейнічаў М. Валовіч, які імкнуўся ў сваёй дзейнасці абапірацца на сялян, М. Шыманскі кантактаваў з асобамі выключна прывеліяваных саслоўеў [4]. Звяртае на сабе ўвагу вялікая колькасць каталіцкага духавенства, якое было ўцягнута гэтым эмісарам у канспіратыўную дзейнасць. Аднак, у адрозненні ад таго самага М. Валовіча, Шыманскі не паспеў распачаць практычнай дзейнасці па рэалізацыі распрацаванага ў Парыжы плана. 25 мая 1833 г. ён быў схоплены ўладамі. На следстве ён выдаў усіх асоб, з якімі ён сустракаўся на працягу некалькіх месяцаў. Як вынік — некалькі дзесяткаў асоб “за кантакты з эмісарам Шыманскім” з Лідчыны былі высланы ў цэнтальныя губерні Расіі ці на Каўказ у дзеючую армію. Гэта быў першы прыклад масавай палітычнай сылкі ў гісторыі Беларусі. Лёс некаторых сыльных (як напрыклад А. Каролька) падзялілі іх сем’і, якія дабраахвотна адправіліся на ўсход разам са сваімі мужамі і бацькамі. Таксама звяртае на сабе ўвагу факт параўнаўча лагодных прысудаў каталіцкаму духавенству, якое, у пераважнай сваёй большасці, за тыя ж самыя “злачынствы” пазбегла высылкі і было пераведзена ў іншыя кляштары усходняй Беларусі. Удалося пазбегнуць пакарання і М. Шыманскаму, які за сваё супрацоўніцтва з уладамі быў перавезены ў Пецярбург, адкуль

у к. 1833 г. высланы ў Парыж у якасці шпега. Прыбыўшчы туды, ён адразу публічна сазнаўся ва ўсім эміграцыі. Затым яго сляды губляюцца.

Прыклад экспедыцыі Заліўскага не быў адзінкавым. У 30-40-я гады XIX ст. на Беларусі ў якасці эмісараў дзейнічаў Ш. Канарскі, Рор і інш. Што тычыцца дзейнасці Ш. Канарскага то ім на тэрыторыі Беларусі, Літвы і Украіны была створана арганізацыя ”Садружнасць польскага народа”, якая мела ўсе рысы кансператыўнага таварыства. На тэрыторыі Гродзенскай губерні вылучаюцца два асноўныя цэнтры кансператыўнай арганізацыі — навагрудскі і кобрынскі. На Лідчыне слядоў таварыства Канарскага выявіць не ўдалося. Затое некаторыя жыхары Лідскага ўезда былі арыштаваны за кантакты з эмісарам Рэрам. Так, напрыклад шляхціц Лідскага у. Балтазар Калясінскі за кантакты з Рэрам і інш. эмісарамі, распаўсюджванне нелегальнай літаратуры, а таксама за выказванне згоды прыняць удзел у паўстанні, якое планавалася на 1846 г. быў арыштаваны і аддадзены у Арэнбургскія лінейныя батал’ёны [2, s.279]. Таксама некаторыя выхадцы з Лідчыны былі членамі “дэмакратычнага таварыства” Ф. Савіча. Так, пад псеўданімам “Альфонс” у ім праходзіў сын праваслаўнага святара — Яўстафі Вароніч, які пасля заканчэння лідскай гімназіі працягваў навучанне ў Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі і некаторыя інш. І на прыканцы нельга абысці ўвагай імя Л. Нарбута — славутага сына лідскай зямлі, які 1850 г. выступіў ініцыятарам стварэння ў Віленскай гімназіі тайнага “Саюза Арла і Крыжа”.

Такім чынам, падводзячы вынікі, можна адзначыць, што ў першай палове XIX ст. выразна выяўляецца тэндэнцыя да дэмакратызацыі нацыянальна-вызваленчага руху. Але разам з тым у ім захоўваліся традыцыі шляхецкага ўяўлення аб выключнай ролі гэтага саслоўя ў справе вызвалення Айчыны, якія мелі асабліва моцныя пазіцыі на тэрыторыі Лідчыны. Два падобныя падыходы былі пазней увасоблены ў дзейнасці “белых” і “чырвоных” падчас паўстання 1863 — 1864 гг.

Літаратура:

1. Dylangowa, H. Powstanie w planach polskich związkow tajnych 1815—1830 / Dylangowa H. // Powstanie listopadowe 1830—1831. W—wa.: PAN, 1983. — S. 13—21.
2. Śliwowska, W. Zeslańcy polscy w Imperium Rosyjskim w pierwszej połowe XIX w. / W. Śliwowska. W-wa.: DiG, 1998. — 835 s.
3. НГАБ у Гродна. Ф.4, воп. 1.
4. НГАБ у Гродна. Ф.1, воп.27.

***Ю.И. Курстак***
***г. Гродно, ГрГУ им. Я.Купалы***

# ПРОБЛЕМЫ ИСТОРИИ БЕЛАРУСИ В НАУЧНОМ ТВОРЧЕСТВЕ А.С.БУДИЛОВИЧА (1846 – 1908 ГГ.)

За последние два десятилетия историческая наука Беларуси достигла значительных успехов в деле возвращения старых, незаслуженно забытых имен историков, уроженцев белорусских земель. К их числу принадлежит и родившийся в Гродненской губернии крупный ученый-славист А.С. Будилович (1846 – 1908 гг.). Круг его научных увлечений был очень широк. В его работах частично нашли свое отражение и отдельные сюжеты истории земель, входящих ныне в состав белорусского государства.

Интерес Антона Семеновича к проблемам истории Беларуси носил в значительной мере краеведческий и эпизодический характер. Он не оставил после себя не то что обобщающих трудов по белорусской истории, но не пытался даже составить краткого очерка о ней. Белорусская проблематика в научном смысле представляла для него незначительный интерес. Основной областью его научных исследований была славянская филология. События белорусской истории остались далеко в тени его заинтересованности историями польской, чешской, сербской и даже украинской. Это, однако, объясняется целым рядом объективных причин. Наиважнейшей из них было непризнание Будиловичем факта самостоятельного существования белорусского народа. В российских исторических кругах XIX в. вплоть до появления работ уроженца Кузницы М.О. Кояловича [1] не было ясности ни в отношении термина «Белая Русь», ни в отношении территории, которую она занимала. Исследователи той поры единогласно считали земли, входящие ныне в состав белорусского государства, русскими или западнорусскими, не признавая за ними никакой специфики. Только лишь благодаря работам М.О. Кояловича и его последователей были отмечены различия между западными регионами страны и собственно Россией. Однако и они, по мнению исследователей, имели локальный этнографический характер. Как считал М.О. Коялович, специфика эта появилась под влиянием католицизма и Польши и должна была быть устранена путем их полного слияния с Россией [2, с.20].

Термин «Западная Россия» вошел в обиход в конце XVIII в. и обозначал тогда белорусские и украинские (частично также литовские) земли, вошедшие после разделов Речи Посполитой в состав Российской империи. Первоначально авторы понимали его как термин географический, но в скором времени ему придали этнографическую и даже политическую окраску [3, с.240]. К середине 60-х гг. в рамках консервативного направления исторической науки начала оформляться одноименная школа, хотя понятие «западно-русизма» как течения в исторической науке вошло в оборот лишь в конце 20-х гг. XX в. в связи с публикацией книги А.Цьвикевича [4]. Зарождение и формирование этого направления в историографии связано с именем М.О. Кояловича. Основой его мировоззрения была идея о превосходстве православия над всеми остальными религиями. М.О. Коялович перенял и славянофильскую идею о триедином русском народе, включавшем в себя великороссов, малороссов и белорусов. На этих столпах и покоилась конструкция, воздвигнутая Михаилом Осиповичем.

Для Будиловича, апологета идей триединого русского народа, а также политического и культурного панславизма выделение в особую группу белорусов, а вследствие этого и признание за ними целого ряда присущих народу прав никогда не было даже теоретически возможным. Это е относилось и к украинцам, однако раннее пробуждение у них (в сравнении с белорусским) национального движения вынуждало ученого обращаться к событиям истории Украины в попытках доказать всю надуманность и бессмысленность взглядов приверженцев украинской идеи. Другой из причин слабого внимания ученого к белорусской истории был своеобразный глобализм мышления, свойственный Антону Семеновичу. Всепоглощающая приверженность великой по замыслу идее общеславянского единства не оставляла у него времени и пространства для отвлечения на незначительные и очевидные для него проблемы, каким был для него т.н. «белорусский вопрос».

Хотя основной областью профессиональной деятельности Будиловича стала славянская филология, его приобщение к научной работе косвенно началось как раз с белорусской истории, а точнее – с краткой заметки историко-описательного характера, направленной для ознакомления известному слависту И.И.Срезневскому. Заметка эта была посвящена расположенным в Каменце-Литовском башне и православной Воскресенской церкви. Она вызвала интерес маститого ученого и вышла в 1867 г. в его сборнике, посвященном неизвестным и малоизвестным памятникам русского зодчества. Антон Семенович открыл читателю малоизвестные картины жизни на западных окраинах страны, включив в свой рассказ предания, слышанные им от старейших жителей местечка. Так, из рассказов жителей мы узнаем, что одной из причин исчезновения церквей в местечке, были пожары: из существовавших 6 церквей на то время функционировала только одна [5, с.7]. Повышенное внимание молодого тогда Будиловича вызвала старая Воскресенская церковь, древность которой ему было трудно установить. Признавая свое слабое на тот момент знание теории искусства, он не мог не обратить внимание на «роскошную стенную живопись и иконы этой церкви» [5, с.8], состояние которых резко контрастировало с общим состоянием храма, который постепенно приходил в запустение. Уже тогда проявилось устойчивое негативное отношение Антона Семеновича к церковной унии, за годы которой церковь претерпела существенные изменения, не улучшившие ее вида.

Интерес по меньшей мере для ценителей фольклора представляют приводимые Будиловичем народные предания, посвященные строительству Каменецкой башни. Так, тогдашние жители верили, что башня была построена великанами, (по их определению, «верблюдами»), которые, стоя на коленях, без топора ее и возвели. Сам столб, якобы стал надгробным памятником их вождю. А. С. Будилович вспоминает о том, что имеются даже документы, подтверждающие, что башня была построена в XIII в., однако они, как ему известно, «отосланы в Публичную библиотеку в Петербурге» [5, с.9]. Антон Семенович на тот момент не был знаком с содержанием Ипатьевской летописи, основного источника о древней истории Каменца. Однако время построения башни было определено им совершенно точно. Так сложилось, что очерк о Каменецкой башне стал единственным, в котором в центре внимания А.С. Будиловича оказалась исключительно белорусская старина. Впоследствии белорусская проблематика лишь эпизодически появлялась в его трудах в разных контекстах. Ученый вспоминал о фрагментах истории родного края только в тех случаях, когда писал о польской, украинской либо общеславянской истории.

А.С. Будиловичу были близки идеи того направления в тогдашней историографии, к которому принадлежали М.О. Коялович, И.А. Котович, Ю.Ф. Крачковский, П.Н. Жукович, Г.Я. Киприянович, А.В. Белецкий и многие другие современные ему ученые. Отличие состояло в масштабах проводившихся ими изысканий в области истории белорусских земель. Антон Семенович вообще специально этим никак не занимался, поэтому, причисляя его к этому направлению, следует помнить о несопоставимости вклада, внесенного А.С. Будиловичем и другими учеными – «западно-русистами» в белорусскую историческую науку. В сравнении с М.О. Кояловичем Антон Семенович не открыл ничего нового, а просто механически перенял его идеи, которые гармонично соотносились с его собственной системой мировоззрения. Если для Михаила Осиповича изучение истории белорусских земель было призванием, то для А.С. Будиловича – скорее сопутствующим обстоятельством, чем профессиональным занятием. Поэтому он совершенно не занимался анализом источников по истории Белоруссии.

К моменту начала научной деятельности А.С. Будиловичем белорусская историография вступала в качественно новую фазу своего развития. Первый этап, начавшийся с простого интереса к «присоединенным» землям, ознаменовался научными экспедициями, историко-статистическими исследованиями, научной деятельностью ученых Виленского университета (И.Лелевель, И.Данилович, А.Онацевич, И.Лобойко, И.Онацевич), а также изысканиями местных любителей старины (Т.Нарбут, И.Крашевский, А.Киркор), венчал труд титулярного советника О.В. Турчиновича «Обозрение истории Белоруссии с древнейших времен» (1857). Его автор впервые сделал историю Белоруссии самостоятельным предметом изучения. В целом, как пишет историк Д.В. Карев, развитие белорусской историографии в 30-60 – е гг. XIX в. уступало развитию историографий России и Украины. Однако и здесь к этому времени появилась специализация в области предмета и опытов исторического исследования [6, с. 37]. На втором этапе развития количество исследований возросло. Благодаря деятельности Виленской Археографической Комиссии было открыто значительное количество памятников древне-белорусской истории. В идейном смысле большинство исследований располагалось в канве «западно-русистской» идеологии. Под ее влиянием в значительной степени находилась и краеведческая деятельность [7, с.44]. При всей полярности оценок, которые могут быть даны и даются трудам историков-приверженцев «западно-русской» идеологии, бесспорным остается их вклад в изучение истории Беларуси, в открытие новых источников и привлечение внимания к этому региону страны. Именно М.О. Кояловичу принадлежит заслуга исследований исторического прошлого этих земель. Национально-ориентированная историография по ряду причин запаздывала с манифестацией собственных идей до начала XX в. Таково было вкратце состояние белорусской историографии в те годы, на которые приходится научная деятельность А.С. Будиловича.

Для А.С. Будиловича приверженца славянофильской идеи о дуализме европейской культуры, многовекового антагонизма между ее частями территория сегодняшней Белоруссии (равно как и Украины) была ареной непосредственной борьбы между стихиями греческой и римской, между Западом и Востоком, между католичеством и православием. Основным критерием, на основании которого происходило разделение народов, для Будиловича выступал язык.

Как и большинство российских историков, А.С. Будилович считал Великое Княжество Литовское государством русским, которое, начиная с XIII – XIV вв. после нескольких уний попало под польское влияние. Антон Семенович полагал, что белорусы играли значительно большую роль в этом государстве, чем их «южные братья» - украинцы. Более того, именно белорусов он считал» правопреемниками государственности «литовско-русской [8, с.18]. Однако политического влияния на процессы, происходящие в чужом по характеру государстве, белорусы не имели. Непреодолимой тому преградой было их православное вероисповедание. Язык правовых документов Великого Княжества Литовского Будилович называл «западнорусским». Язык этот ничем не отличался бы от языка русского, если бы не полонизмы и латинизмы – «естественные наносы латино-польской школы» [8, с.16]. В другой из своих работ государственный язык ВКЛ он прямо называл «русским» [9, с.40]. Это показывает, что между языками русским и белорусским Будилович не проводил разграничения, а существующие между ними отличия имели для него региональный, а поэтому, легко устраняемый характер. Вместе с тем, процесс образования языков «западнорусского» и «малорусского», по мнению ученого, коренным образом отличался. Если у белорусов он был «естественным», то появление языка украинского, по мнению ученого, было итогом «сознательного стремления» к обособлению от России. Однако целых два их компонента оставались идентичны: полонизмы и латинизмы. В языковой основе украинского языка лежал дополнительно «искусственный жаргон», который и отличает его от языка белорусского.

Из политических деятелей той поры особо высоко Антон Семенович ставил князя Ольгерда, называя время его правления «блестящим веком» [9, с.40]. У князя Витовта он отмечал «непостоянство и видимую бесхарактерность», которые нивелировались, однако, искренним патриотизмом и политической дальновидностью [10, с.14]. Именно ему и руководимым им полкам (в том числе гродненскому, брестскому, дрогичинскому, пинскому, витебскому, полоцкому и смоленскому), считал Будилович, решающая заслуга в имевшей огромное спасительное значение для всего славянского мира битве под Грюнвальдом-Танненбергом [10, с.16]. Князя Витовта ученый рассматривал как кандидатуру, имевшую намерение и возможности, стать собирателем русских земель. Однако жестокое поражение под Ворсклой в 1399 г. поставило крест на этих его стремлениях [10, с.11].

Люблинская уния 1569 г., считал А.С.Будилович, подвела черту под независимым развитием Великого Княжества Литовского [11, с. 584]. Она означала полное включение этого русского по характеру государства в состав чужеродной Польши. Уния позволила Польше открыто проводить политику полонизации, в том числе и в «западнорусском» крае. Беспощадно критикуя Люблинскую унию как попытку поглощения Польшей Руси Литовской, Антон Семенович одновременно не считал ее идеи и принципы бесполезными. Идеи Люблинской унии, по его мнению, могли бы лечь в основу федерации славянских народов, место Польши в которой заняла бы Россия [12, с.149]. Несмотря на тяготы польского «плена» русское население края сохранило свой национальный характер: «ни уния, ни искусные приемы шляхетского государства не достигли своей цели. Русская масса сохранила свой народный облик, и нужен был лишь сильный толчок из вне, чтобы это раскрылось во всей ясности» [13, с.5].

адміністратара царквы прычым без усялякага тлумачэння, як сцвярджалася, “у інтарэсах службовых”.

Ліда была адным з цэнтраў (разам з Баранавічамі) сацыяльнага страхавання Навагрудскага ваяводства. Дзеянне установы сацыяльнага страхавання ў Лідзе было распаўсюджана на Лідскі, Навагрудскі, Валожынскі і Шчучынскі паветы. Тэрыторыя гэта была падзелена на 21 раён, на тэрыторыі якіх знаходзілася 11 280 застрахаваных і 17 486 членаў іх сем’яў, якіх абслугоўвалі 21 урач. За 1936 г. імі было наведана 16 026 хворых, пракнсультавана 67 135. Бальнічных выдадзена 17 731 злоты, на пахаванні – 1 442 злотых [7, арк. 13]. Санітарна-гігіенічны ўзровень заходнебеларускіх гарадоў быў невысокі, што адзначалася мясцовымі ўладамі. Забеспячэнне чыстай пітнай вадой працягвала заставацца праблемай. У 1938 г. Лідчане ваду бралі з 753 студняў, было таксама 177 студняў-помпаў і 17 артэзіянскіх свідравін [6, с.12] Для параўнання, у Гродна дзейнічала 37 студняў і 11 свідравін. Праўда, у Гродна існаваў водаправод, але ім на 1927 г. карысталася ўсяго толькі 1240 абанентаў. Вада ў студнях была нізкай якасці. У лістападзе 1922 г. у Навагрудскім ваяводстве знаходзілася 47 аптэк і 81 рознічны аптэчны склад. У Лідскім павеце ў гэты час было 11 аптэк: 2 у Лідзе і па адной у Шчучыне, Жалудку, Васілішках, Астрыно, Вярэнова, Беняконях, Радуні, Беліцы і Эйшышках. Уладальнікам першай лідскай аптэкі быў Рудольф Бергман, кіраўніком – правізар Уладыслаў Валянскі выпускнік Маскоўскага універсітэта 1887 г., дапамагаў яму – Міхаіл Шыдлоўскі. Другая лідская аптэка належала братам Стукатарам. Кіраваў у ёй правізар Бенедыкт Найдзіновіч, памочнікамі былі Ізраэль Стукатар, Пайя Кошчар і вучань Макс Пруські [13, арк. 10 зв., 3].

Такім чынам, можна сцвярджаць, што Ліда і Лідскі павет развіваліся ў міжваенны час у рэчышчы працэсаў, што адбываліся па ўсёй Заходняй Беларусі. На фоне іншых гарадскіх населеных пунктаў рэгіёна Ліда выглядала магутным прамысловым цэнтрам. Гэты факт, а таксама асаблівасці этнаканфесійнага складу насельніцтва павета вызначылі спецыфіка грамадска-палітычнага і культурнага жыцця Ліды і Лідчыны. Ліда знаходзілася у авангардзе заходнебеларускіх урбанізацыйных працэсаў.

Літаратура:


1. Rocznik statystyki Rzeczypospolitej Polskiej. – Warszawa, 1925.
2. Rocznik statystyki Rzeczypospolitej Polskiej. – Warszawa, 1924.
3. Eberhardt, P. Przemiany narodowościowe na Białorusi / P. Eberhardt. – Warszawa: Editions Spotkania, 1994. – 181 s.
4. Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці. Ф. 551, воп.1, спр. 25.
5. Rocznik Ziem Wschodnich. Rok IV. – Warszawa: Towarzystwo rozwoju Ziem Wschodnich, 1939.
6. Miasto Lida w 1938 roku // Ziemia Lidzka. – 2003. – № 6. – S. 12–15.
7. ДАГВ. Ф. 551, воп.1, спр. 342.
8. Кулеш, А. От сентября 1920 до сентября 1939 / А.Ф.Кулеш // ОНИКС. – 1998. – № 17. – С. 3-5.
9. ДАГВ. Ф. 551, воп.1, спр. 1160.
10. ДАГВ. Ф. 551, воп.1, спр. 2089.
11. Вабішчэвіч, А. Асвета ў Заходняй Беларусі (12921–1939 гг.) / А.М.Вабішчэвіч; Брэст: Выдавецтва БрДУ, 2004. – 116 с.
12. Siemakowicz M. Szkoły z białoruskim językiem nauczania na tle polityki władz polskich wobec ludności białoruskiej od zamachu majowego do końca II Rzeczypospolitej // Białoruskie Zeszyty Historyczne. – 2002. – №17. – S.119 – 140.
13. ДАГВ. Ф. 1, воп. 1, спр. 1373.
14. ДАГВ. Ф. 551, воп.1, спр. 1478.

***Э.А. Мазько***
***г. Гродна, ГрДУ імя Я.Купалы***

# ДЗЕЙНАСЦЬ БЕЛАРУСКАЙ ХРЫСЦІЯНСКАЙ ДЭМАКРАТЫІ Ў ЛІДЗКІМ ПАВЕЦЕ

Беларуская хрысціянская дэмакратыя за час свайго існавання ў 1917-1939 гадах прайшла складаны шлях развіцця, які можна падзяліць на наступныя этапы:

1. Перыяд станаўлення хрысціянска-дэмакратычнай плыні ў беларускім нацыянальна-вызваленчым руху, яе ідэалагічнае і арганізацыйнае афармленне – **1917 - 1924 гг.**
2. Перыяд росквіту палітычнай і асветніцкай дзейнасці БХД – **1925 - 1934 гг.**
3. Перыяд ператварэння БХД у БНА, заняпад палітычнай і культурна-асветніцкай дзейнасці партыі – **1935 - 1939 гг.**

Арганізацыйнае афармленне беларускага хрысціянска-дэмакратычага руху адбылося на Мінскім з’ездзе каталіцкага святарства 24-25 мая 1917 г. Ініцыятарамі з’езда выступілі ксяндзы Л. Хвецька, В. Гадлеўскі, А. Астрамовіч, Ф. Будзька і А. Цікота. Удзел у ім брала каля 30 беларускіх святароў [10, с.93]. На з’ездзе былі разгледжаны пытанні аб адносінах да беларускага нацыянальнага руху, аб палітычна-народнай, сацыяльна-эканамічнай, культурна-асветніцкай і выдавецкай дзейнасці ксяндзоў-беларусаў. Было таксама прынята рашэннне стварыць беларускую каталіцкую арганізацыю і распачаць у Петраградзе выданне газеты “Бацькаўшчына”. Вынікамі Мінскага з’езда ксяндзоў-беларусаў стала стварэнне дзвюх хрысціянска-дэмакратычных арганізацый. Першая была ўтворана ў маі 1917 г. ў Петраградзе. Яна атрымала назву Хрысціянская Дэмакратычная Злучнасць. Яе кіраўнікамі і ідэолагамі былі кс. Ф. Абрантовіч і Л. Хвецька. Апрача ксяндзоў і клерыкаў Духоўнай Акадэміі, сябрамі ХДЗ з’яўляліся і свецкія асобы (Б. Эпімах-Шыпіла і іншыя). 8 кастрычніка 1917 г. гэтая група пачынае выдаваць газету “Крыніца”.

Другая хрысціянска-дэмакратычная арганізацыя была створана ў Мінску. У адрозненне ад ХДЗ, якая складалася выключна са свядомых беларусаў, хаця і не акцэнтавала гэтага, мінская хадэцыя мела інтэрнацыянальны характар. Апрача беларусаў, у яе склад уваходзілі палякі. Агульны лік сяброў мінскай хадэцыі сладаў прыблізна 600 чалавек [8]. Аднак у хуткім часе польская частка паспрабавала надаць арганізацыі польскі нацыянальны характар. Беларусы на чале з кс. В. Гадлеўскім выходзяць з яе складу і 5 верасня 1918 г. на сваім сходзе ўтвараюць Беларускую Хрысціянскую Дэмакратыю. Але яна не змагла разгарнуць актыўнай дзейнасці, бо апынулася без лідэра: біскуп З. Лазінскі, незадаволены нацыянальнай дзейнасцю Гадлеўскага, высылае ксяндза ў Нясвіж [1, с.126].

У канцы 1918 г. бальшавікі закрываюць у Петраградзе каталіцкую Духоўную акадэмію. Беларускія ксяндзы і студэнты, якія былі звязаны з ёй, пакідаюць горад і вяртаюцца на радзіму. У гэты ж час у Мінск прыязджае стваральнік і ідэолаг ХДЗ кс. Ф. Абрантовіч, запрошаны на пасаду рэктара Духоўнай семінарыі. Дзякуючы яго намаганням, ХДЗ і БХД аб’ядноўваюцца ў адну арганізацыю – Беларускую Хрысціянска-Дэмакратычную Злучнасць, якую ён і ачоліў. На пачатак 1919 г. БХДЗ аб’ядноўвала ў сваіх шэрагах звыш 200 сяброў [10, с.120]. Менавіта з гэтага моманту

распачынаецца актыўная праца па стварэнню нізавых суполак хадэцыі ў правінцыі. Разам з тым, амаль усе яны былі створаны пры парафіяльных касцёлах і на чале іх стаялі ксяндзы. Таму зразумела, што наяўнасць структур партыі на тэрыторыі таго ці іншага павета залежыла ад наяўнасці там свядомага беларускага каталіцкага святара. Датычна ж Лідзкага павета, дык акрамя кс. М. Шалкевіча, які служыў у вёсцы Дворышча, іншых свядомых святароў тут не было. Таму і першая суполка ў павеце была толькі адна. Да таго ж і інфармацыя пра яе дзейнасць фактычна адсутнічае.

Пачынаючы з 1925 г. праводзілася рэарганізацыя БХД. Вынікам яе стала ператварэнне хадэцыі з касцельна-грамадскай арганізацыі ў палітычную партыю. У першую чаргу гэты працэс датычыўся стварэння яе новай рэгіянальнай структуры. Так, у 1928 г. на II з’ездзе абноўленай БХД было прынята рашэнне ўдасканаліць структурную арганізацыю партыі. Ранейшая схема, калі нізавыя арганізацыі падпарадкоўваліся непасрэдна цэнтру, замянялася больш складанай. Правесці рэарганізацыю партыі даручалася ЦК. На яго пасяджэнні ад 2 снежня 1928 г. была распрацавана новая структурная будова БХД. Было прынята рашэнне ўвесці інстытут павятовых камітэтаў. Яны павінны былі складацца з трох чалавек і каардынаваць дзейнасць партыйных суполак на тэрыторыі свайго павета. На ўспомненым пасяджэнні ЦК быў нават распрацаваны спіс гэтых камітэтаў. Меркавалася, што яны будуць створаны ў 8 паветах Віленскага, у 4 – Навагрудскага і ў 3 – Беластоцкага ваяв. Усяго планавалася стварыць 15 камітэтаў. На Лідчыне павятовы камітэт БХД павінны былі ўзначаліць Ціхановіч, Ф. Малец, Цыдзік [2, арк.89].

Рэарганізацыя праводзілася з мэтай надання большай эфектыўнасці культурна-асветніцкай і палітычнай дзейнасці БХД на месцах. Акрамя таго, яна павінна была паспрыяць крышталізацыі структурнай будовы партыі. Аднак рэарганізацыя не адбылася. Па-першае, хадэцыя не мела ў паветах дастатковай колькасці функцыянераў, якія б маглі ўзначаліць камітэты. Другой прычынай, якая перашкодзіла ўскладненню структуры партыі, быў недахоп фінансавых сродкаў. Стварэнне павятовых камітэтаў з пастаянным штатам супрацоўнікаў вымагала значных выдаткаў. БХД ніколі не мела грошай у дастатковай колькасці. Тыя сродкі, якімі яна валодала, выдаткоўваліся ў першую чаргу на правядзенне культурна-асветніцкіх акцый і на друк. Трэцяй прычынай няўдачы рэарганізацыі будовы партыі ў 1928 г. быў крыжовы паход арцыбіскупа Ялбжыкоўскага супраць БХД. У гэтых варунках для лідэраў хадэцыі на першае месца станавілася задача захаваць ужо існуючую структуру партыі і яе склад.

Узнікае заканамернае пытанне: дык ці быў, а калі быў, дык якім па сваіх памерах уплыў БХД ў Лідзкім павеце? Найперш, мусім зазначыць, што рэальна структуры і дзеячы хадэцыі на Лідчыне былі прысутныя. Варта тут узгадаць вядомую ссылку дзеяча партыі ксяндза Віктара Шутовічы, які ў 1926 г. быў паніжаны з дастойнасці пробашча парафіі ў Барадзенічах Браслаўскага павуту да вікарыя і пераведзены ў Ліду, дзе знаходзіўся пад наглядам мясцовага польскага духавенства.

Па ранейшаму ў Дворышчы дзейнічала суполка БХД, арганізавыаная ўспомненым ксяндзом Шалкевічам. Больш таго, у 1926 г. Пры ёй быў арганізавана кааператыўная малачарня, якая не толькі займалася вытворчай дзейнасцю, але і фінансавала правядзенне разнастайных асветніцкіх акцый, арганізоўваемых хадэкамі [5].

Пра наяўнасць хадэкаў у Лідзкім павеце сведчыць таксама допісы жыхароў павета ў партыйную газету “Беларуская крыніца”. Датычыліся яны розных аспектаў

павятовага жыцця. Так, гэта магла быць крытыка скваплівасці каталіцкіх ксяндзоў [4], альбо адносін мясцовай адміністрацыі да беларусаў і іх патрэбаў [6]. І калі ў першым выпадку допісы як правіла былі ананімныя, дык другая карэспандэнцыя была падпісана Язэпам Хадыкай.

Часта допісы ў газету датычыліся ўнутраняй беларускай міжпартыйнай барацьбы. Так у №36 "Беларускай крыніцы" ад 22 кастрычніка 1926 г. было надрукавана "Пісьмо ў рэдакцыю", падпісанае Я. Дударам і М. Занозай з вёскі Суботнікі. Аўтары вакрывалі нейкага Кастуся Светавастокава, які на Лідзкім павятовым з'ездзе БСРГ прадстаўляў Суботніцкую гміну. У лісце сцвярджалася, што такая асоба ў гміне амаль невядомая, а таму гэты чалавек "ня мог і ня меў на'т маральнага права гаварыць ад нашае гміны [3].

У 1928 г. пад час выбараў у Сойм і Сенат надыходзілі ў рэдакцыю газеты і допісы, якія спрабавалі выкрыць небеларускія выбарчыя спісы і заагітаваць выбаршчыкаў з Ліды і павету галасаваць за баларускі спіс: "Памятайце, што маем сваіх людзей, якіх мы павінны правясці ў Сойм! Наш нумар 18!" [7].

Што да памераў уплыву БХД у Лідзкім павеце, дык ускосна пра яго можа сведчыць колькасць падпісчыкаў усё той жа "Беларускай крыніцы". Так, у 1925 г. яна мела 870 сталых падпісчыкаў з розных куткоў Заходняй Беларусі. Згодна дадзеным рэдакцыі, газету выпісвалі: у Дзісненскім павеце – 114 падпісчыкаў, у Ашмянскім – 104, Свянцянскім – 80, Віленскім (без Вільні) – 63, Гродзенскім – 61, Дунілавіцкім (Пастаўскім) – 53, Нясвіжскім – 50, Ваўкавыскім – 40, Сакольскім – 38, Вілейскім – 37, Валожынскім – 35, Беластоцкім – 30, Лідскім – 30, Слонімскім – 28, Пружанскім – 18, Навагрудскім – 18, Браслаўскім – 15, Баранавіцкім – 16, Пінскім – 14, Лунінецкім – 13, Стаўбцоўскім –13 [9]. Як бачым, колькасць падпісчыкаў "Беларускай крыніцы" на Лідчыне абмяжоўвалася ўсяго толькі 30 асобамі. У параўнанні з Дзісненскім паветам гэта быў невялікі лік асобаў.

У трэці перыяд дзейнасці партыі – 1935-1939 гады –звесткі пра яе суполкі ў Лідзкім павеце адсутнічаюць.

Падводзячы вынікі зазначым, што БХД у 20 гады XX стагоддзя мела свае структуры на тэрыторыі Лідзкага павета. Разам з тым іх колькасць была нешматлікай, а рэальны ўплыў хадэцыі на грамадскае жыццё Лідчыны – мізэрны.

Літаратура


1. З жыцця і дзейнасці кс. В.Гадлеўскага. Аўтабіяграфічны нарыс // Гарадзенскія запісы: Старонкі гісторыі і культуры. / Рэд. П.Сцяцко.- Гародня, 1993.- Вып.1.- С.120-130.
2. ЦБ НАНБ, ф.23, воп.1, адз.зах.73.
3. Biełaruskaja Krynica.- 1926.- 22 kastryčnika.- S.8.
4. Biełaruskaja Krynica.- 1926.- 19 listapada.- S.4
5. Biełaruskaja Krynica.- 1927.- 28 studzienia.- S.5.
6. Biełaruskaja Krynica.- 1927.- 5 lipnia.- S.4
7. Biełaruskaja Krynica.- 1928.- 20 lutaha.- S.4.
8. Krynica.- 1918.- 12 lutaha.- S.3
9. Krynica.- 1925.- 1 lutaha.- S.2.
10. Stankiewicz Ad. Bieiaruski Chryścijanski Ruch.- Wilnia, 1939.- 272s.

***А. Ф. Кулеш***
***г. Ліда***

# 17 ВЕРАСНЯ 1939 г. – ПАВАРОТНЫ МОМАНТ У ЖЫЦЦІ БЕЛАРУСАЎ

Пытанню стварэння адзінай Беларусі ў 1939 г. прысвечана нямала публікацый, дакументальных даследаванняў, напісана шмат навуковых работ і газетных артыкулаў. Змест іх далека не ідэнтычны. У адных сцвярджаецца, што гэты гістарычны акт ёсць эпахальная падзея ў доўгачаканым жаданні беларусаў да ўз'яднання. Іншыя лічылі і лічаць да сёння, што гэта падзея ёсць не што іншае, як агрэсія і гвалтоўнае далучэнне заходніх абласцей да БССР.

Заходнія беларусы сустрэлі РСЧА кветкамі, шматлікімі мітынгамі, прывітальнымі шэсцямі, масавымі гуляннямі. Паўсюды раздаваліся здравіцы на яе адрас, на адрас правадыроў партыі і савецкай дзяржавы.

Вось што пісаў у сваім лісце І. В. Сталіну сакратар ЦК КП(б) Беларусі П. К. Панамарэнка:

"Хочу поделиться некоторыми своими впечатлениями от посещении Западной Белоруссии. Я посетил Столбцы, Мир, Тур /Турэц/, Кореличи, Новогрудок, Несвиж, Слоним, Барановичи, Волковыск н многие другие города и деревни... Настроение среди белорусских крестьян прекрасное. Во всём поддерживают, как могут, Красную Армию. Во всех городах, в которых побывал, не встретил ни одного человека, который не говорил бы по-русски. Все прекрасно говорят по-русски, даже молодежь". / Ліст сакратара ЦК КП(б) Беларусі П. К. Па-намарэнкі І. В. Сталіну ад 25 верасня 1939 г. НАРБ, ф. 4, оп. 21., спр. 1521, с. 206-211/.

І гэта не было выдумкай. Вельмі добра памятаю, як усё адбывалася ў тыя дні ў нашай вёсцы Збляны.

Вестка аб тым, што Чырвоная Армія перайшла дзяржаўную граніцу і рухаецца ў заходнім кірунку, была сустрэта яе жыхарамі з вялікай радасцю і ўсеагульным уздымам. Ва ўсходнім канцы вёскі пабудавалі арку. Працавалі ўсю ноч. Арку аздобілі восеньскімі кветкамі. Верх яе ўвенчылі пяціканечнай чырвонай зоркаю. Рыхтаваліся да сустрэчы са сваёй "вызваліцелькай", як да самага вялікага свята.

На другі дзень, не дачакаўшыся прыходу Чырвонай Арміі ў вёску, амаль усе маладыя, ды і старэйшыя, сяльчане накіраваліся сустракаць яе ў мястэчка Беліцу. Там на рынкавай плошчы, у самым цэнтры мястэчка, сабралася мноства народу з Беліцы і навакольных вёсак — Зблян, Краснай, Лазян, Ямантаў, Табалы, Восава, Нясілавіч ды іншых. Актывісты былой падпольнай арганізацыі КПЗБ наладзілі мітынг. Усе ўважліва слухалі і чакалі. Ды толькі і на гэты раз, на жаль, нікога сустрэць не давялося. Толькі да паўсмерці напужаліся.

Нехта з былых упраўленцаў Беліцкай гміны ўзышоў на імправізаваную трыбуну і громкагалосна абвясціў, што, маўляў, Чырвоная Армія не прыйдзе. Яна на патрабаванне Англіі і Францыі спынілася і рушыла назад, спыніўшы свой паход на захад. Для ўсіх прысутных гэта быў бы выліты на іх галовы цабэрак халоднай ледзяной вады. Усе кінуліся дамоў. Рынкавая плошча раптам апусцела.

Памятаю, як асцярожныя і ўмудроныя жыццёвым досведам бацькі лаялі сваіх непаслухмяных нашчадкаў за іх нястрыманасць і неразважлівасць. Ноч была для ўсіх

нават вельмі трывожнай. Але хутка ў вёску завітала адна з часцей РСЧА і ўсё ўляглося. Страх адышоў, жыццё вярнулася ў прывычнае рэчышча. Затое ахапіла новае, іншае пачуццё: трывога за будучыню — а што далей? І не без падстаў. Сустрэча сталася не такой, якой яе ўсе ўяўлялі.

Тыя змены ў грамадскім жыцці, што абяцала савецкая ўлада, былі для нас незвычайныя — прывабныя і адначасова незразумелыя.

Тым не менш, вяселле і радасць пранізалі і запоўнілі ўсё навокал.

Гледзячы, як хутка і без ніякіх перашкод рухаецца Чырвоная Армія па 50-70 кіламетраў у суткі, здавалася, што гэта нейкі звычайны марш войск ці, нават, прагулка. На самай справе ўсе было не зусім так. Гэты "вызваленчы" паход каштаваў для савецкага народа нямала жыццяў чырвонаармейцаў і іх камандзіраў. Выступаючы на пасяджэнні 5-й пазачарговай сесіі Вярхоўнага Савета СССР, старшыня СНК і народны камісар замежных спраў СССР В. М. Молатаў паведаміў: "У баях з часцямі Войска Польскага РСЧА страціла ў Беларусі 737 забітымі і 1862 параненымі". Самыя жорсткія і значныя баі адбыліся ў Гродне і Беластоку. У Гродне Чырвоная Армія страціла 63 забітымі і 162 параненымі. Было знішчана і пашкоджана 19 танкаў, адзін танк спалены разам з экіпажам. Лёгкае кулявое раненне атрымаў камдзіў 6-га кавалерыйскага корпуса, будучы Маршал Савецкага Саюза Андрэй Яроменка, які ўдзельнічаў у баі за Гродна.

Ліда была занята часцямі РСЧА без супраціўлення. І гэта зразумела: усе вайсковыя злучэнні, што дыслацыраваліся тут перад вайной, былі накіраваны на захад, на польска-германскі фронт. Тыя нязначныя вайсковыя падраздзяленні, што засталіся для аховы вайсковых аб'ектаў, аказаць супраціўленне не маглі. Да таго ж быў загад Галоўнакамандуючага Войска Польскага Маршала Э. Рыдза-Сьміглага: "У баі з Чырвонай Арміяй не ўступаць".

У выніку РСЧА захапіла шмат ваенных трафеяў, у тым ліку, на Лідскім аэрадроме 23 самалёты, з якіх 11 былі спраўныя. ("Запиииска по поводу №23 тов. Берня Л.П." за подпісам народнага камісара НКУС БССР Цанава).

Значная частка 5-га авіяпалка "Ліда" ў складзе 20 самалётаў з экіпажамі пераляцела ў Літву. Пазней, у 1940 годзе, усе яны былі інтэрніраваны савецкай уладай і накіраваны ў лагеры ваеннапалонных польскіх салдат ў Гразнаўцы Смаленскай і Казельску Калужскай абласцей".

Дык што ж гэта было: "вызваленчы паход" ці звычайная агрэсія?

Адназначнага адказу на гэта гістарычна важнае для нас пытанне пакуль няма.

Як жа сустрэла Ліда і Лідчына савецкую ўладу і далучэнне заходніх абласцей Беларусі да БССР?

Звонку ўсё было, як напісана ў кніжках, падручніках па гісторыі, у мастацкіх творах. А тое, што адбывалася за кадрам, мала хто ведаў або чуў. Вонкавая радасць і трыумфаванне зусім не азначала такое ж аднадушша. Шмат чаго хавалася за шчыльным занавесам. Толькі сёння, пазнаёміўшыся з некаторымі дакументамі, можна заглянуць крыху ў падзеі таго, ўжо досыць далёкага, часу.

Я маю на ўвазе перапіску ў час "вызваленчага пахода" паміж вышэйшымі кіраўнікамі Савецкай Беларусі і былога Савецкага Саюза: наркама НКУС Л. П. Цанавы з сакратаром ЦК КП(б) Беларусі П. К. Панамарэнкам, Цанавы з наркамам НКУС СССР Л. П. Берыя, Панамарэнкі са Сталіным.

Шмат чаго хавалася за кадрам. Таму не паддаюцца логіцы некаторыя паспешныя пастановы і рашэнні партыі і ўрада СССР, якія закраналі насельніцтва заходніх абласцей Беларусі на былой польскай тэрыторыі.

Вось прыклад. Пастанова 5-й пазачарговай сесіі Вярхоўнага Савета СССР аб далучэнні гэтых тэрыторый да СССР была прынята толькі 2 лістапада 1939 г.

А ўжо да гэтага, 29 кастрычніка, Палітбюро ЦК ВКП(б) зацвердзіла Указ Прэзідыума Савета СССР аб савецкім грамадзянстве іх жыхароў. Пры чым — безальтэрнатыўна: усе былыя польскія грамадзяне, якія пражывалі на гэтых тэрыторыях на 1—2 лістапада 1939 года, аўтаматычна станавіліся грамадзянамі СССР. З усімі з гэтага наступствамі.

А ці ўсе яго хацелі? Пытанне рытарычнае.

У адказ на яго пераканаўча сведчаць дакументы. У прыватнасці перапіска паміж наркамам НКУС БССР Л. П. Цанава і сакратаром ЦК КП(б) Беларусі П. К. Панамарэнкам у верасні-снежні 1939 г.

Вось некалькі з іх.

**Совершенно секретно**
**Секретарю ЦК КП(б) Белоруссии**
**товарищу Пономаренко П.**

Оперативное донесение №59
**Агентурно-следственная работа от 10 декабря 1939 г.**

Благодаря проведенным агентурно-следственным действиям, установлено, что в Лиде существовала повстанческая националистическая контрреволюционная группа, состоявшая из реакционной части педагогов и гимназистов Короля Ходкевича во главе с её директором Казимиром Ментелевичем, сыном Марцелия.

Раскрыто, что в состав этой контрреволюционной группы входило 17 человек, фамилии которых перечисляются. Среди них сестра известного польского писателя, автора романа "Знахарь", Тадеуша Долэнги-Мостовича — Ядвига.

Далей у данясенні гаворыцца:

"Основной задачей контрреволюционной группы было объединение части гимназистов и поляков с целью организованного выступления против советской власти.

Первое выступление группы было приурочено к 22-ой годовщине Великой Октябрьской социалистической революции, преследовавшее срыв проводимой в гимназии подготовки к проведению праздника и демонстрации, свою готовность к борьбе с советской властью.

Члены группы распространяли в гимназии и городе небольшое количество листовок, в которых призывали польскую общественность к организованному вооруженному выступлению против советской власти. Вот содержание одной из листовок: "Жизнь изменилась, жизнь пошла колесом. В Польшу пришли злодеи и пускают нам пыль в глаза. Эй, поляк! За работу! Хватай метлу, хватай щетку и выметай вражью свору, пока не вымели нас!". По агентурным данным следует, что листовки указанного содержания распространяла гимназистка, член группы, Линчевская.

6 ноября т. г. в гимназии имени К. Ходкевича во время торжественного заседания, посвященного 22-ой годовщине Великой Октябрьской социалистической революции,

члены группы рассыпали в зале, где проходило мероприятие, порошок с запахом аммиака. А затем с улицы в зал через окно было вброшено несколько камней. В результате заседание было сорвано.
В торговой гимназии в Лиде (сёння ДЮСШ №2, ул. Савецкая) во время торжественного заседания также был рассыпан порошок с удушающим запахом. Одновременно было выключено электрическое освещение: вывернуты предохранительные пробки.

7-го Ноября 1939 года во время демонстрации колонны гимназистов не были красочно оформлены. Большинство гимназистов во время исполнения "Интернационала" не снимали головных уборов, не отвечали на приветствия, демонстративно отворачивались от трибун, смеясь и свистя.

Нами раскрыты и арестованы активные участники указанной контрреволюционной группы (пералічваюцца прозвішчы і імёны 12 чалавек).
(НАРБ, ф. 4, оп. 21, спр. 1684, ст. 121-147).

А вось яшчэ не менш красамоуны дакумент: "Оперативное донесение комиссара внутренних дел БССР Л. Цанавы секретарю ЦК КП(б) П. Пономаренко.

**Совершенно секретно**
**Секретарю Центрального Комитета КП(б)**
**Белоруссии товарищу Пономаренко**

Оперативное донесение № 50
*(20 октября 1939 г. г. Белосток)*
**Следственная работа**
**Наиболее существенные разоблачения**

Агентурой установлено, что житель хутора Жучки Белицкой гмины Лидского повета... Бурдей Павел проводил агитацию против выборов в Народное собрание. Он говорил: "Не надо голосовать за установление советской власти, потому что вновь придут поляки. Союзники Польши – Англия и Франция – требуют от России, чтобы польское государство было восстановлено. В связи с этим Россия спешно проводит выборы, чтобы всё выглядело так, что будто сами рабочие и крестьяне хотят их проведения, установления советской власти и присоединения Западной Белоруссии к Белоруссии Советской".

15 октября на заводе "Неман" в Докудовской гмине Лидского повета рабочая Картанова Ольга в разговоре с информатором жаловалась, что живётся ей плохо, потому что ее муж Олехнович Вацлав организует какую-то партию и пытается убеждать, чтобы не голосовали за советскую власть. Собирает у себя дома неизвестных людей и слушают радиопередачи из Франции на польском языке.

Сам Олехнович во время разговора с информатором говорил о существовании партии, стоящей на позиции польского правительства, и одновременно уговаривал информатора вступить в эту партию. За Бурдеем ведём активное наблюдение.

Легор и Зорко, учителя со школы в Ивье Лидского повета, проводили среди крестьян агитацию против выборов, уговаривая не голосовать за евреев и за присоединение Западной Белоруссии к БССР. Информацию, касающуюся Легора и Зорко, проверяем, после чего арестуем.

(НАРБ, ф.4, оп.21, д.1683, с.165-185. Перевод с польского автора)

**Народный комиссар**
**внутренних дел БССР**
**старший майор госбезопасности**
**Л. Цанава**

Спробы стварэння падобных арганізацый былі і ў іншых гарадах: ў Івянцы, Брэсце, Кобрыне, Пінску, Пружанах, Гродне, Беластоку.

Можа ўзнікнуць пытанне: дык чаму ж гэтае супраціўленне не мела ніякага поспеху і так хутка згасла? Адказ на яго вельмі просты. Польскае грамадства, кіраўніцтва дзяржавы знаходзілася ў той час у стане глыбокага псіхалагічнага шоку ад нечаканага, надзвычайна хуткага паражэння арміі ў вайне з фашысцкай Германіяй. Арача таго, у заходніх абласцях Беларусі, па некаторых звестках у канцы 1939 года было засяроджана 700 тысяч салдат і афіцэраў РСЧА і 45 тысяч унутраных войск. Іншымі словамі: на адзін квадратны кіламетр тэрыторыі прыходзілася больш за дзевяць, а на 100 жыхароў — 16 чалавек з ружжом. А калі дадаць да гэтага добра арганізаваную міліцыю і разгалінаваную агентурную сетку, то стане ясна, чаму супраціўленне савецкай уладзе так хутка пагасла. Ужо ў пачатку 1940 года яно практычна знікла.

Аб'ектыўна кажучы, гэта мела свае дадатныя наступствы — у грамадстве ўстанавіліся спакой і парадак, якія пратрывалі да пачатку Вялікай Айчыннай вайны.

17 верасня 1939 года — гістарычная для усіх нас дата, асабліва для заходніх беларусаў. Сам я паходжаннем адтуль. Гэта наша гісторыю. Нават маленькім рысачкам у ёй павінна быць знойдзена адпаведнае месца. Бо, як казаў некалі рымскі філосаф Цыцарон: "Псторыя — сапраўдны сведка часу, святло ісціны, жыццё памяці, настаўніца жыцця, вястун даўніны". Топчуцца гісторыя і мова — нікне нацыя, народ, дзяржава. Гісторыя народа ўздымае энтузіязм яго нашчадкаў.

*А.К. Гецевич*
*г. Гродно, ГрГУ им. Я.Купалы*

# ПОЛЬСКИЕ ПОЛИТИЧЕСКИЕ ПАРТИИ НА ЛИДЧИНЕ (1918 - МАЙ 1926 ГГ.)

Возрождение независимого польского государства – II Речи Посполитой в 1918 г. способствовало активизации деятельности польских организаций и на территории Беларуси. Одной из форм проводимой работы стало формирование в городах так называемых польских советов, которые начали свою работу еще во время немецкой оккупации. Однако с приходом власти большевиков большинство этих советов вынуждено было переехать в Варшаву. Несмотря на это, в Минске продолжали действовать польские организации, правда, на нелегальном положении. Наибольшим влиянием среди них пользовалась Главная Польская Рада под руководством епископа З.Лозиньского. Правда, вскоре она была раскрыта и ее членов арестовали. В Гродно Польская Рада возникла в начале ноября 1918 г. и просуществовала до вступления польских войск в город в апреле 1919 г. Были образованы Народные Рады и в ряде уездов – Лиде, Щучине, Слониме и др. [1, s. 54–56].

В итоге наступления польских войск уже в апреле 1919 г. Вильно и значительная часть белорусских территорий находились в руках польской гражданской администрации во главе с Главным комиссариатом Гражданского правительства Восточных земель. С новой силой началась работа польских организаций разной направленности, однако их деятельность имела не спонтанный характер, а регулировалась польской гражданской администрацией.

Главную роль в организации общественной и политической жизни региона этого периода играло Общество Стражи Кресовой (ОСК). Формально Общество было организовано в 1918 г. с целью защиты восточных земель возрождаемого Польского государства.

К маю 1919 г. были сформированы 4 территориальных округа ОСК на территории Беларуси и Литвы и началась активная работа с населением региона. Особенно активно она проводилась в Лидском, Ошмяском, Свентянском и Новогрудском поветах.

До июля 1920 г. деятельность ОСК распространилась на 9 поветов региона. В Лидском повете всей деятельностью руководил Гриневич, в Вилейском – М. Шостокувна, в Ошмянском – Мартинковский, в Свентянском – В. Коваленко [3, л. 24–26]. Общество было призвано ускорить процесс общественного и политического строительства в регионе, поскольку считалось, что в данном регионе не было условий для самостоятельного общественно–политического развития.

ОСК организовывало выход польской прессы, инициировало создание общественнохозяйственных организаций (сельскохозяйственных, предпринимательских, союзов деревенской молодежи, просветительских организаций), работало над созданием общественной инфраструктуры региона. Создавались комитеты Народных Советов и ячейки движений народного толка, что позволило работать с большим количеством населения региона.

В ходе проведения агитационной работы на территорию региона попадали программы польских политических партий и движений. Распространялась здесь и пресса ведущих политических партий Польши. Депутаты Учредительного сейма

Польши также приезжали и выступали перед жителями городов и деревень региона. Знакомя собравшихся с программами движений и партий, они также призывали местное население к организации комитетов партий и движений.

В период польско-советской войны 1920 г. представителями Общества проводились мероприятия по организации помощи войскам, созданию военных подразделений.

С марта 1921 г. деятельность ОСК распространяется на 7 поветов Средней Литвы. Структурные подразделение Общества существовали в Лиде (председатель Брауман, 15 членов), Ошмянах (председатель В.Нарковский, 57 членов), Свентянах (председатель И. Древински, 11 членов) и др. [2, л. 51].

Начало 20-х годов XX века в истории региона характеризовались весьма активными политическими и военными событиями. Только за несколько лет – с 1915 по 1922 гг. – Лидчина несколько раз меняла свой статус. В составе Российской империи она была оккупирована немецкими войсками, в 1918 г. – здесь уже советская власть, в 1919 г. – польские легионеры. Польско-советская война 1920 г. и заключенный Рижский мир 1921 г. казалось был должен стабилизировать ситуацию. Однако в 1922 г. в связи с приближающимися выборами в Виленский сейм, который должен был формально решить судьбу Срединной Литвы, решением властей Польши территория, на которой должны были состояться выборы, была увеличена на два повета: Лидский и Браславский. Поэтому ведущие политические блоки Средней Литвы начали здесь свою деятельность и приступили к организации собственных комитетов.

Наибольшее влияние в регионе имели Польский Центральный Избирательный комитет  организация, которая стояла на позициях близких к правым польским политическим силам. Поддержку данному комитету оказывали национальные демократы (эндэки) и христианские демократы. Не малую роль сыграла и поддержка блока католической церковью. С учетом того, что многие национальные меньшинства региона собирались бойкотировать выборы, ПЦИК, имевший большую поддержку местного польского населения, всерьез рассчитывал на победу.

Серьезные амбиции были и у Союза народных Советов. ППС Литвы и Беларуси рассчитывала на голоса рабочих, железнодорожников, части крестьянства и интеллигенции.

Не менее активно работали Польская народная партия (далее  ПНП) «Возрождение», Польский народный союз Виленской Земли.

Национальные меньшинства не отыгрывали какой–либо роли в избирательной кампании, не выставили они и собственных избирательных списков. Большинство представителей национальных меньшинств не приняли участия в выборах [2, S. 69].

**Количество депутатских мест, полученных на выборах в Виленский сейм 1922 г. [2, S. 69].**

| Повет | Количество голосов | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | ПЦИК | СНС | ПНП | ПНС | Демократы | ППСЛиБ |
| Вильно | 15 | | | | 1 | 2 |
| Виленский | 4 | 10 | 3 | 1 | | |
| Трокайский | 2 | 3 | 1 | | | 1 |
| Ошмянский | 2 | 7 | 2 | | | |
| Свентянский | 1 | 9 | 6 | 3 | | |
| **Лидский** | **16** | **3** | | **2** | | |
| Браславский | 5 | 1 | | 3 | 3 | |
| Вместе | 45 | 33 | 12 | 9 | 4 | 3 |

20 февраля 1922 г. Виленский сейм принял решение о вхождении Средней Литвы в состав Польши. Тогда же была избрана делегация из 20 депутатов, которая в Варшаве на торжественном заседании Учредительного сейма 24 марта 1922 г. подписала «Акт соединения Виленской земли и Польши». Польский сейм в тот же день принял закон «О принятии государственной власти на территории Виленской земли правительством Польши». Делегация Виленского сейма в полном составе вошла в Учредительный сейм Польши [2, S. 70].

Вместе с тем, политическая жизнь региона, в том числе и Лидчины, в 1922 году только начиналась, поскольку на повестке дня стояли выборы в парламент Польши, которые на Лидчине проводились впервые. Ведущие политические силы Польши активно участвовали в предвыборной кампании на территории Западной Беларуси, рассчитывая получить новый электорат и укрепить свои позиции в новом парламенте за счет депутатских мандатов с востока.

Наибольшее влияние в регионе имело ПСЛ «Освобождение». Движение начало формировать структуру еще во время предвыборной кампании по выборам в Виленский сейм.

Естественно, что наибольший интерес к повету движение начало проявлять в период подготовки и проведения выборов в сейм 1922 г. Уже 24–25 июня 1922 г. в г. Вильно прошел съезд избирательного блока ПНП «Освобождение» и «Возрождение», на котором собрались 420 делегатов, представлявших Новогрудское и Виленское воеводства. На съезде было одобрено слияние ПНП «Освобождение» и «Возрождение» [2, S. 78–79]. Было решено во всех округах выставить собственных кандидатов. Среди лозунгов, которые использовало движение в предвыборной агитации, особое место было отведено проведению земельной реформы, исходя из интересов местного населения, а также правам белорусского населения на развитие образования и культуры на родном языке.

С целью укрепления влияния ПНП «Освобождение» был организован окружной съезд в Лиде. Созван он был 3 октября 1922 г. На него прибыло 3250 делегатов из Виленского и Новогрудского воеводств. Рассматривались вопросы формирования предвыборного списка партии и предвыборной программы.

Согласно принятым решениям съезда в избирательном округе № 62, в состав которого входили г. Лида и Лидский повет, от партии в качестве кандидатов в депутаты были выдвинуты жители Лиды и повета: Б. Мисан – адвокат, В. Силюк – крестьянин Лидского повета.

Тактика крестьянской партии, которой являлась ПНП «Освобождение», сводилась к активной агитации среди крестьян. На поветовых съездах партии, на собраниях и на митингах сельского населения кандидаты в депутаты выступали в основном по вопросам земельной реформы. Решение данного вопроса партией – наделение землей без выкупа – нашло положительный отклик у местного населения. Подобные радикальные взгляды присутствовали и на страницах партийной печати. Еще несколько небольших, хорошо продуманных тактических шагов, как то издание предвыборной программы блока на белорусском языке, бесплатные юридические консультации и выигрыш нескольких судебных дел для местных жителей – укрепили популярность партии.

Однако своими высказываниями по вопросам земельной реформы агитаторы партии нередко выступали на антигосударственных позициях, пользовались популистскими лозунгами, которые зачастую были просто не выполнимы.

К агитационной работе в пользу ПНП «Освобождение» на территории Лидского повета подключились и представители Польского Народного Союза «Возрождение» братья Л. и А. Клышенко. Вместе с тем их деятельность носила пассивный характер [4, л. 213 – 214].

Во время избирательной кампании активизировалась и еще одна крестьянская партия - ПНП «Пяст». В Лидском повете агитационными акциями руководил А. Дубровник. Прошли собрания в Щучине, Рожанке, Желудке, Эйшишках, Василишках, и Белогрудской гмине. А. Дубровник ознакомил собравшихся со сложившейся политической ситуацией в стране, с программой течения. Распространялись газеты «Воля Народа», «Пяст» [5, л. 262, 290].

Правые польские партии на выборах 1922 г. создали избирательный блок «Христианский союз народного единства» (ХСНЕ). В его состав входили: Общественно-народный союз, Христианско-народный союз труда, Народно-христианское общественное движение и ряд других.

В г. Вильно располагался региональный комитет избирательного блока, который охватывал своей деятельностью территорию Виленского и Новогрудского воеводств. Наиболее активно он действовал на территории г. Вильно, где имел поддержку населения и хорошую материальную базу, выпускал ряд газет («Виленский ежедневник» и «Виленский голос»). Наиболее видными фигурами блока на территории воеводства были Ф. Рачковский, А. Звежынский, Л. Чарковский, П. Ковнацкий, С. Кодь, В. Ольшевский. На территории поветов Виленского воеводства влияние партии было минимальным. Она находила своих сторонников лишь среди небольшого числа зажиточных горожан и части духовенства [6, с. 6].

Подобная ситуация была и в отношении Польской партии социалистической (ППС). В преддверие выборов 1922 г. в парламент ППС имела на территории «кресов» достаточно сформированную партийную структуру. Можно говорить о влиянии партии на территории белорусских поветов Виленского воеводства, а также в восточных поветах Новогрудского воеводства. Однако, несмотря на это, партийного списка ППС на территории Виленского и Новогрудского воеводств, в том числе и на Лидчине, сформировано не было.

В итоге на выборах в Лиде и Лидском повете (округе № 62) была отмечена высокая избирательная активность – 58 %. Список ПНП «Освобождение» получил около 35 % голосов избирателей. Депутатские мандаты получили Станислав Баллин, Феликс Головач, Сельвестр Воевудский. ПНП «Пяст» поддержали здесь около 25 % избирателей, наиболее активно в Лидском и Ошмянском поветах. Все это позволило получить один депутатский мандат. Обладателем его стал А. Дубровник. Успех здесь ожидал и Блок национальных меньшинств Польши (БНМП), который получил два мандата. Одно место в сейме от округа досталось и Христианскому Союзу народного Единства (ХСНЕ). После выборов главной задачей всех политических сил региона стало удержание завоеванных позиций и электората.

По заключению полиции в период 1922 – 1923 гг. ПНП «Освобождение» была самой влиятельной из существовавших на территории повета политических

организаций, имела сильное влияние в гминных радах, сельской местности. На территории повета действовало около 25 первичных комитетов движения [7, л. 2-4].

Не менее активно в 1923 г. представители партии проводили в Лиде и повете митинги и собрания, а 28 ноября 1923 г. прошел поветовый съезд ПНП «Освобождение» под руководством Ст. Баллина и Ф. Головача по вопросам сервитутов [8, л. 4-5].

На протяжении 1924 г. ПНП «Освобождение» оставалась единственной крупной польской политической партией в регионе. Однако в конце года в результате партийного кризиса и последовавшего за ним раскола в ПНП «Освобождение» из партии ушли депутаты, представлявшие интересы восточных воеводств Польши. Лидер лидского комитета Ст. Баллин вошел в состав руководства радикальной Независимой крестьянской партии (НКП), которая вскоре составила серьезную конкуренцию ПНП «Освобождение».

Новым лидером «освобожденцев» в регионе стал депутат А.Дубровник, до недавнего времени возглавлявший месное отделение ПНП «Пяст». Несмотря на то, что партия ослабла и часть приверженцев ушла за бывшим лидером Ст. Баллиным, А. Дубровник активно проводил агитационно-разъяснительную работу. Так, 08 декабря 1924 г. была проведена отчетная конференция в Жирмунах, на которой присутствовало 150 человек. 09 декабря 1924 г. подобная конференция прошла и в Вороново (300 человек) [7, л. 2-4].

Учитывая, что позиции лидера среди политических организаций в регионе у ПНП «Освобождение» значительно пошатнулись после раскола в Лиде и повете активизировались представители других политических партий – от крайне правых до крайне левых.

Дольше других здесь работала ПНП «Пяст», однако со времен выборов 1922 г., которые принесли ПНП «Пяст» в Лидском повете депутатский мандат, партия не смогла развить и закрепить свои позиции. Это было связано с несколькими причинами: сильными позициями ПНП «Освобождение», отсутствием достаточного финансирования, а также сменой лидера партии в регионе после ухода А. Дубровника в конце 1924 г. По сведениям полиции новым лицом партии в повете стал П. Мартишевский. ПНП «Пяст» не смогло составить достойной конкуренции «Освобождению».

Образованная в конце 1924 г. Независимая крестьянская партия, интересы которой представлял неутомимый депутат Станислав Баллин, начала свою деятельность на территории повета уже в январе 1925 г. Правда, на этом этапе работа сводилась в основном к распространению в регионе агитационной литературы.

Некоторую активность в начале 1925 г. проявляли также представители крайне правой польской партии христианских демократов (ХД). 2 января 1925 г. в Лиде их сторонники организовали отчетную конференцию. Депутат кс. А. Ольшанский критиковал социально-экономический строй СССР, земельную реформу, были рассмотрены и другие острые социальные вопросы. На конференции присутствовало 200 человек. К сожалению, полиция не приводит сведения, был ли организован секретариат данной политической партии в регионе, однако, судя по всему (в последующих отчетах за 1925 г. ХД не фигурирует) такового организовано не было [9, л. 96-98].

С начала 1925 г. в Лидский повет зачастили представители ППС. На этом этапе их деятельность наиболее четко прослеживалась среди профсоюзных организаций города. Так, в феврале 1925 г. в Лиду из Вильно на собрания профсоюза железнодорожников несколько раз приезжал представитель Виленского Окружного Комитета Станислав Плавский. Согласно отчетам полиции к концу февраля представители ППС имели сильное влияние (более 80 %) на рабочих стекольной промышленности и жестянщиков, железнодорожников, в то время как ПНП «Освобождение» имело сильно влияние в профсоюзах предприятий пищевой промышленности (около 60 %). Все это привело к созданию фактической базы сторонников ППС и появлению в апреле 1925 г. секретариата ППС в Лиде во главе с Томашевским [9, л. 792-794].

Начиная с мая 1925 г. ППС перехватывает лидерство у ПНП «Освобождение» в Лиде и повете. Традиционным шагом ППС, с целью укрепления в регионе, стала работа по организации культурно-просветительских учреждений на базе ячеек партии или профсоюзных комитетов контролируемых партией. Так, 05 июля 1925 г. местным комитетом ППС было открыто представительство Товарищества рабочего университета. В том же месяце совместно с профсоюзом земледельцев, ППС открыла в Лиде Общество рабочей молодежи [8, л. 7-8].

Осень 1925 г. прошла на Лидчине под знаком борьбы польских политических партий в регионе. Представители ПНП «Освобождение», ППС и НКП проводили отчетно–выборные собрания, выезжали с агитационными собраниями в повет. НКП даже пыталась провести несколько несанкционированных митингов и собраний на территории г. Лиды, однако все они были пресечены полицией.

26 сентября состоялось заседание лидского комитета ППС. На нем были утверждены кадровые изменения в составе комитета. Председатель Томашевский сложил с себя полномочия в связи с переводом его в г. Волковыск. Новый состав комитета был утвержден в следующем составе: Феликс Гуис (председатель), Капелюк, Антонович, Чайковский – члены комитета [9, л. 1407-1412].

06 декабря прошло собрание ППС в кинотеатре «Эдисон». На собрании присутствовало 400 человек, председательствовал новый руководитель местного комитета ППС Ф. Гуис. На повестке дня обсуждались перспективы развития партийного строительства в регионе, решение социальных вопросов [10, л. 10-12].

Начало 1926 г. свидетельствовало о росте популярности ППС и ослаблении ее политических противников в регионе. Так, в отчетном докладе секретаря ППС Ф. Гуиса за 1925 г. отмечается рост численности городского комитета ППС. По его словам, в начале деятельности городского комитета (февраль 1925 г.) в его состав входило 7 членов, а на январь 1926 года 39 человек. В планах комитета было отмечено продолжение интенсивной деятельности в повете.

Деятельность ПНП «Освобождение» в Лидском повете к началу 1926 г. сводится к единичным встречам депутатов партии с жителями региона во время их проезда в Вильно или другой регион [10, л. 29-31].

В многочисленных полицейских отчетах и партийной прессе за период февраль–март 1926 г. сообщается о наращивании активной деятельности в повете и городе Лида лишь ППС. Партия провела 2 митинга: 14 февраля в д. Конюшаны (70 человек), 21 февраля – в Лиде (450 человек). На митингах выступающие затрагивали текущие политические вопросы, особое место в выступлениях было отведено, как не странно

ППС, как для рабочей партии, вопросам связанным с решением земельного вопроса [10, л. 53-55].

Кроме того, ППС провела 32 организационных собрания в деревнях Лидского повета и открыла 14 новых комитетов, а именно: в д. Огородники Гончарской гмины (под пред. Моровецкого), в д. Руда Ганчарской гмины (под пред. Урбановича), в д. Еремевичи Гончарской гмины (под пред. Шумейко), в д. Людоры Гончарской гмины (под пред. Сихени), в д. Поречье Белицкой гмины (под пред. Бартошевича), в д. Лозяны Белицкой гмины (под пред. Жилинского), в д. Велички Белицкой гмины (под пред. Драгуна), в д. Мосевичи Тарновской гмины (под пред. Мухладо), в д. Поречаны Тарновской гмины (под пред. Вальчика), в д.Ольжево Тарновской гмины (под пред. Ничипора), в д. Полубники Тарновской гмины (под пред. Општера), в д. Радивонишки Тарновской гмины (под пред. Казюты), в д. Цвербиты Тарновской гмины (под пред. Касперского), в д. Пески Лебедской гмины (под пред. Коробач). Всего за данный период новыми членами ППС стали 140 человек (по данным полиции и собственным подсчётам) [10, л. 74-86].

В начале 1926 г. начался процесс организационного становления Крестьянской окраинной партии (КОП). В ее ряды вошли депутаты Я. Адамович, А. Дубровник, А. Халко, С. Хелман и Б. Вендзялковский. В первой половине 1926 г. организационная и пропагандистская деятельность партии проходила в Лидском и Щучинском поветах [2, s. 117]. На территории Лидского повета Крестьянская окраинная партия появилась в апреле 1926 г. Её работу возглавил недавний лидер местного комитета ПНП «Освобождение» А. Дубровник. 02 апреля 1926 г. он выступил на митинге в Германишках Седлицкой гмины. Речь А. Дубровника была критикой деятельности НКП. Выступающий заявил о планах на быструю организацию сети сельских комитетов партии. В это же время представитель НКП Ст. Баллин с целью сорвать выступление Дубровника попытался организовать митинг на своей малой родине в Трокелях (соседствующие населенные пункты, 9 км друг от друга), однако разрешение местных властей не получил. Деятельность НКП представляла собой пассивную агитацию (листовки, газеты).

Крайне правый Общественнонародный Союз после долгого перерыва напомнил о себе, организовав в апреле 1926 г. митинги в Лиде (депутат Поповски) и Эйшишках (Рачковский) [11, л. 94].

Не менее активно, нежели в февралемарте 1926 г., продолжала работать на территории Лидского повета в апреле и ППС, которая открыла 9 новых деревенских комитетов в Лебедской гмине: д. Лесники (под пред. Позняка, 9 членов), д. Большое село (под пред. Ковальчука, 8 членов), д. Малыши (под пред.Шимона, 8 членов), д. Леневцы (под пред. Енко, 6 членов), д. Голдово (под пред. Ковальчука, 8 членов), д.Игнатовцы (под пред.Тарасюка, 6 членов), д. Климовичи (под пред. Жамойтина, 6 членов), д. Семашки (под пред. Войтюшкевича, 6 членов), д. Пасюты (под пред. Ошмяны, 6 членов). Открыто было и 2 ячейки в Докудовской гмине – в Докудово (под пред. Сойко) и д. Петры (под пред. Сягло) [11, л. 194].

В мае 1926 г. КОП под предводительством депутата А. Дубровника провела 3 митинга: в Щучине, Белогруде (несанкционирован, разогнан полицией), в Желудке. На митингах была оглашена и принята резолюция, основными положениями которой были: избрание Пилсудского президентом, роспуск сейма и сената, создание рабоче-крестьянского правительства.

